РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №18 (127). 4 МАЯ 1994 ГОДА.

СЁННЯ:



TV-ПРАГРАМА:

БТ,
«Астанкіна»,
канал «Расія»,
Санкт-Пецярбург,
8-ы канал.

Стар. 15.



Сонца ціха прыпякло.
Снег пайшоў упрэчкі.
Нібы вымытае шкло
Плынь блакітнай рэчкі.

Сакавік Красавіку
Праз раку падаў руку –
Прывітаў гарэзу.
З юнаком-Красавіком
Прыкаціўся першы гром
З воблакамі бэзу.

Прыляцеў салоўка ў гай,
Заспяваў з дарогі.
І ўвайшоў у хату Май –
Воін Перамогі.

Не бяруць яго гады!
З кожным веснім святам
Ён такі жа малады,
Як у Сорак Пятым!

Валянцін ТАРАС.



Фотаэцюд Генадзя ЖЫНКОВА.

1945 -- 1994. Цішыня...

ЭКСКЛЮЗІЎ

# “КУЛЬТУРА ПОЛЯ ІДЗЕ ПОРУЧ З КУЛЬТУРАЙ ЧАЛАВЕКА”

**Ад рэдакцыі:**

**Ледзь не першымі крокамі доктара , былога загадчыка кафедры эканомікі і арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці Мінскай вышэйшай партыйнай школы, які добраахвотна абраў сабе кар’еру старшыні калгаса і пераехаў жыць у Валожынскі раён, былі... сустрэчы з паэтамі, дзеячамі культуры, якія Сямён Георгіевіч Шарэцкі стаў праводзіць у калгасе “Чырвоны сцяг”. Ён працаваў заўзята і старанна, імкнучыся ўзяць у калгасна-саўгаснай сістэмы ўсё, што магчыма, для простага чалавека. Аб ім пісала прэса, праўда, апошнія гады ўсё радзей. А тым часам Сямён Шарэцкі стаў старшынёй Аграрнай партыі, у праграме якой шмат увагі надаецца культуры, народнай творчасці, адраджэнню беларускай дзяржаўнасці. І артыкул, які ён нам прынёс у рэдакцыю, так і называўся словамі Ціміразева — “Культура поля ідзе поруч з культурай чалавека”.**

**Характэрная дэталь — Сямён Георгіевіч збіраецца разам з сынамі пабудаваць помнік заснавальніку іх вёскі Лаўрышава, дзе некалі сын наваградскага князя Міндоўга Войшалк, які стаў пасля манахам Елісеем Лаўрышаўскім, заснаваў манастыр. Да зямлі ён адносіцца беражліва і з павагай, верыць у тое, што будучае незалежнай Беларусі звязана з прыярытэтным развіццём сельскай гаспадаркі. Нядаўна ад Аграрнай партыі кандыдатам у прэзідэнты быў вылучаны старшыня калгаса “Прагрэс” Гродзенскай вобласці Аляксандр Іосіфавіч Дубко, як паясніў Сямён Шарэцкі, таму што гэты чалавек — у першую чаргу Стваральнік. Працуючы на зямлі, можна толькі ствараць.**

**.Даючы слова Сямёну Георгіевічу, мы запрашаем да размовы — якою павінна стаць наша сельская гаспадарка? — і іншых спецыялістаў.**

Як мне здаецца, камуністычная партыя, членам якой я быў з 1961 года, з дваццацічатырохгадовага ўзросту, была “заціснута перабудовай”, за якую яна так шчыра ўзялася агітаваць. Заціснутая таму, што сама не збіралася рэфармавацца, а Час прыспешваў. На жаль, гэты сумны вопыт не стаўся перасцярогай для тых, хто і сёння думае стрымаць і час, і рэформы...

Яшчэ на XIX партканферэнцыі, калі я ўбачыў блізка лідэраў краіны, я зразумеў, што гэтую партыю ўвогуле трэба было б падзяліць на некалькі, у тым ліку на партыю, якая б выказвала інтарэсы сялян. КПСС была па сутнасці партыяй рабочага класа, партыяй яго дыктатуры, а сяляне пры ёй заставаліся нейкімі спадарожнікамі. Тады, у час партканферэнцыі, было добра бачна, што Саюз стаіць на адной назе, а другая ў яго — падпорка. Сялянства, хаця плаціла тыя ж падаткі, павінна было яшчэ самастойна будаваць для сябе школы і клубы, бальніцы і жыллё. І, нягледзячы на тое, што дэкляравалася яшчэ адна форма ўласнасці — кааператыўная, усё навокал было толькі дзяржаўнае.

Стварыўшы Аграрную партыю, мы паставілі перад сабой задачу — рэфармаваць сельскую гаспадарку шляхам спалучэння прыватнай і дзяржаўнай уласнасці. Як гэта будзе выглядаць на практыцы? Буйныя комплексы засталіся б дзяржаўнай уласнасцю, бо сёння ў людзей няма грошай, каб выкупіць іх, ды і без падтрымкі дзяржавы яны пакуль што не змогуць развівацца ў рынкавых дачыненнях. Калі б нават знайшліся сродкі ці комплексы ўвогуле былі аддадзены задарма, то ўсё роўна ўзнікла б праблема з кармамі, з тэхнікай і г.д. За дзяржавай засталіся б племзаводы і семянныя калгасы ці саўгасы.

Усё астатняе павінна быць прыватызавана. Але па адным ўзоры гэтага не зробіш — мы сёння маем мноства варыянтаў, калгасы адрозніваюцца па развіццю прадукцыйных сіл, па ўмовах, нават па колькасці насельніцтва. Таму прыватызацыя павінна ісці па загадзя распрацаваных навукай шматлікіх мадэлях. Галоўнае ж у прыватызацыі — паставіць у цэнтры ўсіх рашэнняў чалавека. Няхай ён рашае сам — фермерам ён хоча быць ці хоча застацца ў калгасе, які, вядома, таксама набудзе новыя формы. Ёсць людзі, якія не хочуць быць аднаасобнікамі. Яны могуць узяць ферму, майстэрню — але застануцца ў вялікім кааператыве, у які ператворыцца калгас ці саўгас.

Дарэчы, у сваім былым калгасе “Чырвоны сцяг” мы яшчэ ў 1991 г. падзялілі ўсю маёмасць прапарцыянальна стажу і працоўнаму ўкладу. Вядома, не натурай — табе плуг, а мне — сіласная яма. Падзялілі агульны набытак у грошах, зрабілі чэкі. Камусьці дасталася на 40 тысяч чэкаў, мне асабіста — на 17 тысяч, якія я выкарыстаў пры выкупе свайго дома. Некаторыя захацелі на свае чэкі купіць тэхніку, некаторыя — увогуле іх прадаць. Дазволілі і прадаваць, толькі ў межах калгаса. Калі чалавек нічога не набыў, ён мог пакінуць грошы ў калгаснай касе і атрымаць у канцы года працэнт ад прыбытку. Некаторыя захацелі пайсці ў фермеры (дарэчы, самыя адукаваныя і энергічныя) і набылі зямлю. Так, фермерамі сталі галоўны інжынер калгаса Генадзь Кнітар, мой намеснік Антон Нелюб, вадзіцель Сіняўскі, былы старшыня аднаго з дробных калгасаў, што ўвайшлі пасля ў “Чырвоны сцяг”, Віктар Русовіч (дарэчы, ён казаў, што нарэшце знайшоў сам сябе ў гэтай справе). Усяго фермерамі сталі 28 чалавек.

Але як толькі я пайшоў з калгаса, прыватызацыя нібы “захлынулася”. Прычына навідавоку — наша раённае начальства, як і іншыя раённыя кіраўнікі Беларусі, супраць рэформ. Так, галоўныя праціўнікі рэформаў — не калгаснікі, не старшыні, а галоўным чынам абласное і раённае кіраўніцтва, бо яны самі не перабудаваліся з улікам патрэбаў рынку. І, на жаль, з гэтым пакуль што нічога не могуць зрабіць ні Міністэрства сельскай гаспадаркі (дарэчы міністр, Фёдар Уладзіміравіч Мірачыцкі, член нашай партыі), ні перадавыя старшыні калгасаў. Тут патрэбна ўмяшанне і падтрымка дзяржавы. Таму, калі б наша партыя прыйшла да кіравання, мы пачалі б адразу з рэфармавання як Савета Міністраў, так і гэтых органаў улады. Без гэтага ніякія рэформы на Беларусі не пойдуць. Ды яны, па сутнасці, і не пачыналіся. Так, ледзь-ледзь дакранаюцца да рэформаў, але, каб крый Божа, яны не пайшлі, каб нішто не зрушылася. Так, сельскай гаспадарцы даюць грошы, і нават шмат грошай, але толькі тады, калі бачаць, што яна вось-вось паваліцца. Гэта як пры хваробе — калі чалавек памірае, падлечаць яго, пакуль ён зноў не пачне хадзіць, хай сабе і ледзь-ледзь. А трэба было б спачатку стварыць сапраўдныя ўмовы для сельскай гаспадаркі, “выцягнуць” яе з глыбокай ямы.

Без прыярытэтаў для сялянства ніводная краіна не паднялася на высокі ўзровень. Нагадваецца крызісная сітуацыя ў ЗША ў 1929-33 гг. Тады ўрадам Рузвельта, што прыйшоў да ўлады, была распрацаваная цэлая праграма, накіраваная на пад'няцце сельскай гаспадаркі і падтрымку фермерства.

Сельская гаспадарка не бывае стратнай. Яе робяць такой кіраўнікі і дзяржава, якія парушаюць суадносіны паміж цэнамі — тымі, па якіх закупляюць тэхніку і ўраджай.

У нашай краіне, беднай на карысныя выкапні, сельская гаспадарка магла б не толькі задавальняць патрэбы насельніцтва, але і даваць прыбытак ад імпарту. Але ж наша бяда ў тым, што мы не ўмеем і не можам надаць нашым прадуктам сапраўдны таварны выгляд, каб яны маглі канкурыраваць з замежнымі. Варта было б укласці грошы ў аграпрамысловы комплекс для развіцця харчовай і перапрацоўчай прамысловасці — і гэта памагло б вывесці нашу рэспубліку са стану крызісу. Я глыбока перакананы ў гэтым.

Сёння ў грамадстве тры сілы, якія маюць уплыў — камуністы, аграрнікі і БНФ. Але толькі аграрнікі прапанавалі ясны і дакладны план вывядзення краіны з крызісу. І варта сказаць, што кіраўнікі дзяржавы пачынаюць гэта разумець: ужо ў гэтым годзе будзе праводзіцца праца па прыватызацыі, ці, дакладней, акцыянаванню перапрацоўчых прадпрыемстваў — мясакамбінатаў, малочных заводаў, а далей і сэрвіснай службы.

Спланаваныя першыя крокі... І наша асноўная задача — паскорыць іх ажыццяўленне.

**Сямён ШАРЭЦКІ.**

# ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ АД ПЕРШАЙ МРОІ

У межах праекта «Сто гадоў беларускаму рок-н-ролу» 19 красавіка на сцэне Альтэрнатыўнага тэатра адбыўся юбілейны канцэрт рок-гурта «Мроя», аднаго з найбольш аўтарытэтных калектываў беларускага андэграўнда. Дарэчы, «Мроя» была створана яшчэ ў 1981 годзе, але яе першы вялікі канцэрт адбыўся менавіта ў красавіку 1984г. на святе выяўленчага мастацтва ў Траецкім прадмесці. Пасля гэтага гурт выступаў на фестывалях у Польшчы, Францыі, на Беларусі і Украіне, запісаў пяць альбомаў і шэраг асобных кампазіцый.

Канцэрты беларускіх рок-гуртоў ладзяцца ў Альтэрнатыўным тэатры штомесяц, і трэба сказаць, месца для іх абрана вельмі ўдала. Рок-музыка — адзін з найбольш дэмакратычных жанраў мастацтва, і зала тэатра, дзе няма рампы і рады крэслаў узвышаюцца над сцэнай, спрыяе разняволенасці гледачоў, падштурхоўвае іх да актыўнага саўдзелу ў прадстаўленні. Кожны мог выйсці на сцэну і ў каляровым мільгаценні святла адчуць сябе артыстам, кінуўшыся ў скокі. Ужо на трэцяй песні падпітыя прыхільнікі хард-року выскачылі на сцэну трэсці лахманамі перад відэакамерай. Наканаванне музыкі — абуджаць чалавека, але не заўсёды ў ім прачынаюцца лепшыя якасці...

«Мроя» ў гэты вечар грала блюзы, акустычную музыку, напаўметалічныя кампазіцыі розных гадоў, дэманструючы універсалізм высокапрафесійных музыкаў. Спяваў, пераважна, Лявон Вольскі — клавішнік і лідэр гурта, апрануты з нагоды ўрачыстасці ў фрак і чорныя джынсы. Віртуозна граў новы сола-гітарыст Піт Паўлаў, узмацняючы музычныя вобразы вельмі эмацыянальнай мімікай. Абаяльны Юрась Ляўкоў (бас-гітара) па сваёй звычцы трымаўся ў ценю. За бубнамі было амаль не відаць, як і ўсялякі сапраўдны падмурак, Алега Дземідовіча (многія мройныя песні нараджаюцца менавіта ў яго). Частку кампазіцый музыкам дапамаглі выканаць сябры з іншых гуртоў, перадусім — Лявон Шырын з «Новага неба». Асабліва ўразіла, калі Вольскі граў на губным гармоніку, а Шырын — на ягонай гітары, абхапіўшы сябра ззаду рукамі.

Пакуль доўжыўся канцэрт, людзей на сцэне станавілася ўсё болей, музыкаў амаль заціснулі кудысьці ў кут. Кожны хацеў паспяваць разам з «Мрояй» знакамітую песню «Я — рок-музыкант старых традыцый». Спявалі разам і новы хіт «Наш карабель яшчэ плыве, наш рок-н-рол яшчэ жыве!». Напэўна, мы сапраўды адчувалі сябе экіпажам і пасажырамі ўяўнага карабля, што вязе нас да чыстай і святой зямлі, якую абмываюць музычныя хвалі.

Вось так быў адзначаны юбілей славутага гурта. Пажадайма ж «Мроі» плённай працы на ніве беларускага року і добрага ўраджаю. Сямі футаў пад... плугам!

**Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

## ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

- **З 2 па 7 мая ў Мінску праходзіць Міжнародны фестываль музыкі «Мінская вясна — 1994» «Велікоднае музычнае прынашэнне».**
  Уступнае слова-блаславенне на пачатку ўрачыстасцяў сказаў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. Фэст адкрыла ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Рэспублікі Беларусь імя Рыгора Шырмы. Прагучала «Літургія Іаана Залатавуста» Сяргея Рахманінава.

- **3 мая ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі адбыўся канцэрт «Шэдэўры бельканта». У ім бралі ўдзел маладыя оперныя спевакі: Рыгор Палішчук, Ганна Гур’ева, Ірына Жырко, Сяргей Франкоўскі і іншыя выканаўцы.**

- **3 мая ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адкрылася выстава сучаснай польскай кнігі, прымеркаваная да Дня незалежнасці Польшчы. Яе арганізавалі амбасада Рэспублікі Польшча на Беларусі, фонд «Дапамога палякам на Усходзе» і Нацыянальная бібліятэка.**
  Выданні, што прадстаўлены ў экспазіцыі, — дар польскага народа беларускаму. Пасля закрыцця выставы кнігі папоўняць фонды першай бібліятэкі краіны.

- **4 мая ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі ў рамках Міжнароднага фестывалю музыкі «Мінская вясна — 1994» «Велікоднае музычнае прынашэнне» — канцэрт Народнага хору Беларусі імя Г.Цітовіча «Памажы, Божа, вясну заклікаці!».**

- **4 мая ў мінскім Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адкрываецца выстава паштовак старога Мінска «Няма таго, што раньш было» часоў М.Багдановіча з вялікай калекцыі беларуса з Рыгі Вячкі Целеша.**

- **4 мая ў Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі таварыства «Беларусь — Ізраіль» наладжвае сустрэчу, прысвечаную Дню Перамогі над фашысцкай Германіяй і 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

- **5 мая ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі на Міжнародным фестывалі музыкі «Мінская вясна — 1994» возьме ўдзел Дзяржаўны камерны хор Беларусі пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова, які выканае Велікодныя песнапенні беларускай царквы XVIII-XIX стагоддзяў.**

- **5 мая ў Мастацкай галерэі Беларусі адкрыюцца адразу тры выставы, прысвечаныя праваслаўнаму Вялікадню і беларускай асветніцы святой Ефрасінні Полацкай.**
  У першай экспазіцыі будуць прадстаўленыя работы майстроў старэйшага пакалення — Алены Лось і Валерыі Жолтак. У другой, якая носіць назву «Сіняя прастора», — гледачы ўбачаць творы на рэлігійныя тэмы мастакоў сярэдняга пакалення — Сяргея Кірушчанкі (жывапіс) і Тамары Сакаловай (кераміка). На трэцяй выставе будзе дэманстравацца дзіцячая творчасць.
  Усе тры выставы наладжваюць Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь і дабрачынны фонд «Шлях Ефрасінні Полацкай».

- **6 мая ў Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі — сустрэча творчай інтэлігенцыі Мінска з паслом Літоўскай Рэспублікі на Беларусі Альфонсасам Аўгулісам.**

- **7 мая ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі — вечар старадаўняга раманса. Аматары музыкі пачуюць вядомыя творы ў выкананні маладых салістаў — Аксаны Ганевіч, Рыгора Палішчука, Таццяны Ціуновай, Уладзіміра Грашчанкі.**

- **8 мая ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Беларусі адбудзецца дабрачынны канцэрт, які наладжваюць Рэспубліканская асацыяцыя інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны і тэатр музкамедыі. Выступяць вядучыя выканаўцы тэатра.**

- **У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі працягваецца выстава «Паланез для касінераў», прысвечаная 200-м угодкам вызвольнага паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі.**

ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

# СТУДЭНТЫ ЖАБРАКАМ НЕ ПАДАЮЦЬ...

«Я жыву на восьмым небе. На гэтым вялікім небе для мяне таксама, як ні дзіва, знайшлося лішняе месца — невялікі заштораны закуточак у, прыкладна, метры два квадратных, акурат каб паставіць жалезны ложак, а побач перакошаную, збітую няведама з чаго, з рыпучымі дзверцамі тумбачку. Гэта — уся мая інфраструктура, так лічу я, рэчы перададзеныя ў часовае карыстанне, якія і складаюць неад'емную частку чалавечага жытла, няхай ты сабе жывеш і на восьмым небе. Хаця не, на маёй сценцы ў пластмасавых вазонах растуць нашыя, зямныя хатнія кветкі, што з'яўляюцца вялікай рэдкасцю на ўсім восьмым небе. Кветкі растуць, слава Богу, ужо тры гады, але, нягледзячы на гэта, старажыламі назваць іх вельмі цяжка, бо ніяк іхнія верхавінаwкі не могуць падняцца больш за дзесяць сантыметраў ад зямлі і раскінуць сваё, чамусьці шэрае, лісце па ўсёй сцяне. Магчыма, бедная расліна пакутуе ад кіслароднага галадання, бо ў маім закуточку часта бывае нязносна напалена, адсюль ў закатаваных кветачак такі невясёлы выгляд, а мо недастаткова паліваю, і мая зеляніна сам-насам змагаецца са смагай, і адкуль, здаецца, ёй брацца, бо да іх зрэдку праз адзіную замусоленую шыбу, што глядзіць на поўнач, даходзяць сонечныя праменьчыкі. Але гэта так, між іншым, — ва ўсім вінаваты я, я пазбавіў іх нармальнага жыцця. Але і яны, як і іхні гаспадар, знаходзяцца на восьмым небе. І гэтым усё сказана. І жыву на гэтым восьмым небе не ад вялікага шчасця. Туды, так высока падкінула мяне жыццё. Бо восьмае неба не што іншае, як восьмы паверх студэнцкага інтэрната.

Так, я студэнт і ганаруся гэтым званнем, ну, можа, трохі менш, чым мае бацькі ў свае далёкія гады юнацтва, якім Бог падкінуў радасці выгадаваць свайго любімага нашчадка да пары студэнцкай. Адчуваю, радасці ў іх з таго часу, як я паспяхова здаў апошні ўступны іспыт, і да сённяшняга дня значна паменшылася. А мо і застаўся толькі адзін голы гонар за сына-студэнта, студэнта-абузу. Мо, перабольшваю...

Наступнае — ужо не з раду перабольшвання, каб не яны, то даўно ўжо б загнуўся. І не адзін я. Нас тысячы. Гэта і радуе, што я не адзін у бядзе сваёй. А таму, калі б на тое мая воля, усім студэнтам выдаў бы па «залатой зорцы», праўда, няведама якога саюза, за жыццё ў экстрэмальных умовах, тады і адлік шчаслівчыкаў рэкамендую пачынаць з красавіка дзевяностага года.

Кажуць, студэнты не такія, як гадоў дзесяць таму. Магчыма. Ну, а вось нашы будучыя вучоныя галовы не такія, як у Францыі ці ў Італіі, дык гэта дакладна. Мы спакойныя, мы міралюбныя. Але і гэта не галоўнае — мы вясёлыя. Ну, ці хіба не пра нас сказана — ад сесіі да сесіі студэнту жывецца весела? Але і сесія таксама не перашкода для весялосці. Бо і ў час яе ў кінатэатрах існуюць ільготныя сеансы, і па студэнцкім білеце за паўцаны пакуль яшчэ можна набыць праязны квіток на гарадскі транспарт. А гэта значыць, што яшчэ не ўсё так дрэнна. Ведаем (ці здагадваемся?), што дзяржава пра нас клапоціцца. Таму мы такія міралюбныя і спакойныя і кожную ініцыятыву ўрада па ўкараненні чарговай праграмы, накіраванай на паляпшэнне жыцця роднага народа, падтрымліваем «на ўра!». Мы, студэнты, яму ўдвая абавязаны. Хто як не ўрад выратаваў моцную палову студэнтаў ад непазбежнай арміі, тым самым пакінуўшы вялікі выбар для дзяўчат. Мала таго, студэнту за вучобу, ці, як кажуць, за тое, што ты нічога не робіш, а проста вучышся, выплочваюць яшчэ і дапамогу, якая ва ўсе часы называлася не інакш, як стыпендыяй. Адным словам, ты нічога не робіш, а табе за гэта яшчэ і грошы плоцяць. Во як!

Толькі маці, якая штомесяц выдзяляе на розныя патрэбы некалькі дзесяткаў тысяч «зайцоў», раней усё дзівілася: і праз якія гэта дзіркі ў кішэні мае грошы прасочваюцца? Зараз не пытаецца. Мела раз шчасце прыехаць пагасцяваць да мяне з радзімы-Століншчыны, з якой далей райцэнтра вось ужо пяць гадоў нікуды не выязджала. Не ведаю, што з маці здарылася, але з таго часу яна мяне яшчэ мацней палюбіла і грашовыя пераводы сталі больш важкімі. Усё — для будучага вучонага.

Мне сорамна! Ці хіба ж я галадаю? Жыхары «восьмага неба», якія за столькі гадоў сталі блізкімі і роднымі, памерці не дадуць. У каго бульба, у каго агурочкі, сала. Усё з дому, сваё. Толькі апошнім часам на сваю гістарычную радзіму дужа не наездзішся. Дарога туды-назад — цэлая стыпендыя, плюс пара-тройка тысяч «зайцоў», пазычаных у суседа.

Дай Божа хаця б раз на два месяцы дадому вырвацца... але мы ўсё роўна жывём... Ці выжывем?

Ці, як сцвярджае наша «абшчажная» статыстыка, прыбіральшчыца баба Оля, якая кожны раз будзіць нас на заняткі, інтэрнат нібы вымер і студэнты ядуць зусім мала, ці ўвогуле не ядуць, аб чым сведчыць заўсёды пусты бак для смецця, што ёсць на кожнай кухні.

З бабай Оляй нельга не пагадзіцца. Ёй таксама не салодка жывецца, бо за «ганаровую» працу (памятаеце: «все работы хороши...») яна атрымлівае каля сарака тысяч, а таму і вымушана прыбіраць пакоі замежным студэнтам за выстаўленыя ля дзвярэй пустыя бутэлькі. І баба Оля з усходам сонца спяшаецца на працу, каб апярэдзіць сваіх канкурэнтаў-студэнтаў, таксама ахвотнікаў да пустых бутэлек. Але ў нас пакуль не даходзіць да таго, каб у заклад за пяць даляраў адгрызці галаву кацяняці, як гэта некалі зрабіў адзін са студэнтаў юрфака БДУ.

І ўсё роўна — студэнтам быць добра. Няхай і не заўсёды. Ну і няхай, што толькі ў адзін дзень на месяц — доўгачакны дзень «слёзнай» стыпендыі. Тады можна схадзіць у студэнцкую пры інтэрнаце сталоўку і замовіць сабе комплексны абед, да прыкладу. Прынамсі, тут харчуюцца ў асноўным цёмнаскурыя студэнты, магчыма, ім кухня падабаецца, а магчыма, і цэны ім не здаюцца занадта кусачымі. У «савецкіх» студэнтаў да замежных адносіны таксама асаблівыя. Але і сярод іх ёсць, так бы мовіць, «нармальныя», нават інтэлігентныя людзі. Пра нас яны, упэўнены, думаюць тое ж самае. Гэтыя дзве чалавечыя расы з ліку студэнтаў ўзненавідзелі адна адну з першага ж дня знаходжання замежнікаў на нашай зямлі. Былая перанаселеная камуністамі рэспубліка змагалася, безумоўна, за дружбу паміж народамі, студэнцкімі таксама. Празорлівай палітыцы студкамаў зараз можна толькі падзівіцца. Але раней у адзін пакой сялілі жыць разам для эксперымента негра і араба, прычым не забываліся разбаўляць гэты вінегрэт адным беларусам. Эксперымент не атрымаўся. Вайна паміж людзьмі розных культур, веравызнанняў часам перарастала ў кровапралітную. Быў нават такі прыклад, калі «савецкая студэнтка» пад пагрозай прымусіла дзяўчыну з Афганістана, а год тады быў 87-ы, залезці на падваконнік і праспяваць з восьмага паверха гімн СССР, бо тая забараняла ёй па начах вучыць канспекты, выключала святло і перад сном выкручвала ў пакоі ўсе лямпачкі. Іншаземка незвычайную «просьбу», хоць ёй таго не хацелася, усё ж выканала, але крыўдзіцельцы сваёй так проста з рук не спусціла — у прафкамы, студкамы і іншыя камкамы паляцелі скаргі. І яна свайго дабілася. Дзяўчыне з глыбінкі Беларусі далейшая дарога да ведаў у гэтай ВНУ была загароджана. Прабачце, загаварыўся...

... Са стыпендыі можна схадзіць на міжгародны перагаворны пункт патэлефанаваць дадому і ўволю нагаварыцца з маці, бацькам, сястрою і з суседам па лесвічнай пляцоўцы. Разам парадавацца жыццю. З імі, канешне, дужа не нарадуешся, бо ведаеш, што ўсе яны каторы месяц знаходзяцца ў пазачарговым адпачынку з нагоды спынення дзейнасці прадпрыемстваў і самі ледзьве зводзяць канцы з канцамі. Але яны мяне любяць і чакаюць у госці.

Дарэчы, студэнты, нават калі ў іхняй кішэні водзіцца хоць нейкая капейчына, жабракам не падаюць. Ну, чым мы не роўныя? Толькі вось, гледзячы на іх, я чамусьці адразу ж прыпамінаю сваю бабульку, што ўсё жыццё адпрацавала ў калгасе, і я ні разу не бачыў, каб яна сядзела склаўшы рукі. А гэтыя?! Хаця, у кожнага свой лёс...

... Год з большым мне засталося студэнтам звацца. Жыццё самастойнае не за гарамі. Ні табе стыпендыі, ні табе залікаў і іспытаў, ні... пэўнай працы ў будучыні.

Прыпамінаю, як бацька казаў у дзяцінстве, калі яго не слухаўся, што не будзе з мяне толку ў жыцці. Во вырасту, пашле мяне да дзеда Міколы на хутар і буду я там на полі пугай кароў ганяць...

І ўсур'ёз мо казаў, га?»

# ...ЖАБРАКІ ТАКСАМА Ў НЕЧЫМ КАМЕРСАНТЫ...

Мінулай восенню, калі «Пепсі-колу», напітак славутай кампаніі, яшчэ можна было назваць сапраўды «народным», я сядзеў на бульвары, які няведама колькі гадоў упрыгожвае бюст жалезнага Фелікса, што кідае свой спахмурнелы позірк на велічнае збудаванне — былое прыстанішча КДБ, на праспекце, названым у гонар першадрукара-асветніка. Я сядзеў і са смакам пацягваў праз саломінку выраб з сакрэтнага канцэнтрату амерыканскай фірмы.

Праз некаторы час гэты чароўны напой ужо ніяк не хацеў залівацца мне ў глотку — я пачаў лавіць на сабе прагныя позіркі бабулек і дзядулек, што выйшлі прагуляцца па Мінску ў пошуках пустых бутэлек. Мне стала неяк не па сабе. Здавалася, што вось яны ўсім кагалам сарвуцца са свайго аблюбаванага месца з лаўкі насупраць і кінуцца на мяне. Так яно і выйшла. Толькі паспеў я зрабіць апошні глыток, як «паляўнічыя» ўжо стаялі перада мною з працягнутымі рукамі. Сам не ведаю чаму — пустую бутэльку сунуў у замусоленую далонь згорбленага дзядка.

— Во даюць, канкурэнты зусім дасталі, — выпаліў дзядок, калі ягоныя «калегі» перамятнуліся на іншы аб'ект сваёй дзейнасці. — На іх яшчэ араць і араць можна, а яны бутэлькі збіраюць.

— А ты што? — не стрымаўся і спытаў я.

— Ды я ж хворы, вось бачыш, — і нібыта ў пацвярджэнне сваіх слоў ён зайшоўся працяглым сіплым кашлем.

Цяпер нечаканы суразмоўца сядзеў побач са мной на адной лаўцы, апрануты ў нейкія лахманы, а за ягоным вухам тырчэла недапаленая «Астрына», якая яшчэ больш смярдзела, чым ейны ўладар.

— Неяк няёмка, я нават не прадставіўся, — раптам спахапіўся сусед па лаўцы, перарваўшы свой доўгі маналог. — Ай, заві мяне проста Федзькам, Федзям, Фёдарам, ці што.

Задаволены сваёй ветлівасцю, «проста» Фёдар дастаў з-за вуха недапалак, чыркнуў некалькі разоў запалкамі, з асалодаю выпусціўшы горкі дым, дадаў:

— Мяне тут усе ведаюць.

А мне падумалася: адным знаёмым у яго сёння стала яшчэ больш...

«Проста» Федзю я яшчэ неаднойчы бачыў на тым жа бульвары. Заўсёды запаволены, і сапраўды яму не было куды спяшацца, у тых самых лахманах, якія вось-вось, здаецца, распаўзуцца па нітках, з авоськай у руках, даверху напоўненай пустымі бутэлькамі, ён, бывае, усядзецца побач і як старому сябру раскажа чарговую гісторыю са свайго жыцця. А то і проста Фёдар праходзіць міма, вінавата павітаўшыся са мной вачыма, маўляў, выбачай, спраў па шыю.

З надыходам халадоў «проста» Федзя знік, як і зніклі аматары выпіць і закусіць пад ценямі дрэў бульвара Дзяржынскага. Тут мне і прыпомніліся вечныя скаргі Фёдара на задароўе: то яму ўжо нязносна хадзіць стала, то ад болю ў грудзях дыхаць немагчыма. Магчыма, гэтая восень у жыцці яшчэ маладога чалавека, а яму было ўсяго толькі пяцьдзесят чатыры, стала апошняй. Фёдар адышоў у нябыт, як расцёрлася апалае лісце на асфальце пад нагамі прахожых. Са слоў Фёдара я ведаў, што ў яго ёсць свой кут у прыватным сектары Мінска, дзе ён жыве разам з сужыцелькай, жанчынай, старэйшай за яго на дзесяць гадоў.

А некалі ў Фёдара ўсё было: праца на Мінскім трактарным, жонка, дзеці, якіх яму так і не давялося ўбачыць дарослымі. Фёдар спіўся. Пайшоў з сям'і. Кінуў жонку, двух дзяцей — хлопчыкаў, — чатыры і два гадочкі. За п'янкі яго выгналі з працы. Начаваў, дзе давядзецца, у кампаніі такіх, як ён сам. Калі надумаў вярнуцца дамоў — праз пяць гадоў, было ўжо позна. Былая жонка выйшла замуж, абмяняла кватэру і пераехала жыць у Расею.

Фёдар знайшоў сабе новую сяброўку, як кажуць, сабе роўную, з якой і пражыў, не будучы ў грамадзянскім шлюбе, больш за дваццаць гадоў.

Але я заўчасна пахаваў у думках Фёдара. Аднойчы, калі веснавое сонейка ўжо дастаткова прыгравала, у падземным пераходзе, што ля сталічнага універсама «Цэнтральны», сярод доўгага шэрагу жабракоў сядзеў сам Фёдар і заўзята выбіваў святы крыж. Фёдар пазнаў мяне адразу і ўскочыў на ногі. Мне стала неяк не па сабе, але ўсё ж працягнуў яму некалькі рублёў. У адказ ніводнага ўдзячнага слова. Жабрак толькі злосна выпаліў:

— А ты ведаеш, колькі зараз хлеб каштуе, га? — Перада мной ужо стаяў не тэй «проста» Фёдар, з якім мне давялося пазнаёміцца мінулай восенню.

Праз колькі хвілін мы разам з Фёдарам ужо сядзелі ў вядомым месцы, і ён распавядаў мне пра сваё жыццё.

Сапраўды было Фёдар ледзьве не аддаў Богу душу, атруціўшыся нейкім спіртам. Але гэта так, дробязі, будзённая сітуацыя, і яму не прывыкаць. Можна сказаць, са сваёй сяброўкай ён перазімаваў бязбедна, бо ўзялі да сябе кватарантаў, гандляроў з паўднёвых краін, што прамышлялі на Камароўцы. Грошай гаспадарам не плацілі, але і памерці з голаду не далі. З панскага стала тое-сёе перападала і старым, так што Фёдар вымушаны быў узяць «пазачарговы адпачынак».

Зараз сітуацыя ўскладнілася. Камерсанты раз'ехаліся, і Фёдар зноў выйшаў на «працу». Кажа, пасля «зімоўкі» людзі значна змяніліся. Міліянераў, адчуваецца, стала шмат, толькі вось падаюць мала, але гэтым заклапочаны ўсе канкурэнты.

Акрамя бутэлек Фёдар знайшоў для сябе яшчэ адно поле дзейнасці, як сам кажа — заняўся камерцыяй, а дакладней, значную частку дня праводзіць каля розных закусачных, рыскае па баках для смецця ў пошуках аднаразовага посуду, які пасля за нейкія грошы здае назад прадаўцам.

— Жыццё, яно віруе, — кажа Фёдар, — таму і кручуся як заведзены. Але нейкі рубель усё ж водзіцца.

Калі так, дык я рады за яго, што ён знайшоў хоць нейкае месца ў жыцці.

...Аднойчы ў тым жа падземным пераходзе я ўбачыў Фёдара. Толькі ўжо не з працягнутай шапкай. Ён стаяў ля кіёска «Спортлато» і дрыжачымі ад хвалявання рукамі адрываў карашок білета «Спрынт»...

# ...КАМЕРСАНТ СМУТКУЕ АБ ГАДАХ СТУДЭНЦКІХ

Я ўжо не памятаў ягонага сапраўднага імя, а прозвішча — тым больш. Ён жа ў адрозненне ад мяне — наадварот, пазнаў адразу ж і першым падышоў, звярнуўшыся нават па імені і імені па бацьку. І адразу ж пацягнуў мяне ў бліжэйшую кавярню адзначыць глытком кавы «працяг нашага знаёмства».

— Давай, хадзем, — настойліва ўпрошваў ён. — З нагоды такога свята грэх адмаўляцца. Колькі ўжо не бачыліся. Я частую, толькі пайду, колькі даляраў кіну.

І праз нейкую хвіліну мы ўжо сядзелі з ім ля стойкі бара і з асалодай моўчкі пацягвалі духмяны напой. Мо гэтым усё так і скончылася б, і гэтая сустрэча не пакінула б ніякага адбітка ў памяці, пакуль мой «даўні» знаёмы з усмешкай не прамовіў:

— Вось так і жыву... Даляры мяняю на «зайчыкі», тыя адпаведна здаю на макулатуру, ну а пасля зноў атрымліваю даляры. Усёк? Але не, я жартую. Работа ў мяне звычайная — камочнік я, а вунь і мой кіёск...

А я ўжо думаў зусім пра іншае... Сапраўды, з таго, першага і апошняга дня нашага кароткаімгненнага знаёмства мінула больш за тры гады. Тады таксама была вясна і студэнцкая моладзь з'ехалася на чарговы турыстычны злёт у Вязынцы. Юнакі і дзяўчаты разбіліся на невялікія групкі, смажылі бульбу, рабілі шашлыкі, спявалі песні пад гітару да самай раніцы. Незаўважна да нашай кампаніі далучыўся раней нам не вядомы хлопец-студэнт, як стала вядома, з першага курса ці то БПІ, ці то РТІ, у простых спартыўных штанах з выбітымі каленямі, у матроскай цяльняшцы і з гітарай на рамяні праз плячо.

Ён адразу ж уліўся неяк у нашу кампанію, чытаў уласныя вершы, спяваў, пастаянна жартаваў... На раніцу ўсе раз'ехаліся і з нас ужо ніхто нічога не ведаў пра жыццё вясёлага хлопца-першакурсніка.

І вось гэтая сустрэча праз столькі часу. Сапраўды, людзі мяняюцца не тольні знешне, але і ў свядомасці: у сваіх меркаваннях, поглядах на рэчаіснасць у залежнасці ад абставінаў. Мне не верылася, што гэты знаёмы незнаёмец з паголенымі скронямі, у чорнай скуранцы, шырачэзных джынсах і каўбойскіх ботах, што сядзіць перада мной, — той самы просты хлапец у цяльняшцы, з якім тры гады таму мы разам ганялі футбольны мяч вакол вогнішча на вязынскім турзлёце.

(Заканчэнне на стар. 6)

# ПЕРАСЦЯРОГА

**ПОЛЬСКІ філосаф Лешак Калакоўскі ў сваім фундаментальным трохтомным даследаванні «Галоўныя плыні камунізму» напрыканцы задаецца пытаннем: што засталося пасля камунізму? І адказвае: у прынцыпе не засталося нічога. Хутчэй за ўсё камунізм быў адной вялікай памылкаю, родам фарса, які разыгрывалі на могілках...**

Гэтая памылка, гэты фарс на могілках непасрэдна ўздзейнічаў на людскі розум. Таму размова аб уплыве таталітарызму на людскі розум не з'яўляецца спозненай. Выйсце з камунізму не азначае аўтаматычнага ўваходу ў сапраўднае дэмакратычнае жыццё. Таталітарная эпоха не была тым, што можна спакойна зачыніць, уводзячы дэмакратычны лад. Адна справа — вызваленне з-пад ярма таталітарызму, зусім іншая — вяртанне да нармальнасці. Мы дзесяцігоддзямі былі замкнёнымі ў сутарэннях вязення, брамы якога адчыніліся гвалтоўна і дастаткова дзіўна. Нам наканавана яшчэ пэўны час блукаць бруднымі і змрочнымі калідорамі ў пошуках якога-небудзь выйсця. Нас ніхто не прымушае — нават калі мы страшэнна стомленыя — кінуць пошукі і пагадзіцца на добраахвотнае пражыванне ў камерах. З другога боку, лёгка ўпасці ў роў ці нават у бездань, ідучы толькі наперад. Мы не выракаемся пражытых «у бальшавізме» сямідзесяці гадоў, але накіроўваемся ў 2000 год.

Таталітарызм нібы сканаў. Але ён увесь час дае знакі жыцця, як правадыр народаў з вядомага верша Еўтушэнкі «Нашчадкі Сталіна». Камунізм большы за лад. Гэта цмок, якога нарэшце прабіла дзіда святога Георгія. Ён несмяротны. У гэтага цмока стала адрастае хвост (сведчаннем чаму могуць служыць апошнія падзеі на Беларусі).

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ПЕРАД УТОПІЯЙ

ВОПЫТ камунізму (і таталітарызму наогул) пралівае святло на сутнасць чалавека. Камунізм (і ўвогуле таталітарызм) выцягнуў на паверхню з сакрэтных, глыбока схаваных закуткоў чалавечае існасці ўсё тое, што ў пэўных абставінах можа зрабіць яго подлым і бязлітасным.

Камунізм з'яўляецца феноменам нігілізму, які прадракалі Ніцшэ і Дастаеўскі. У той момант, калі пырскнула вера ў міласць Боскую, з'явілася язычніцкая вера ў фатум (рок), а надзея была ўкладзена ў фаталізм. Фатум у марксізме называўся «гістарычнай непазбежнасцю». Ён агідны, але і магутны. Супраць яго бунтаваць немагчыма. Вера ў фатум нараджае фатум. Вера ў свабоду нараджае свабоду.

Ідэалогія спакусіла пекнымі лозунгамі. Але яна страшная, калі яе спрабаваць рэалізаваць у жыцці канкрэтнага грамадства. Свет пераканаўся ў тым, што рэалізацыя ідэалагічнай утопіі патрабуе прымянення сродкаў, якія ў пэўны момант пачынаюць панаваць над формай самой ідэалогіі і становяцца важнейшымі за яе. Камунізм нясе перасцярогу перад утапічным мысленнем, перад усялякага роду утопіямі, нават калі яны шляхетныя. *Трэба мець ідэю, але засцерагацца ідэалогіі.* Бо ідэалогія заўсёды прагная, яна хоча ахапіць цэласнасць жыцця. А жыццё ж шматкаляровае, чым болей у ім рознага, тым яно багацейшае.

Знамянальна, што праўдзе пра «іншага» чалавека вучаць больш за ўсё катаклізмы. Дэфо, аўтар «Рабінзона», апісаў дэградацыю грамадства падчас лонданскай чумы 1665 г. Нам лепей вядома такая дэградацыя па «Баляванні падчас чумы» Пушкіна. Камю ў «Чуме» выкарыстаў пошасць як метафару людскага ўпадку, з якім змагаюцца дзве святасці: хрысціянская і свецкая. Камунізм жа ёсць не што іншае, як плён і выразнік грамадскай, палітычнай і духоўнай чумы.

## СПАДЧЫНА ТАТАЛІТАРЫЗМУ

НЕМАГЧЫМА на працягу сямі дзесяцігоддзяў беспакарана жыць пад уладаю сістэмы, якая ігнаруе правапарадак, паколькі ведае адно толькі сілу, і пагарджае законамі, якіх сама не ўстанаўлівала. А ўстанавіла гэтая сістэма свой лад, і так, каб ён вызначаў жыццё грамадства і свядомасць асобы. Пячатка гэтага ляжыць на ўсім духоўным жыцці сучаснага грамадства былога Савецкага Саюза.

Што ж засталося ў розумах людзей, якія на працягу пакаленняў мусілі цярпець трывалы вытанчаны націск неабходнасці хаваць свае думкі? Гэты націск, бадай, крыўднейшы за эканамічнае і палітычнае панаванне над людзьмі. Жыццё ў хлусні — не вынік простай раздвоенасці і адсутнасці раўнавагі ў грамадскай прастрэні паміж вартасцямі, якія прапагандуе грамадства, і сапраўдным жыццём людзей. Гэта непазбежны вынік сістэмы, якая зрабіла з хлусні і двудушнай мовы прынцып свайго ўплыву на людства.

Тое, што было злом, называлася дабром. Той, хто меў уладу, лічыў, што мае права перасоўваць дзеля сваёй карысці мяжу між дабром і злом.

Таталітарная сістэма займалася спецыфічным разбэшчваннем, якое так добра прышчапіла механізмы страху і пачуцця віны, зрабіла з хлусні і падману банальны спосаб захавання, бесперапынна маскіруючы або перакідваючы пачуццё віны на іншых. Камунізм «слушна» вучыў, што нельга быць ні ў кім упэўненым, што неразгаданай застаецца як адвага чалавека, так і ягоная нікчэмнасць, што яны часам спадарожнічаюць, як неразлучная пара.

Паслякамуністычны «левы» рух ганарыцца такой асобай, як Імрэ Надзь — камуністычны правадыр венгерскай рэвалюцыі восені 1956 г. (у СССР яе называлі «антыкамуністычным, контррэвалюцыйным мяцяжом»). Надзя выманілі з укрыцця ў югаслаўскім пасольстве ў Будапешце, паабяцаўшы, што выпусцяць за мяжу, і згодна з камуністычнай мараллю, не стрымаўшы слова гонару (слова гонару для «розуму і гонару эпохі» не існавала), расстралялі. Пры гэтым кіраўнік гэтай аперацыі генерал Сяроў трымаў пры расстрэле пад паху былога таварыша Надзя па ўраду Кадара — для навукі; Кадар самлеў пры гэтым жудасным спектаклі. (Гэта той самы Сяроў, які заманіў пад слова гонару на перамовы ў 1945 г. вяршаліну польскай Арміі Краёвай і выслаў іх на суд у Маскву, дзе даверлівых палякаў пасадзілі на доўгія гады ў турмы, частка іх ніколі не вярнулася дамоў.)

Надзя перазахавалі з гонарам у 1989 годзе. Але хутка выявіліся страшныя дакументы з архіва КДБ. У 1930 г. Надзь падпісаў у Маскве ўмову супрацоўнічаць з АГПУ. Адзінаццаць гадоў ён быў данасіцелем і спрыяў «ліквідацыі» шматлікіх венгерскіх камуністаў-эмігрантаў і савецкіх грамадзян. Сучасныя венгерскія паслякамуністы (Грош і таварышы) ведалі мінулае героя 1956 года, але маўчалі, баючыся «разбурэння нацыянальнага помніка ў сэрцах венграў»...

Камунізм пазбаўляў чалавека годнасці. Варта прачытаць апошні ліст Бухарына да Сталіна ад 10 снежня 1937 г. напярэдадні працэсу над ім. Аўтар ліста, як ачадзелы, прасіў і маліў «Кобу»-Сталіна злітавацца. Страшна чытаць такі прыніжальны тэкст. Ён сведчыць аб тым, як ленінскі «ўлюбёнец партыі», колішні прэтэндэнт на першае месца ў партыі, урэшце паўстаў у якасці бруднай шматы.

Спадчынай камунізму з'яўляецца разрыў міжлюдскіх сувязяў, страшэнная грубасць у адносінах, падазронасць і агрэсія. Спецыфічнымі рысамі, выпрацаванымі ў чалавеку камуністычным ладам за дзесяцігоддзі ягонага панавання, былі, паводле меркаванняў А.Аўтарханава, наступныя:

— абсалютная апатыя да духоўных каштоўнасцяў;

— атрафія ўсялякага грамадзянскага пачуцця і грамадзянскай годнасці;

— панічная прыхільнасць і боязь начальства;

— рабская пакорнасць да самых дзікіх актаў самавольства рэжыму;

— геніяльная палітычная дваістасць і мэтанакіраванасць як сродак самаашчады;

— абагаўленне ўласных катаў як вялікіх мудрацоў, асуджэнне іх ахвяр, нібыта вылюдкаў роду чалавечага.

А.Аўтарханаў падкрэслівае, што менавіта гэтым савецкі народ прынцыпова адрозніваецца ад колішняга дарэвалюцыйнага народа Расіі.

Польскі філосаф Барбара Скарга (дарэчы, паходжаннем з той часткі Заходняй Беларусі, што межавала з Усходняй) падкрэслівала, што хоць паляк ніколі не быў дасканалым homo sovieticus, усё ж ён набыў пэўныя рысы ў часе сацыялізму. Гэтымі рысамі, мне здаецца, у першую чаргу валодаюць грамадзяне былога СССР. Вось яны:

— брак пачуцця адказнасці за самога сябе, прывычка да таго, што ўсё будзе ўладжана кімсьці там, наверсе, магчыма, боязь дзейнічаць па сваёй ініцыятыве;

— нядобрасумленнасць, якая пранікае ўсюды, нават у інтэлектуальнае асяроддзе, адсутнасць ідэалу добрасумленнасці, які быў знішчаны, ненармальнасць этыкі працы, якая засведчана шматлікімі прыказкамі (прыкладам, «праца не воўк, у лес не ўцячэ»);

— ідэя дрэнна зразумелага эгалітарызму (ураўняльнасці), які атаясамліваецца з сацыяльнай справядлівасцю, перакананне, што назву працы заслугоўвае толькі фізічная праца, а людзьмі працы з'яўляюцца толькі тыя, хто вырабляе матэрыяльныя рэчы. У выніку рабочы па-старому лічыцца соллю зямлі, паколькі ў нашым грамадстве не разумеюць, што для гаспадаркі важнейшымі з'яўляюцца капітал, абарот, тэхнічная думка, сур'ёзная адміністрацыя, а перад усім — навуковы патэнцыял;

— адсутнасць павагі да прыватнай уласнасці (хоць і не варта з яе рабіць ідала);

— схільнасць да парываў і няўменне будаваць, страта традыцый дзяржаўнасці, няўменне (ды мусіць, і нежаданне. — Заўв.рэд.) жыць дэмакратычна, брак разумення грамадзянскіх дабрачыннасцяў.

Дадам яшчэ меркаванне расійскага сацыёлага Аляксандра Абалонскага, які ў элементы названага сіндрому залічвае найперш антыперсаналізм, які выражаецца ў нецярпімасці і ў рэпрэсійным антыіндывідуалізме, у вяртанні да статкавых інстынктаў. Гэты антыперсаналізм выяўляецца ў шэрасці людскога адзення і смутку на тварах, шэрасці аднолькавых вуліц і цэлых гарадоў, якія ў партыйныя святы запаўняліся аднолькавымі прапагандысцкімі «дэкарацыямі». На ўсё жыццё запомніцца плакат 70-х гадоў XX ст. на шматпавярховым фасадзе Лендзяржбуда ў пачатку Неўскага праспекта: тлусты твар, густыя бровы, вялікія пустыя вочы, устаўленыя проста на будынак Зімовага палаца. Большага сутыкнення безгустоўнасці з густам Расстрэлі няможна было знайсці.

Гэты твар паглядаў на нас у кожным горадзе. І кожны грамадзянін ведаў «цану» баявым і працоўным подзвігам маршала-Генсека...

Ідэалогія нясе аднолькавасць, уніфармізм, а там, дзе уніфармізм, там нараджаецца шэрасць. І не толькі шэрасць, але і тэрор.

Поўная уніфікацыя небяспечная ў навуцы, у філасофіі, у грамадскім ладзе, у грамадскіх арганізацыях. Гэта не значыць, што трэба імкнуцца да цалкавітай атамізацыі, да расцярушання, аб якіх зараз гавораць прыхільнікі філасофіі дэканструктывізму. Павінна быць раўнавага. Нас звязваюць родная мова, нас звязвае дзяржава, традыцыі. Усялякія радыкалізмы небяспечныя: і тыя, якія хацелі ўзбуйніць усё, паяднаць у адно, і такія, якія хацелі б разбіць грамадства.

Ідэі камунізму мелі сваю прыцягальнасць. Некаторых магла прывабліваць Маркасава тэорыя, але ці вабіла канкрэтнае савецкае жыццё? Я ведаў маладога камсамольца з вытворчасці, які, патрапіўшы ў Парыж у якасці турыста, назаўсёды ўзненавідзеў савецкі лад. Гэтая шэрасць, гэтае аглупленне, тупая дысцыпліна, пакаранні і забароны, капанне ў асабістым жыцці кожнага (тое можна, таго нельга), гэтае вернае паслухмянства з боязі перад вынікамі і пекныя словы на вуснах. А над усім — пачуццё, што не варта быць сабою, кімсьці з уласнай індывідуальнасцю, а трэба патануць, растварыцца ў гэтай агульнай, велізарнай, шэрай масе.

Калі д'ябал сядзіць у камунізме, то перш за ўсё ў гэтай шэрасці, якая не дазваляе мысліць інакш, чым іншыя, якая патрабуе поўнага падпарадкавання, ажно да прыняцця ўяўнай або чужой віны за сваю.

Кожная спроба вырвацца з масы, нават адзеннем (не тое што думкай!), лічылася сігналам небяспечнага супраціву. Ці ж мы не былі сведкамі палявання на вузкія, а потым на шырокія калошыны штаноў у юнакоў ці пасля ўвогуле на жаночыя штаны? А на джаз? На рок? Прыклады можна доўжыць і доўжыць.

Пры савецкім ладзе калектыў разглядаўся як святыня, толькі ягоная воля, ягоныя інтарэсы былі важнымі. Адзінка, нават геніяльная, не мела такога значэння. Супраціў калектыву з яе боку быў злачынствам. Незалежнасць адзінкі, яе права на ўласныя перакананні лічыліся буржуазнымі катэгорыямі.

Ці ж можна было дзівіцца апатыі савецкага чалавека? Абыякавасць наглядалася не толькі з боку аб'екта ўплыву сістэмы. І сістэма абыякава ставілася да чалавека. Калі вязняў на этапах кармілі селядцамі і не давалі вады, то звычайна гэта было не запланаваным катаваннем. Проста ў тыя часы рыба была таннай. Існавала правіла: загадалі накарміць — накармілі. Тое, што «зэк» потым пакутуе ад смагі, нікога не цікавіла. Д'ябал сядзіць не ў гэтым катаванні, ён сядзіць у абыякавасці да чалавека.

## НАВУКА ТАТАЛІТАРЫЗМУ

ЧАМУ мы навучыліся падчас мінулай эпохі? Калі б да таго мы ведалі аб'ектыўна напісаную дарэвалюцыйнымі айчыннымі і ранейшымі ды сучаснымі замежнымі навукоўцамі гісторыю, калі б мы ўнікліва чыталі тэксты вялікай літаратурнай традыцыі ад Сафокла і Шэкспіра да Макіявелі і Дастаеўскага, вялікія біблійныя і псіхалагічныя творы, мы б нічога новага не даведаліся ў гэты час. Таталітарызм быў (паўторым яшчэ раз) вялікай хлуснёю аб чалавеку. Чалавек не з'яўляецца воўкам другому чалавеку з пункту погляду дзяржаўнай улады. Ён, як ні прыкра гэта канстатаваць, з'яўляецца ім заўсёды і ўсюды, калі толькі пачынае лічыць, што патрабаванні маралі нічога не вартыя...

Чаму мы навучыліся? Таму, пра што не варта забываць, маючы ў памяці традыцыю: што чалавек з'яўляецца істотай, якая можа ўсё сказіць, паколькі дух, які сведчыць аб ягонай вялікасці, здольны таксама да зла і разбэшчвання. Іншымі словамі, сіла і вялікасць чалавека паходзяць з яго выключнай уражлівасці, а найбольшай пагрозай для чалавека аказваецца ў рэшце рэшт ён самы і вольнасць, якой ён слушна дамагаецца. Сама істота чалавека заключае ў сабе патрэбнасць вольнасці, якой нельга выкараніць.

У сілу эфекту бумеранга менавіта сутнасць сталінска-брэжнеўскага рэжыму выклікала ў людзей непераможнае імкненне жыць па-новаму. Але свабода, як і розум, можа быць шалёнай і разбэшчанай.

Ад перыяду Асветніцтва мы жывём у Еўропе, і лічым, што крыніцаю і віноўнікам свабоды чалавека з'яўляецца розум — сіла, якая прыводзіць у рух Гісторыю. Розум імкнуўся распазнаваць у гісторыі кожнага грамадства прагрэс. Пакаленні жылі, перакананыя ў гэтым, але нават не задумваліся, што гэта ілюзія, і меркавалі, што пазбавіліся каранёў зла. А яны, між іншым, жывуць у людской істоце як непакоячая магчымасць...

Наша стагоддзе выявіла тое зло, на якое здольны чалавек. Гэта стагоддзе, якое распачалося насіллем першай сусветнай вайны і генацыдам армян, а потым несла з сабою вынішчэнне ад Дахау да Асвенціма, Катынь, гета, ГУЛаг... Гісторыкі поўнасцю складуць гэты спіс. Кожны з нас павінен разважаць над тым, чым сапраўды з'яўляецца чалавечая істота. Бо спрэчнасць і супярэчнасць — у самім чалавеку.

Людзі маглі вызваліцца ад свайго лёсу. Пытанне, ці рабілі яны горшае ў жыцці (гвалт над іншай асобай) — з перакананця ці з цынізму, другаснае. Важна, што мы распазнаём у іх падобных да сябе людзей. Ці ж камендант Асвенціма не быў таксама прыкладным мужам і добрым бацькам уласным дзецям? У таталітарнай сістэме ёсць нешта дэманічнае. Але дэманізаванне і шуканне дэманізму ў ім і толькі ў ім — гэта супакаенне сумлення малым коштам і незаўважанне таго, што кожны чалавек здольны да ўчынку зла, калі толькі адчувае сябе вольным ад выканання маральных патрабаванняў. Сумленне (такога слова не было ў лексіконе таталітарных краін) не дыктуе сцэнар паводзінаў у кожным жыццёвым выпадку, але засцерагае, што ёсць рэчы, якіх не можна рабіць беспакарана. Чалавеку не ўсё дазволена!

Калі таталітарызм не быў толькі нечым па-за дужкамі развіцця еўрапейскай культуры, то таму, што ён паставіў перад чалавекам пільнае заданне распазнаваць рэчаісныя памеры ўласнай слабасці. Паскаль называў чалавека мыслячым трыснягом. Ён пісаў: мыслячы трысняг слабы таму толькі, што ведае, што мусіць памерці і што ягоная ўлада ў вачах свету смешная. Мыслячы трысняг такі смешны таму, што здольны вынішчыць да сябе падобных, здольны навязваць іншым уласную волю ў імя ўласнай свабоды.

Адным словам, мы пазналі глыбіню і працягласць гэтай спрэчнасці, зародкі цемры, якія носім у сабе. Там, дзе дух можа дасягнуць вышэйшых узлётаў, ён можа таксама разбэсціцца і даць злачыннаму інстынкту трымання ўлады панесці сябе. Разуменне нядаўняга мінулага не можа абысціся без разважанняў над тымі творамі, якія згадваліся вышэй, калі мы не захочам пісаць надта павярхоўную гісторыю.

Роздум над гэтымі творамі і над навейшай гісторыяй (зразумела, не ў выглядзе марксісцкіх падручнікаў ці манаграфій, якія толькі зараз на дасягальных нам мовах і існуюць) дазволіць урэшце адкрыць абодва аблічча чалавека і зразумець, што таталітарызм, які быў пошасцю нашых часоў, не з'яўляецца ні збегам абставін, ні прыпадкам нашай гісторыі, а толькі рэалізацыяй адной з магчымасцяў нашай цывілізацыі.

## УРОКІ ГІСТОРЫІ

ДЫК чаму можа навучыць нас сучасная гісторыя? Таму, што таталітарны лад можа быць адкрыццём адной з наймагутнейшых неўтаймаваных магчымасцяў чалавека і грамадства. Ён адкрывае цёмнае, злачыннае, варварскае аблічча жывых істотаў. Ён паказвае нам, на што можа быць здольны разбуральнік. Гэта паказваюць не кніжкі, а знішчаная прырода, гаспадарчае бязладдзе, смерць незлічоных ахвяр, спусташэнне ў целах і душах. Хто можа паручыцца, што ўсё гэта не адродзіцца ў якой-небудзь іншай форме?

У нас ніхто не забараніў камуністычную партыю як злачынную арганізацыю. Для нас ніхто не арганізуе нюрнбергскага працэсу над уласнымі фашыстамі. Нам ніхто не падрыхтуе план Маршала (які, насуперак сцвярджэнням савецкіх гісторыкаў, дапамог у 50-я гады Заходняй Еўропе стаць на ногі).

Мы мусім зрабіць гэта самі, калі мы — стваральнікі.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ.**

г.Санкт-Пецярбург.

РАСКАДРОЎКА

# СЕАНС ЗАКОНЧЫЎСЯ... ЗДЫМАЕМ КАПЯЛЮШЫ

**Сёння у рубрыцы «Раскадроўка» мы працягваем дыскусію пра стан сучаснага беларускага кінамастацтва. Гэты артыкул прысвечаны беларускаму дакументальнаму кіно.**

ХТОСЬЦІ першым павінен сказаць пра гэта ўголас: эпоха дакументальнага кіно завяршылася. Як мінае на свеце ўсё, так прайшла і пара яго вялікага сеанса, калі бесстаронняя кінематаграфічная оптыка стварала жывы і кожнаму зразумелы падтэкст насуперак афіцыйнаму зместу зацверджаных тэматычных планаў, пільнай цэнзуры, а падчас — і жаданню самога мастака.

Калі зараз на тэлеэкране мільгаюць ідэалагічна вытрыманыя кадры з кіналетапісу «тых» часін, вочы поўняцца слязьмі настальгіі: як жа моцна ў нашую свядомасць увайшло мастацтва алюзіі! Лагічная напрошваецца думка: не было б таталітарызму, «застою» з іх лозунгамі і анекдотамі на кухні — не было б і гэтай вобразнай, эзопавай кінамовы. Такім арыгінальным спосабам, паводле легендаў, славуты фрыгійскі раб выказаў пратэст супраць тых, хто мае ўладу.

Сёння ўладам няма справы да алегорый і да «кароткага метра». Асобаў з верхняга эшалона грамадства больш прываблівае авансцэна электроннага палітычнага тэатра: аператыўна, эфемерна і, галоўнае, бяспечна ў гістарычных перспектывах. Кінаааналы сведчаць, што Ленін застаў кінахроніку ў яе калыскавым узросце. Але пра новы сродак агітацыі і прапаганды паспеў нагаварыць цэлы зборнік «Ленін пра кіно». Пахаванне правадыра знайшло публіцыстычна-мастацкае адлюстраванне ў «Кінапраўдах» бацькі савецкага і сусветнага дакументалізму Дзігі Вертава. Сталін, наадварот, пра кіно публічна выказаўся разы са два, ды і то на партыйных з'ездах. Здымацца пры жыцці не любіў, дазволіў сыграць сябе ў эпізодах двум-тром акцёрам, аднак усе выпушчаныя ў СССР фільмы праглядваў сам. Гітлер кіно паважаў настолькі, наколькі ў юнацтве марыў стаць мастаком. Ведаючы пра гэта, Гебельс разам з міністэрствам інфармацыі і часовай кінапалатай зрабіў усё, каб фюрэр увайшоў у гісторыю ў экранна-дакументальнай велічы. Праз чвэрць стагоддзя Міхаіл Ром у «Звычайным фашызме» на кіламетрах стужкі паказаў анатомію нацыянал-сацыялізму. Брэжнеў здымаўся на фота, у хроніцы, на тэлебачанні. І калі б не пасада генсека, верагодна сыграў бы нават самога сябе ў мастацкіх фільмах замест Яўгена Матвеева.

Цяпер мы разумеем, што стужкі з тытуляванымі нябожчыкамі не гараць, застаюцца на вякі. А калі ўлічыць сённяшнюю неабмежаваную свабоду, дык нечага і гадаць, чаму нашы так званыя дэмакратычныя лідэры пазбягаюць кантактаў з кіно наогул. Адышоў у небыццё супярэчлівы раман паміж уладай і кінамастацтвам, у якім любоў і нянавісць бралі шлюб. У рэлятывісцкай драматургіі новай рэальнасці няма больш тонкіх нюансаў знянацку кінутай фразы «ёсць думка», шматзначнай паўзы на «прыёмцы» карціны, калі мастацкі савет цярпліва чакае слова-прысуду «першай асобы». Знік драматызм, узнікла штосьці іншае. Што?

Адзін наш вядомы з тых самых, застойных часінаў рэжысёр, чалавек эмацыянальны, таленавіты, пайшоў у тэатр ставіць спектаклі.

— Чаму ж не дакументальныя фільмы?

— Таму што здымаць можна ўсё. Вось і не ведаеш, што здымаць!

Юры Хашчавацкі, які з поспехам летась паказаў на Берлінскай «Панараме» свой фільм «Усё добра», а гэтай зімой новую карціну «Рускі характар», з уласцівай яму іроніяй растлумачыў захапленне яго творамі заходняй публікі: «Яны думаюць, што кінадакумент — гэта як пашпарт. А хіба мне павінна быць цікава, што там у іх у пашпарце? Не ведаюць яны нашай школы».

Дарэчы, пра школу. Калі пры першым подыху перабудовы Ю.Хашчавацкі зняў у перадавой сталічнай школе фільм «Тут быў Крылоў», ён з хваляваннем чакаў, што скажуць настаўнікі. У карціне яны спяваюць хорам. Гэта быў адзін эпізод: рэпетыцыя школьнай самадзейнасці. Пасля прагляду педагагічны калектыў нутром адчуў: не толькі на спеўкі, але і ў класы кіношнікаў пушчаць было нельга. Пагрозлівае маўчанне мужна парушыла дырэктар: «Нехта павінен пачаць перабудову. Хай гэта будзем мы». Прыгожа!

Якая ж яна абаяльная, міфалогія былога дакументальнага кінасеанса: з яго выхадам проста ў асіметрыю жыцця, з мантажна пабудаваным канфліктам паміж «правым» і «левым» паўшар'ямі мозга савецкага чалавека, дзе логіка патрабавала — рабі, як усе! Аднак фантазія ўздымала да непаўторнасці кожную індывідуальнасць.

У карціне «Хатынь, 5 км» заўчасна пайшоўшы з жыцця Ігар Калоўскі зняў тады мала каму вядомую гісторыю беларускай вёскі з яе адзіным выжыўшым жыхаром Камінскім. Стары, як быў у кірзавых ботах, у ватоўцы, на калёсах з дровамі, так і «паехаў» на кінастужцы на міжнародны фестываль у Аберхаўзен. Там фільм атрымаў медаль і дыплом. Медаль згубіўся ў маскоўскіх кіначыноўнікаў, дыплом — у нетрах «Беларусьфільма». Гэты міф пра тое, як рэжысёр штосьці чуў пра ўзнагароду. Аднак фільм выйшаў на экран толькі з пачаткам перабудовы. Распавядаюць, што нехта «наверсе» яшчэ да Аберхаўзена не мог зразумець, як гэта правобраз гранітнага помніка мог быць у кірзавых ботах.

Шчыра сказаць, міфы беларускай экраннай публіцыстыкі не нараджаліся з хуткасцю 24 кадраў у секунду. Нашы дакументалісты ніколі адразу не кідаліся на амбразуры каманднa-адміністратыўнай сістэмы. Яны шукалі абходныя шляхі, манеўравалі. Так складваўся цэласны тэкст сучаснасці, яе семіётыка, сінхронная семантыка думак, якія не маглі матэрыялізавацца ў словах, але адчувалі перамены. Калі цяпер раптам прачытаеш у газеце, што ўжо ў мірны час 30 «афганцаў» учынілі самагубствы, 150 трапілі ў турмы, а інвалід-салдат, без ног і рук, пакутуе са старой матуляй у хібары, тады «Боль» Сяргея Лук'янчыкава падаецца рэальнай формай дапамогі канкрэтнаму чалавеку, таму што ён знайшоў чалавека ў лабірынце жыцця і ўважліва ўслухаўся ў яго заблытаны лёс.

Тое, што беларускае дакументальнае кіно дапамагала жывым быць жывымі, а мёртвых шанавала і даравала ім зямныя грахі, —гэта праўда. «Развітанне» Віктара Дашука (пра пахаванне П.Машэрава), яго ж «У вайны не жаночы твар», «Не плачце па мне» Анатоля Алая (пра мастака-самавучку Аляксандра Ісачова), «Наказ» Юрыя Лысятава (пра сялян Расонскага раёна) і цэлы шэраг іншых карцін, непрыдуманых герояў — іх не выкрасліць з нашага агульнага міфа, з наіўнай веры ў ідэалы эпохі.

Калі зараз назіраеш за пакутамі творчага аб'яднання «Летапіс» над рэалізацыяй праграмы «Адраджэнне», якая існуе ўжо пяты год, дык міжволі прыходзіш да несуцяшальнага выніку —нельга рэанімаваць сродкамі кінадакумента тую гісторыю, якую не бачыў на свае вочы, не адчуў, не зразумеў.

Для адлюстравання мінулага, якое не з'яўляецца ўласным сацыяльна-жыццёвым вопытам мастака-дакументаліста, існуюць іншыя віды кіно — навукова-папулярнае, адукацыйнае, нарэшце, мастацкае. Генеральны ракурс дакументальнага кадра заўсёды праходзіць скрозь паняцці «сёння» і «цяпер». Яны розныя ў аўтара, крытыка, гледача. Але ў гэтым розным — той рытм, пры дапамозе якога адчуваеш: гэта тое, што існуе ў формах самой рэальнасці.

Ёсць папераджальны знак новага часу, і побач з намі ўжо няма людзей, якія з асаблівай вастрынёй адгукаліся на гэтае абавязковае «сёння». Аркадзь Рудэрман загінуў на таджыкскай мяжы — збіраўся зняць фільм, якога мы не ўбачым. Памёр раптоўна Алесь Адамовіч, і больш не пачуеш яго рэзкага, але аб'ектыўнага слова. Можа, сапраўды, змянілася асноўная парадыгма гуманітарнага развіцця, як пішуць пра гэта культуролагі Захаду, і сусвет уступае ў эру «пост-сучаснасці», своеасаблівага поліцэнтрычнага постмадэрнізму? Механічны свет —гадзіннік, у якім пра чалавечы лёс можна было распавесці за дзве часткі кароткаметражнага фільма, замяняе электронны хранограф. У ім за дваццаць хвілін можна ахапіць гісторыю ўсёй цывілізацыі, бо, дзякуючы мастацтву рухомых выяваў, наш зрок ужо прызвычаіўся бачыць не рэчы, а іх сімвалы, не чалавека, а яго каляровы цень на экране.

Калі гэта так, дык зразумела, чаму нацыянальная гістарычная даўніна больш ёмістая і вобразная ў тэлевізійных інтэрпрэтацыях, а ў карцінах «Летапісу» застаецца амаль на інфармацыйным узроўні. Уладзімір Бокун зняў «Справу Ігнатоўскага» ва ўмоўнай форме тэлетэатра, дзе акцёры «іграюць» не вобразы, а архіўныя дакументы: пратаколы допытаў, дыялогі героя са следчым. Бокуну лягчэй: працуючы рэжысёрам «Тэлефільма», ён, што называецца, на рабочым месцы бачыць розныя вымярэнні часу.

Здаецца, іншы працяг гістарычных імгненняў на «Летапісе» імкнецца спасцігнуць Міхаіл Жданоўскі. У яго апошніх фільмах важным элементам драматургіі з'яўляецца музыка, якая ў стужках «Кон аміна» ("З душой"), пра камерны хор Ігара Мацюхова, і «Успаміны пра Міколу Равенскага» дапамагае ахапіць мінулае праз гук і адлюстраванне сучаснасці.

Аднак у большасці сваёй беларуская дакументалістыка гістарычнай праблематыкі існуе на ўзроўні «датэлевізійнай» рэпартажнасці. Нібы прыйшлі ў музей і расказваюць: вось партрэт таго, а гэта шабля — гэтага. А яшчэ зруйнаваныя сцены старажытных замчышчаў, храмаў, могілкі, крыжы і абразы, свечкі, лампады. Стэрэатыпны набор прапагандысцкіх штампаў новай эры.

Раз у такім вымярэнні бачыцца сёння нашымі кімематаграфістамі нацыянальная ідэя, дык ужо і няма, напэўна, у краіне «аб'екта», які б не наведала тая ці іншая кінаэкспедыцыя. Цяпер ужо погляды скіраваныя на замежжа. Аднак і адтуль вязуць ужо голую інфармацыю. Да прыкладу, мастак, беларус па паходжанні, паказвае карціны і майстэрню ў Польшчы. Карціны цікавыя, аператар Ю.Ялхоў здымае з мастацкім густам прафесіянала ігравога кіно. Ну, добра, даведаліся пра нашага (якога па ліку?) земляка. Хто на чарзе наступны?

Характэрнай рысай беларускага «постперабудовачнага» дакументальнага фільма можна лічыць страту дакладнасці факта. Думаю, не апошнюю ролю тут адыграла тая самая «гістарычная» тэматыка, якая ўсё больш набывае патрэбу ў абстрактным дадумванні. Не выпадкова пры стварэнні кінапартрэаў перавага аддаецца мастацкай інтэлігенцыі. Яны могуць «даіграць» сябе самі. Балерына Інэса Душкевіч, актрыса Таццяна Мархель, мастак Гаўрыла Вашчанка. Тут жа і вясковыя жыхары, якія «прадстаўляюць» фальклорна-этнаграфічныя абрады. А.Канеўскі, С.Лук'янчыкаў, А.Шклярэўскі, Ю.Лысятаў паказваюць сваіх герояў на мяжы рэальнасці і гульні. Раней факт «абыгрываўся» ў мантажы. Цяпер існуе нейкая пераходная форма да абстрактнай кінасвядомасці.

Калісьці М.Ром сказаў: каб тэлебачанне «не перамагло» тэатр, апошняму трэба вярнуцца ў сваю ўмоўнасць. Вось і вядомы расійскі кіназнаўца Л.Рашаль, які ўжо каля трыццаці гадоў адстойвае прынцып «свет без гульні», раіць сённяшнім дакументалістам звярнуцца да вопыту італьянскага нэарэалізму з яго паэтызацыяй сацыяльнага побыту як духоўнага існавання простага чалавека.

Можа, у эстэтыцы пост-сучаснасці адшукаецца новая ідэя кінадакумента? Патрэбны новы міф, без якога, як без дзяцінства, немагчыма сталасць? Бедны К.Маркс памыліўся нават тады, калі напісаў, што ў старажытнай грэцкай міфалогіі чалавецтва са смехам развітвалася са сваім дзяцінствам. У нашым стагоддзі А.Сент-Экзюперы паправіў класіка: усе мы родам адтуль і нясем адказнасць за ўсё, што было з кожным.

Сумуе душа, калі ў думках ахопліваеш усю нашу нядаўнюю міфалогію, якая пранікла ў кожны кадрык велізарнай дакументальнай кінастужкі эпохі. Усё ў ёй было — узлёты, падзенні, чаканні, расчараванасць, не было аднаго — выпадзення з агульнагй прасторы — часу. Выпадзення з працэсу. Кажуць, ён прывёў у нікуды. Аднак у культуры не заўсёды так, як у палітыцы. У ёй не бывае «нулявога» пісьма. Зразумець бы гэта цяпер. Не спазніцца...

**Ніна ФРАЛЬЦОВА.**

# МЫ ЗАЗІРНУЛІ Ў СВАЕ ДУШЫ

Аказваецца, італьянцы ўмеюць выконваць свае абяцанні.

Калі я апошні раз гутарыў з Асвальда Леуцы, ён паабяцаў, што адзін з яго любімых драматургаў Луіджы Пірандэла спадабаецца і нам, беларускім гледачам, пры больш блізкім знаёмстве.

І вось яна адбылася, гэтая сустрэча.

25 красавіка мінскаму гледачу былі паказаны тры творы: дыялог «Мужчына з кветкай у роце» Л.Пірандэла і маналог «Пра шкоду тытуню» А.Чэхава ў выкананні італьянскага акцёра Марчэла Баніні Оласа, а таксама спектакль па матывах драмы Л.Пірандэла «Шэсць персанажаў у пошуках аўтара» ў выкананні трупы Барыса Луцэнкі.

У гэты вечар лёс падарыў нам (інакш гэта цяжка назваць) магчымасць пабачыць сапраўднае мастацтва. Мы акунуліся ў свет Пірандэла. І хаця ў гэты вечар на сцэне былі паказаны тры самастойныя п'есы, склалася ўражанне, што гэта адзіны, дыхтоўна зрэжысіраваны і добра зладжаны спектакль.

Пачынаючы з «уверцюры» (цудоўнай музыкі на флейце з твораў Крыстофа Вілібальда Глюка, натхнёна выкананай Валерыем Яравым) і канчаючы апошнім акордам — громам апладысментаў, калі доўга не адпускалі са сцэны Марчэла Баніні Оласа. У гэты вечар мы яшчэ раз упэўніліся, што культура не ведае межаў. І беларускія, і італьянскія акцёры былі на вышыні. Трагічна-тэмпераментнай, вельмі шчырай Падчаркай аказалася маладая актрыса Аксана Перавожкіна. Заслужаны артыст Расіі Аляксандр Бухацкі знайшоў



вельмі цікавыя фарбы і адценні ў ролі Айчыма; пераканаўчай і абаяльнай была Святлана Кузьміна ў ролі Маці. І арганічным, натуральным жыццём рэжысёра, якога шукаюць, каб выказаць яму драму (кожны сваю), а ён спачатку не хоча, супраціўляецца, а пасля ўсё болей уцягваецца ў чужое жыццё, — жыў сярод гэтых персанажаў сам Барыс Луцэнка, які за вельмі кароткі тэрмін, «на энтузіязме і на даўняй любові да Пірандэла» (як ён сказаў), зрабіў спектакль.

Праўда, як дадала потым Святлана Кузьміна: «Сёння ў гэтым спектаклі не прагучала ва ўсёй паўнаце тое, што было напісана Пірандэла. Там вельмі складанае перапляценне лёсаў, трагічных падзеяў і тэатральнай позы.

А паколькі мы мелі мала часу для таго, каб гледачы прынялі гісторыю Пірандэла і зразумелі яе, мы вылучылі з усёй п'есы «Шэсць персанажаў у пошуках аўтара» адзіную лінію — лінію гэтай сям'і, або сямей, калі хочаце. А там жа на працягу трох актаў наслойваецца яшчэ жыццё тэатра, разважанне аб тэатры, аб праўдзе жыцця ў тэатры, там вельмі-вельмі няпростая перспектыва».

Як заўважыў сіньёр Асвальда Леуцы, «нашы беларуска-італьянскія кантакты ў гэтым выпадку спрацавалі вельмі добра. Што ж тычыцца Пірандэла, то дзякуючы спадару Марчэла Баніні Оласу (тут трэба дадаць, што сіньёр А.Леуцы не толькі добра арганізаваў гэту сустрэчу, але і сам прыняў удзел у спектаклі «Чалавек з кветкаю ў роце» і добра падыграў вядучаму акцёру рымскага тэатра «Амфітрыён»), а таксама дзякуючы бліскучай ігры беларускіх артыстаў яго творы, мяркуючы па рэакцыі гледачоў, вельмі ім спадабаліся. І я быў бы вельмі задаволены, каб у наступным тэатральным сезоне спектакль «Шэсць персанажаў у пошуках аўтара», канешне, у поўным аб'ёме, быў уключаны ў рэпертуар Рускага драматычнага тэатра. Мы ўвогуле надта цэнім спрыяльнае да нас, да італьянскай культуры стаўленне прэсы і, як мы адчулі сёння, беларускіх гледачоў. Без гэтага мы не змаглі б распаўсюдзіць італьянскую культуру так шырока, як нам гэта ўдалося на сённяшні дзень. Я дужа задаволены, што знаходжуся сярод сяброў і, зразумела, як гэта прынята сярод сяброў, мы не заўсёды гаворым толькі прыемнае, але і можам крытыкаваць адзін аднаго без боязі быць незразумелым. Думаю, што такія вечары павінны часцей паўтарацца, каб лепш зразумець адзін аднаго».

«Беларуская публіка, — сказаў таксама акцёр Марчэла Баніні Олас, — проста чароўная! Я не чакаў, проста не чакаў такога цудоўнага прыёму. Я баяўся, што моўны бар'ер наўрад ці ўдасца пераадолець, але ж публіка ўсё зразумела. Яна, мне здаецца, вельмі інтэлектуальная і любіць тэатр. Калі я прыехаў у Мінск, я быў трохі недаверлівы, насцярожаны ды скаваны. Аказалася, Мінск — гэта прыгожы горад, і ў ім жывуць добрыя людзі».

Пірандэла ўвогуле вельмі складаны творца. Але можна сказаць, што дзякуючы сусветна вядомаму драматургу (а таксама італьянскаму аташэ па культуры Асвальда Леуцы) мы зазірнулі ў свае душы, каб, адкрываючы ў сабе нешта невядомае нам самім, лепей зразумець свет.

**Ягор ФЯДЗЮШЫН.**

*На здымку:* Марчэла Баніні Олас, акцёр рымскага тэатра «Амфітрыён» падчас вечарыны Пірандэла выконвае маналог з Чэхава «Пра шкоду тытуню».

Фота Аляксея МАЦЮША, «ЛіМ».

# ЧАМУ ПАЛЕССЕ?

## Калі наконт палітыкі ў галіне нацыянальнай культуры так-сяк можна паразумецца з цяперашнім нашым Вярхоўным Саветам, то пра фінансаванне гаворку лепш не заводзіць: «народ трэба спачатку накарміць!»

Калыска славянства... Запаведнік народнай творчасці... Музей пад адкрытым небам... Якіх толькі вызначэнняў не пачуеш, калі гаворка заходзіць пра Палессе! І хоць не абыходзіцца без яўных перабольшанняў, ды несумненна адно: ніводзін іншы рэгіён Беларусі не вызначаецца такой захаванасцю старажытных праяў народнай культуры, многія з якіх арганічна і натуральна існуюць у побыце палешукоў і сёння. Нездарма сюды актыўна топчуць сцежкі этнографы, фалькларысты, даследчыкі народнага мастацтва, звычаяў, традыцый, абрадаў.

Ды няўмольны час, аб'ектыўныя законы развіцця грамадства, а таксама, на жаль, звычайная наша нядбайнасць непазнавальна змянілі гэты унікальны край, прычым далёка не на лепшае. Можа, і трэба было б дзе-нідзе асушыць балоты, каб далучыць да жыццёвых выгод тыя паселішчы, якія «выходзілі ў свет» хіба што ў вялікія маразы. Але ж не столькі і не так асушваць, каб былыя балоты ператварыліся ў пустэльні, а ў калодзежах прапала вада. А тут яшчэ чарнобыльская трагедыя, асноўны ўдар якой прыйшоўся якраз на Палессе.

Не лепш і з духоўнасцю. Добра, канешне, што палешукі сёння маюць усе магчымасці ісці ў нагу з прагрэсам, спазнаваць усе выгоды цывілізацыі, далучацца да здабыткаў нацыянальнай і сусветнай культуры. Шкада толькі, што разам са старым побытам адыходзяць у нябыт прыгожыя, паэтычныя старажытныя звычаі, абрады, забываюцца колішнія песні, танцы, промыслы, рамёствы. Нават калі на іх месца прыходзяць няхай сабе і лепшыя ўзоры мастацкай творчасці, запазычаныя ў іншых рэгіёнах Беларусі ці ў суседзяў, гэта непазбежна вядзе да нівеліроўкі самабытнай палескай культуры, страты яе унікальнасці і непаўторнасці. А што ўжо казаць пра нахабны наступ «інтэрнацыянальнай» масавай культуры!

Сёння ў нас склалася вельмі няпростая сітуацыя. З аднаго боку, нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі выклікала ў шырокай грамадскасці вялікую цікавасць да здабыткаў традыцыйнай культуры і адначасова занепакоенасць яе лёсам, асабліва ў сучаснай сітуацыі, калі «каўбасная» псіхалогія нярэдка пераважае над духоўнасцю. З другога боку, для адраджэння, зберажэння і развіцця традыцыйнай культуры аднаго разумення і энтузіязму мала. Патрэбны немалыя сродкі, а значыць — адпаведная дзяржаўная палітыка.

Тым больш удзячнасці заслугоўвае дзейнасць нашага Міністэрства культуры і друку, якое ў такіх нялёгкіх умовах знайшло магчымасць выдзеліць немалыя сродкі на выкананне дзяржаўнай праграмы «Адраджэнне традыцыйнай мастацкай культуры Палесся». Па яго заказе Беларускі інстытут праблем культуры, які ўжо мае немалы вопыт у падобных распрацоўках, у пачатку 1992 года сфармаваў часовы творчы калектыў з уласных і запрошаных спецыялістаў у розных галінах традыцыйнай культуры. Аснову ЧТК склалі фалькларыст Васіль Ліцвінка, гісторык Павел Церашковіч, аўтар гэтых радкоў — даследчык народнага мастацтва, сацыёлагі Ірына Голубева, Ядзвіга Левяроўская, Вячаслаў Качаргін. На розных этапах да работы падключаліся гісторык Леў Казлоў, этнограф Віктар Цітоў, мовазнаўца Фёдар Клімчук і іншыя.

Можа ўзнікнуць пытанне: чаму Палессе, а не іншы рэгіён ці краіна ў цэлым? Тут трэба ўсвядоміць важную акалічнасць: тэрмін «традыцыйная мастацкая культура» — вельмі ўмоўны. У адрозненне ад досыць уніфікаванага прафесійнага мастацтва ці літаратурнай мовы, якія існуюць на агульнаадукацыйным узроўні, традыцыйная мастацкая культура нацыі — гэта суквецце шматлікіх рэгіянальных адметнасцяў у галіне фальклору, мастацкіх промыслаў, абрадаў, звычаяў. Таму падтрымка і развіццё традыцыйнай мастацкай культуры Беларусі — гэта перш за ўсё падтрымка і развіццё культур яе асобных рэгіёнаў. Ну, а чаму Палессе?.. Таму, што тут яшчэ ёсць што адраджаць і зберагаць, а ўпусцім час — можа, ужо і не будзе чаго. Ды яшчэ працэсы прыкметна паскорыла чарнобыльская трагедыя, а на Заходнім Палессі трывогу выклікае сучасная этнапалітычная сітуацыя, у аснове якой —"яцвяжская" тэорыя паходжання палешукоў або спробы далучыць палескую культуру да ўкраінскай.

Безумоўна, было б абсурдным і нерэальным ставіць пытанне аб пераўтварэнні Палесся ў нейкі этнакультурны запаведнік, рэзервацыю. Законы развіцця грамадства аб'ектыўныя і няўмольныя, іх нельга штучна затармазіць ці прыпыніць. Размова можа ісці толькі пра тое, як ва ўмовах гэтых працэсаў зберагчы і захаваць адметнасць традыцыйнай мастацкай культуры Палесся, нівеліроўка ці уніфікацыя якой прывядзе да прыкметнага збяднення пакуль што яшчэ паліхромнай, шматфарбнай карціны, назва якой — нацыянальная культура Беларусі.

Сваю работу ЧТК вёў па розных напрамках. Вядома, яшчэ раз было вывучана і асэнсавана ўсё, што напрацавана даследчыкамі ў галіне палескай культуры. Але асноўны матэрыял далі чатыры комплексныя экспедыцыі, у выніку якіх былі абследаваны практычна ўсе раёны Палесся, сабраны неацэнны матэрыял, непасрэдна звязаны з задачамі праграмы. Колькі цудоўных песень пачулі, колькі унікальных абрадаў паглядзелі! І не проста слухалі і глядзелі, а і дбайна запісвалі на відэастужку, што прафесійна рабіў наш кінаапаратар Сцяпан Надольскі на выдатнай інстытуцкай апаратуры. Цяпер у архівах назаўсёды застануцца і «Провады русалкі» ў Дзімамерках пад Лоевам, і вяселле з прыданкамі ў Церабове і Курыцічах на Петрыкаўшчыне, і «Жаніцьба коміна» ў Пагосце каля Турава, і абрад Куста, вяселлі, вячоркі ў Вульцы, Гальневе, Шаломічах, Дабраслаўцы, Сташанах на Піншчыне, і яшчэ дзесяткі унікальных, самабытных абрадаў і звычаяў. Няхай даруюць тыя шчырыя, адданыя любімай справе кіраўнікі фальклорных калектываў, якіх проста немагчыма назваць тут усіх. Гэта сапраўдныя энтузіясты, як правіла, мясцовыя ўраджэнцы, не сапсаваныя сталічнай вывучкай з яе арыентацыяй на «агульнабеларускую» культуру. Для іх, як і для ўсіх удзельнікаў, мясцовыя песні, танцы, музыка, абрады, рамёствы — такая ж натуральная справа, як праца ў агародзе ці ў полі. Зрэшты, гэта пакуль што яшчэ ўласціва большасці насельніцтва Палесся, асабліва старэйшаму пакаленню. Таму і не дзіва, што для відэазапісу збіраліся не толькі непасрэдныя ўдзельнікі абраду, але і практычна ўсё паселішча, прымаючы ў гэтым самы актыўны і жывы ўдзел.

А што ўжо казаць пра славутую гасціннасць палешукоў! Усюды нас чакаў самы шчыры і сардэчны прыём. Вядома, не апошнюю ролю адыграла тут і папулярнасць Васіля Ліцвінкі, дарэчы, карэннага палешука ("вунь той барадаты прыехаў, што па тэлевізары вячоркі вядзе!"). А колькі жыццярадаснасці, нязгаснага аптымізму ў гэтых шчырых людзей! Што б ні здарылася, а любоў да жыцця, да мастацкай творчасці не пакідае. Адна з экспедыцый прыйшлася на трагічны для Палесся час — летнюю паводку. Душа балела, калі вочы бачылі згноеныя бульбяныя палеткі ці спелае жыта ў вадзе. Як маглі, ратавалі палешукі тое, што яшчэ можна было ўратаваць. А вечарам, як нічога і не было — зноў у клуб, зноў песні, танцы, жарты. «Адкуль у вас, жанчынкі, столькі імпэту?» — часам здзіўлена ў іх пытаеш. «А мы, паляшучкі, радыеактыўныя!» На здзіўлены позірк весела заліваюцца: «Мы і радыя, і актыўныя!» Ну што тут скажаш...

Пакуль ішоў запіс абраду ці выступлення калектыву, нашы сацыёлагі час не гублялі, апытвалі насельніцтва па спецыяльна распрацаванай анкеце, якая ўключала дзесяткі самых розных пытанняў — ад усведамлення сваёй нацыянальнай прыналежнасці да адносін з мясцовым начальствам. Вядома ж, асноўнае месца займалі пытанні мастацкай творчасці, асабістага ўдзелу (ці няўдзелу) у ёй, асаблівасцей яе бытавання, дынамікі і характару змен. Трэба без перабольшання прызнаць: работа праведзена каласальная. Запоўнена паўтары тысячы анкет, апытаны старыя і маладыя, рабочыя і калгаснікі, вяскоўцы і гараджане, карэнныя палешукі і прыезджыя. Можна сказаць, што такое апытанне дасць досыць аб'ектыўную карціну становішча народнай мастацкай культуры на Палессі.

Дэтальная апрацоўка вынікаў сацыялагічнага апытання (справа, дарэчы, няпростая) яшчэ наперадзе. Але некаторыя папярэднія высновы ўжо ёсць. Прывесці іх тут усе — марная справа, гэта дзесяткі розных табліц і лічбаў. І ўсё ж найбольш красамоўныя варта назваць. Так, 90 працэнтаў палешукоў лічаць сябе беларусамі, украінцамі — каля паўтара працэнта. Знайшоўся і адзін (!) яцвяг, які «цягне» на... шэсць сотых працэнта. У паўсядзённым ужытку дамінуюць мясцовыя дыялекты, уяўленні пра нейкі «агульнапалескі» ці «заходнепалескі» дыялект на бытавым узроўні адсутнічаюць. У сферы адукацыі і культуры пераважае беларуская мова, яе лічаць роднай большасць апытаных. Але выявілася, на жаль, і такое: амаль палова работнікаў устаноў культуры ў сваёй дзейнасці карыстаецца... рускай мовай! Каментары, як кажуць, лішнія.

Зрэшы, ад каментара не ўстрымацца. Ездзіла з намі па Гомельшчыне адна загадчыца аддзела культуры. Ужо за адно тое, што не пашкадавала часу, што ўсіх ведае і яе ведаюць, можна ставіць вялікі плюс. Ды вось скончыўся відэазапіс, і гасцінныя гаспадары артыстычна пераўтвараюць клубную сцэну ў імправізаваны стол: позні час, усе стаміліся, пара падсілкавацца. Тое, што гучала для запісу, арганічна і натуральна прадаўжаецца ў застоллі. Ды вось толькі загадчыца... І пра мову адразу ж «забылася», і ў «рэпертуары» ў яе ўсё больш «Окрасился месяц багрянцем» ды «Коробейники». Песні, вядома, добрыя, і застолле, як умее, падпявае. Але ці не выпрацоўваецца ў гэтых шчырых, захопленых людзей падсвядомае адчуванне, што іх мова, фальклор — толькі для паказу на сцэне, а для «культурных» зносін яны непрыдатныя? Чаго больш ад такіх «работнікаў культуры» — карысці ці шкоды? Зрэшты, гэта праблема не толькі Палесся...

Можна было б прывесці і іншыя цікавыя, паказальныя лічбы. Ды лепш пачытаць самую праграму. А яна ўжо зроблена. Хоць па плане на яе адводзіўся яшчэ і гэты год, але няпэўная сітуацыя з фінансаваннем (яно было штогадовым) «актывізавала» ЧТК на яе датэрміновае выкананне. У выніку атрымалася аб'ёмістая, больш чым у сотню машынапісных старонак праца, якая сканцэнтравала ў сабе вельмі багаты матэрыял па традыцыйнай мастацкай культуры Палесся і, галоўнае, уключае распрацаваныя на гэтай аснове канкрэтныя рэкамендацыі па яе адраджэнні, зберажэнні і развіцці. Зараз Беларускі інстытут праблем культуры шукае магчымасці аддрукаваць працу хоць бы ў сотні экзэмпляраў, разасланць яе па раённых аддзелах культуры Палесся для вывучэння і практычнага скарыстання.

Трэба адразу папярэдзіць вось пра што. Названая праца ўяўляе сабой толькі канцэптуальныя асновы і праграмныя накірункі ў справе адраджэння мастацкай культуры Палесся. Яна носіць стратэгічны характар, у агульных рысах вызначае асноўныя прынцыпы і накірункі палітыкі дзяржавы ў гэтай галіне, метады і спосабы ажыццяўлення. Гэта аснова для разгортвання сродкамі масавай інфармацыі, работнікамі культуры, прадстаўнікамі мясцовых органаў самакіравання шырокай прапагандысцкай дзейнасці па сцвярджэнні каштоўнасці і унікальнасці мастацкай культуры Палесся, яе месца ў нацыянальнай культуры Беларусі.

Але прыкметныя вынікі ў гэтай справе могуць быць толькі пры канкрэтнай фінансавай падтрымцы дзяржавы. Значыць, патрабуецца адпаведная пастанова Савета Міністраў, для чаго трэба распрацаваць канкрэтную дзяржаўную праграму, дзе будуць распісаны дакладныя задачы адпаведным ведамствам і дзяржаўным службам.

Цяпер ЧТК на аснове ўжо зробленых праграмных накірункаў якраз і займаецца распрацоўкай такой праграмы. І хоць сёння мала надзеі, што такая праграма будзе зацверджана ўрадам і падмацавана сродкамі, а калі яе ўсё ж зацвердзяць, то ці будзе яна выконвацца. Нешта трэба рабіць ужо цяпер. Хоць бы тое, што па сілах мясцовым уладам і работнікам культуры без значных фінансавых выдаткаў. Нельга дапусціць, каб на нашых вачах страціла сваю самабытнасць і адметнасць традыцыйная мастацкая культура аднаго з самых цікавых рэгіёнаў Беларусі.

**Яўген САХУТА,**
**кіраўнік ЧТК па выкананні праграмы «Адраджэнне традыцыйнай мастацкай культуры Палесся».**

# ...КАМЕРСАНТ СМУТКУЕ АБ ГАДАХ СТУДЭНЦКІХ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3)*

... Нядоўга давялося яму хадзіць у студэнтах. За сістэматычныя пропускі заняткаў і за няздачу летняй экзаменацыйнай сесіі ён вымушаны быў забраць дакументы і адправіцца на «вольны хлеб», шукаць іншага месца ў жыцці. Збіраўся ўзнаўляцца ў ВНУ, але было ўжо запозна, — камерцыялізацыя закранула і ягоны былы інстытут, а таму, каб мець магчымасць вучыцца далей, неабходныя сталі вялікія грошы. Але ён усё ж такі не пакідае думкі вярнуцца назад, у студэнцкую аўдыторыю. З грашыма праблем ужо не існуе, нават падрыхтаваны ўсе неабходныя дакументы, толькі чамусьці ён усё адкладае на пасля, маўляў, гады не тыя, і да таго ж зараз столькі падстаў, каб варочаць вялікімі грашыма, што ўпускаць такую магчымасць проста недаравальна. Хіба што на завочнае аддзяленне ўзнавіцца...

Усё гэта ён мне распавёў, калі ўжо сядзелі разам у ягоным кіёску. Хлапец няспынна паліў дарагія цыгарэты, пастаянна падліваючы сабе ў шклянку чырвоны, са смачным пахам лікёр. Для яго праца ў «шкляной тумбачцы» — гэта, як ён сам кажа, дадатак да заробку. Ён яшчэ заспеў той час, калі можна было рабіць «вялікія грошы», з-за адсутнасці сур'ёзных канкурэнтаў. Зараз займаецца дробнымі аптовымі пастаўкамі з расейскімі фірмамі, праз якія мае выхад на непасрэдных пастаўшчыкоў на Захадзе. Якія гэта «вялікія грошы», ён так і не сказаў. Але тое, што ў яго ёсць асабісты валютны рахунак у адным з камерцыйных сталічных банкаў, ужо аб нечым гаворыць.

... Сярод розных куртак і сукенак, якімі быў завешаны «камок», маю ўвагу прыцягнула незвычайная рэч, якую даводзілася бачыць толькі ў фільмах-баевіках і ў праграмах тэлебачання, дзе перадаюцца аператыўныя звесткі міліцыі. Гэта была бронекамізэлька.

— Няўжо таксама з ліку дробна-аптовых паставак? — пытаюся.

— Ды не, — шчыра адказаў той, — пашчасціла дастаць, іначай, калі чэсна... зняць.

Гэты незвычайны сувенір ён прывёз з самой белакаменнай, дзе давялося пабываць у кастрычніку мінулага года ў разгар вядомых трагічных падзей. І камізэльку ён зняў проста з забітага салдата ля будынка тэлестудыі Астанкіна. Не забыў прыхапіць з сабой і салдацкую каску, што валялася побач. Яе ён загнаў адразу ж на наступны дзень іншаземнаму турысту на Арбаце за сорак даляраў. На памяць аб днях трагічных.

З нейкай горычча я пакідаў «камерсанцкую шкляную тумбачку». Апошні раз зірнуў на сувенір, пазначаны крывёю. Мне падалося, што на тым месцы, дзе ў чалавека павінна быць сэрца, на шэрай тканіне камізэлькі выступіла крывавая пляма.

— Ды не хвалюйся, — выпаліў «камерсант», убачыўшы маю збянтэжанасць. — Гэта памада, толькі сцерлася трохі... Дзяўчаты пажартавалі.

Толькі тады, калі я бразнуў за сабой дзвярыма кіёска, успомніў, што так і не спытаў у хлопца ягонае імя.

Хаця, навошта мне гэта?..

Выслухаў, убачыў і запісаў
**Міхась РЭВУЦКІ.**

# ГАСПАДЫНЯ ПРЫГОЖАГА ДОМА

*У ГЭТЫМ прыгожым будынку сустракаеш, можа, як нідзе многа прыгожых людзей. Грацыёзныя дзяўчаты, зграбныя юнакі, «рэкламныя» дзеткі, элегантныя выкладчыцы... Нават танюткія падлеткі тут не выглядаюць андэрсэнавымі качанятамі. І таму кожнага, нават выпадковага наведніка тут ахоплівае жаданне стаць хоць на кропельку прыгажэйшым. Жаданне гэта множыцца ў шматлікіх люстэрках, што «цікуюць» вас у самых нечаканых месцах. Прыгожыя габелены, мяккія дываны, што прыглушаюць крокі, складкаватыя занавескі, супамерная чалавечаму росту архітэктура інтэр'ераў надаюць будынку здзіўляючую ўтульнасць, «хатнясць». Ва ўсім адчуваецца стыль і густ. Паўсюль — прысутнасць гаспадыні. Сакратарка прыёмнай, у якой я чакаю яе, гаспадыню, занятую нечаканым (і адначасна — звыклым) візітам замежных гасцей, характарызуе сваю начальніцу так: «Яна ў нас жанчына, ну, проста, немагчымая!». І я веру, што жыць у такім інтэнсіўным графіку сапраўды можа толькі «немагчымая жанчына».*

*Нарэшце, мы пачынаем гутарку. Яна — зграбная, прыгожая, вельмі жывая ў руках і размове, з першых жа сказаў стварае ўтульную атмасферу. І я пачынаю з амаль пабытавага пытання:*

**— Людміла Фёдараўна, як Вас на ўсё хапае? Вы, зусім непадобная на тыпаж жанчыны-кіраўніка, здаецца, пераўзыходзіце ў стылі кіравання ўсе некалі выпрацаваныя каноны.**

— Проста я вельмі люблю сваю працу і хачу, каб дзеткам было добра ў школе, каб педагогам было як мага спрыяльней. Зарплату даць такую, якую яны заслугоўваюць, я, праўда, не магу. Ды і мой заробак залежыць ад колькасці навучэнцаў, а, на жаль, не ад якасці навучання... Я імкнуся, каб усё было для людзей: і ў сталовай каб смачна гатавалі, і магазін каб крышачку таннейшы, і каб цырульня працавала, і каб можна было атрымаць кваліфікаваную кансультацыю ўрача. Дзякаваць Богу, не востра стаіць праблема з лекамі: тое-сёе прывозяць нашы шматлікія замежныя сябры і партнёры.

**— З партнёрамі дзелавыя сувязі усталёўваеце таксама Вы?**

— Пакуль што толькі я.

**— А мастацкія сувязі?**

— Таксама я. Так атрымліваецца, што я, напэўна, болей бываю паўсюль і часцей знаёмлюся з цікавымі людзьмі.

**— А ў мяне пры чытанні нашай прэсы ўзнікае думка, што, каб пазнаёміцца з цікавымі людзьмі, трэба часцей наведваць Вашу вучэльню. Амаль усе высокія госці Беларусі — адначасна Вашы госці.**

— У нас школа добрая, так бы мовіць, і па змесце, і па вонкавым выглядзе. Яна, як Вы бачыце, сучасная, новая, і, канешне ж, нават з прагматычнага боку, вартая таго, каб быць аб'ектам гонару. А дзеткі ў нас якія цудоўныя! Вы ішлі — бачылі: яны і ветлівыя, і выглядаюць выдатна, акуратненькія. І да візітаў высокіх гасцей нашы выхаванцы ўжо звыклі, так што паводзяць сябе з імі натуральна. Не так даўно нас наведала дачка прэзідэнта ЗША Чэлсі Клінтан. Мы пастараліся, каб яна ўвесь час была з дзецьмі. Яна паглядзела кавалачак аднаго ўрока, кавалачак другога, пагасцявала на дні імяніннікa, паглядзела некалькі канцэртных нумароў і засталася вельмі задаволеная. А дванаццаць нашых навучэнцаў прысутнічалі ў ложы з пані Хілары Клінтан падчас спектакля ў Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі. Нашы навучэнцы вельмі выхаваныя, адказныя, ганарацца сваёй школай і радуюцца візітам высокіх гасцей.

*Школа... Мая суразмоўца ўжывае толькі гэтае слова. І ўзнікае знаёмы па кнігах пра мінулыя стагоддзі вобраз: «балетная школа». Сапраўды, вызначэнне «школа» злучае і чыста навучальны працэс, і ўплыў Настаўнікаў, і той амаль метафізічны мікраклімат, які складаецца ў дзіцячых калектывах, калі зіму за зімой і лета за летам дзеці праводзяць разам, разам падрастаюць і разам вучацца разумець нязменныя жыццёвыя ісціны.*

**— Людміла Фёдараўна, як Вам удаецца арганізоўваць рытм жыцця і вучобы Вашых выхаванцаў, большасць з якіх адрываецца ад дому, ад сям'і і гадамі жыве ў інтэрнаце?**

— Мы імкнёмся, каб у школе наогул было па-хатняму. Каб дзецям тут хацелася жыць і пачувалася цёпла, прыгожа, утульна. Інтэрнат дабраўпарадкавалі як маглі. У нас выдатныя выхавальнікі, яны душу ўкладваюць — у школу, у вучняў. Здаецца, дзеці сябе адчуваюць няйепска, робім усё, каб яны менш сумавалі па доме.

**— Харэаграфічная вучэльня — спецыяльная навучальная ўстанова. І з ранніх гадоў шмат часу, сіл тут ідзе на набыванне і развіццё прафесійных якасцяў. Якую прыярытэтную задачу вырашае Ваш калектыў: найперш выхаванне прафесіянала, артыста ці ўсё ж імкнецца выхоўваць гарманічна развітых людзей?**

— Канешне, у асноўным, атрымліваецца так, што амаль увесь час адбірае падрыхтоўка артыста. Праграма даволі аднабаковая. Я б хацела, каб нашы дзеці і многа чыталі, і добра ігралі на інструментах, і ведалі замежныя мовы. Безумоўна, у нас музычныя заняткі ёсць, гісторыя тэатра, балета вывучаецца, французская мова, але так мала гадзін! І — не атрымоўваецца па агульнаадукацыйных дысцыплінах такая моцная падрыхтоўка, як па спецыяльнасці. Толькі — па меры магчымасці.

**— У друку не-не ды і ўзнімаецца яшчэ адна праблема. Вучоныя імкнуцца сцвердзіць, што пагаршаецца генафонд нацыі, менш падрастае здольных дзяцей. У Вашай школе штогод адбываецца «жорсткі» адбор па фізічных дадзеных. Ці пацвярджаюць вынікі іспытаў выснову навукоўцаў?**

— Я б не стала сцвярджаць, што ў нас стала вучыцца менш здольных дзяцей. Канешне, сапраўдны талент — вялікая рэдкасць, але так было заўсёды і паўсюль. Праўда, па фізічных дадзеных дзеці сапраўды сталі горшыя. Цяжка сказаць з якой прычыны.

**— Неабходнасць стварэння пачуцця дому, бесперапынны працэс выхавання асобы... Мне падаецца, што кіраваць установай з падобнымі мэтамі павінна жанчына, бо менавіта жанчыны на працягу ўсёй гісторыі цывілізацыі распальвалі і захоўвалі агмяні.**

— Так, дзецям, канешне, лепш, калі дырэктар — жанчына, але нагрузка такая вялікая, што праца мая мне ж самой здаецца нежаночай. Праўда, за такую зарплату ні адзін мужчына працаваць не будзе... А ўтульнасць, добразычлівыя адносіны ў школе складаліся гадамі. Я тут працую, можна сказаць, усё жыццё. І з многімі нашымі педагогамі я разам вучылася, жыла ў адным доме, расла разам. Таму, пэўна, так блізка да сэрца прымаю ўсе іхнія праблемы і беды. І кожнаму з іх хочацца дапамагчы, хаця б словам. Многа даводзіцца займацца і гаспадаркай школы. Багата было ўсялякіх будаўнічых недаробак. Канешне, у мяне ёсць добрыя памочнікі, але ўсё роўна шмат часу адымаюць перамовы, «здабыча» сродкаў... Спонсары, безумоўна, ёсць. Многа багатых людзей хоча дапамагаць, але ж трэба, каб спонсар дапамагаў не так як ён хоча, а так, як нам неабходна.

**— Гэта таксама чыста жаночая тактыка?**

— Магчыма... З дапамогай спонсараў, дарэчы, мы сталі выпускаць «Вестник» — першы на Беларусі балетны часопіс. Першы нумар змяшчае і крытыку, і артыкулы па педагогіцы, і іншыя вельмі карысныя матэрыялы. Плануем выдаваць часопіс чатыры разы на год — раз на вучэбную чвэрць. Ёсць у нас яшчэ адна задума. Сёлета плануем адкрыццё балетмайстарскага факультэта пры Беларускай акадэміі музыкі. Такі факультэт востра неабходны, ён плануе рыхтаваць не толькі балетмайстраў, але і педагогаў, і балетных крытыкаў.






**— Ваша школа спецыялізуецца на класічным танцы. Калі згадаць гісторыю балета, то менавіта «сутык» XIX і XX стагоддзяў даў пачатак такой новай якасці, як мадэрн. Ці выспявае напрыканцы нашага стагоддзя ў беларускім балеце нешта падобнае? Цяпер у Вас вучацца тыя, хто будзе танцаваць напачатку XXI стагоддзя.**

— У нас вельмі ўстойлівыя традыцыі. Укаранёныя. Мы паспрабавалі выкладаць сучасную харэаграфію, але яна неяк не прыжываецца. Магчыма, педагогі не настроены, магчыма, мы залішне звыклі да класікі. За мяжой я бачыла шмат школ, якія цудоўна сумяшчаюць сучасны танец з класічным. А не так даўно ў нашай вучэльні адбыўся фестываль французскіх фільмаў, наладжаны Пасольствам Францыі. Некалькі стужак, на мой погляд, былі вельмі цікавыя, а некаторыя фільмы спецыялісты абсалютна не прымалі. Асабіста мне не да душы антыэстэтыка. Мастацтва ўсё ж не павінна ствараць змрочны настрой.

**— Людміла Фёдараўна, час цяпер складаны і непрадказальны. І ўсё ж — што Вас непакоіць найбольш?**

— Хочацца, каб кіраўнікі дзяржавы больш клапаціліся пра таленавітых дзяцей. Яны ж лічаныя, і стаўленне да іх не мае быць абыякавае. У дзяржаве няма такой іншай школы, як наша, і яе трэба падтрымліваць, маральна і матэрыяльна. Вельмі-вельмі не хапае сродкаў, у апошні час не так, як хацелася б, складваюцца адносіны з Міністэрствам культуры. Чакаем пераменаў да лепшага.

*Людміла Фёдараўна Каробкіна — «Шалі» па гараскопу. Магчыма, адсюль ейная ўраўнаважанасць, уменне балансаваць паміж матэрыяльным і духоўным, гармонія нават у спалучэнні любімых заняткаў: яна любіць наведваць тэатр і ствараць уласны вобраз —шыць, вязаць, плесці макрамэ. Яна творыць вакол сябе — паўсюдна — атмасферу душэўнага спакою. І мы спадзяёмся, што добрыя дамавічкі прыроджанай Гаспадыні яшчэ жывуць у будынку, дзе раней мясцілася Харэаграфічная вучэльня і куды нядаўна пераехала, у прыватнасці, рэдакцыя газеты «Культура».*

**Галіна БУЛЫКА.**

# БАЛЕТ, БАЛЕТ...

З вялікім поспехам у Мінску прайшоў фестываль харэаграфічнага мастацтва "Я люблю балет-94". Сёлета ён адбыўся трэці раз, такім чынам можна казаць пра нараджэнне традыцыі.

Фестываль быў арганізаваны Беларускім харэаграфічным вучылішчам. У яго праграму ўвайшлі балет Л.Мінкуса «Дон Кіхот», паказаны на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета. У адной з галоўных партый выступіла вядомая пецярбургская балерына Любоў Кунакова. У час фэста адбылося адкрыццё музея харэаграфічнага вучылішча і прэзентацыя двух першых нумароў балетнага часопіса «Вестник», — яго пачало выпускаць вучылішча. У дні свята на сцэне вучэбнага тэатра была паказана прэм'ера балета «Папялушка» на музыку І.Штраўса, пастаўленага швейцарскім балетмайстрам А.Бернардам, а на сцэне Дзяржаўнага тэатра музкамедыі — прэм'ера балета «Шапеніяна», пастаноўку якога ажыццявіла Л.Кунакова. У праграме форуму знайшлося месца для сустрэч, абмеркаванняў, аналізу ўбачанага — на «круглым стале», які адбыўся ў вучылішчы, выступілі вядомыя маскоўскія і пецярбургскія балетныя крытыкі — Г.Бяляева-Чаламбіцька, А.Сакалоў-Камінскі, Л.Лінькова, В.Розанава, педагогі Беларускага вучылішча. А завяршыўся фестываль на сцэне вучэбнага тэатра гала-канцэртам. У ім удзельнічалі народная артыстка Расіі Л.Кунакова, народныя артысты РБ І.Душкевіч, У.Камкоў, заслужаны артыст РБ В.Захараў, артысты тэатра музкамедыі, навучэнцы і выпускнікі Беларускага харэаграфічнага вучылішча.

**Таццяна ФЁДАРАВА.**



## ВІНШУЕМ!

*З 60-годдзем:*

**КАЗАКЕВІЧА Мікалая Канстанцінавіча** — *жывапісца.*

**НОВІКА Аркадзя Патапавіча** — *мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.*

*З 50-годдзем:*

**АНДРЭЯНАВА Уладзіміра Ільіча** — *мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.*

# КЛАСІКА АВАНГАРДА



15 красавіка ў галерэі сучаснага мастацтва «6-я лінія» адкрылася выстава твораў народнага мастака Рэспублікі Беларусь Леаніда Шчамялёва. Можна пазайздросціць вялікай працавітасці, а таксама аўтарытэту Леаніда Дзмітрыевіча: ягоныя персанальныя выставы адбываюцца штогод, і кожнага разу прыцягваюць увагу крытыкаў і аматараў мастацтва. Безумоўна, у параўнанні з цяперашнімі маладымі мастакамі Шчамялёў ужо не выглядае «фармалістам», як называлі яго ў 60-я гады, але ягоныя творы добра ўпісаліся ў эстэтычную прастору авангарднай галерэі. Бо сапраўдны творца не кансервуе культурную традыцыю і не разбурае яе ўшчэнт, а ператварае нанова.

Шчамялёў працуе ў самых розных жанрах (на думку некаторых мастацтвазнаўцаў, наймацнейшы ён у пейзажы). Але ў кожным творы адчуваецца мастак з тонкай назіральнасцю і рашучым пэндзлем. Фарбы ярчэйшыя за натуральныя, а часам увогуле нечаканыя, кампазіцыя лаканічная ці, я б сказаў, афарыстычная.

Выстава працягнецца да 18 траўня, і трэба падзякаваць яе спонсарам — фірме «Dainova» — за падтрымку беларускага мастацтва — і авангарднага, і традыцыйнага.

## Леанід ШЧАМЯЛЁЎ



жывапіс

ГАЛЕРЭЯ СУЧАСНАГА МАСТАЦТВА " 6-ая лінія "

# ХРОНІКА ЖЫВАПІСНЫХ АБШАРАЎ

Нагодай для знаёмства з творчасцю Васіля Васільева з'яўляецца унікальная выстава-акцыя з аўтарскай назвай «Праект Z», якая адбылася на пачатку года ў Віцебску. Работы гэтага мастака дэманстраваліся адначасна ва ўсіх выставачных цэнтрах горада. Нават для Віцебска, традыцыйнага цэнтра мастацкага жыцця Беларусі, гэта не шараговая падзея. Такая універсальная па праблематыцы выстава была арганізавана ледзьве не ўпершыню пасля легендарных 20-х гадоў. На працягу месяца гледачы мелі магчымасць азнаёміцца з шырокім спектрам пошукаў ·сучаснага візуальнага мастацтва. Аўтарам былі прадстаўлены вынікі творчай дзейнасці за апошняе дзесяцігоддзе.

Агульная ідэя «Праекта Z» — непарыўная, арганічная лучнасць мастацтва класічнага і сучаснага, эвалюцыя мовы выяўленчага мастацтва ад пачатку XX стагоддзя да нашых дзён. Важна адзначыць, што кожная з экспазіцый мела самастойную канцэпцыю і адначасна дапамагала раскрыццю агульнай задумы. У выніку ўвесь «Праект Z» атрымаўся аб'ёмным, поліфанічна суцэльным творам эстэтыкі.

Найбольш раннія з прадстаўленых работ перыяду 1985 — 1988 гадоў дэманстраваліся ў Музычнай гасцёўні (пл.Свабоды). У гэты час аўтар вырашаў у сваёй творчасці жывапісна-пластычныя задачы класічнай станковай карціны. Шмат якія з гэтых работ экспанаваліся ў свой час на ўсесаюзных, рэспубліканскіх і абласных выставах і былі добразычліва сустрэты гледачамі і тагачаснай крытыкай. Напрыклад, работа 1986 г. «Лістапад» была ўзноўлена ў каляровай рэпрадукцыі часопіса «Искусство». Увогуле гэты этап у творчасці В.Васільева можна лічыць досыць шчаслівым і плённым: работы купляліся, у тым ліку былі набыты і Саюзам мастакоў Беларусі.



У гэты ж час Васільеў — пэўна, мяркуючы, што атрыманая ім прафесійная адукацыя (мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута) ужо сталася недастатковай, паступае на манументальна-дэкаратыўнае аддзяленне Беларускай акадэміі мастацтваў.

У гэты перыяд малады мастак зближаецца з членамі творчага аб'яднання «Няміга, 19». Заўважны ўплыў на Васільева зрабіў, у прыватнасці, адметны беларускі жывапісец Анатоль Кузняцоў, а таксама З.Літвінава і С.Каткова. Да гонару Васільева, ён утрымаўся ад спакушэння стацца іхнім імітатарам, якія б даброты, маральныя і матэрыяльныя, гэта не абяцала б. Паводле ягоных словаў, аднойчы ён вырашыў для сябе, што



«нельга жыць з крадзяжу, гэта значыць, карыстацца тымі вырашэннямі творчых праблем, што ўжо знайшоў хтосьці іншы. Калі пагадзіўся жыць чужымі ідэямі, якія ты набыў дарма, без уласных намаганняў, дык ты ўжо другасны, ты ўжо не мастак». Далейшыя самастойныя пошукі прывялі аўтара да фактычнага разрыву ў творчасці з ягонымі аўтарытэтнымі настаўнікамі.

Працы, прадстаўленыя ў выставачных залах Цэнтра народнай творчасці, былі зроблены падчас навучання ў Акадэміі мастацтваў, калі В.Васільеў стаўся сябрам творчага аб'яднання «4-63» (г.Полацк). Тут экспанаваліся серыі «Гурзуф-2» (1990 г.) і «Знакі вады» (1991 — 1992 гг.). У палотнах крымскай серыі аўтара яшчэ вабяць непасрэдна жывапісныя рашэнні. Колеравая гама тут сакавітая, насычаная. Жывапіс разняволены і экспрэсіўны, палотны вялікіх фарматаў. І хоць у працах, зазвычай, фігуратыўнасць адсутнічае, эмацыйным настроем яны ўсё ж спараджаюць асацыяцыі з дэкаратыўнасцю позняга Маціса, а таксама з «новымі дзікімі». Але ўжо ў суседняй зале, у «Знаках вады», мы заўважаем, наколькі дынамічна развіваецца мысленне мастака.

Мастак адмаўляецца ад вонкавай эфектнасці дзеля Ісціны. Адмаўленне ад паверхоўнага падабенства прыводзіць да знакавасці вобразатвораў, да ўзаемадзеяння знака і прасторы, што і з'яўляецца, па сутнасці, новай мовай візуальных мастацтваў XX стагоддзя. Адбываецца пераход ад павярхоўнага адлюстравання вонкавых з'яваў да ўнутранай сутнасці: мастацтва робіцца не столькі выяўленчым, колькі паняційным.

У творчасці Васільева гэтую сітуацыю прадстаўляла экспазіцыя ў Абласным краязнаўчым музеі цыклам прац «Калекцыя дзён». Хаця сама назва цыкла адсылае нас да біблейскіх сямі дзён Стварэння, якой-кольвек ілюстрацыйнасці тут няма. Знакавы характар відарысаў арганічна спалучаецца са зместам — Вялікай таямніцай Быцця. Адна з гэтых работ — грубы, непранікальны для святла прамавугольнік, які закрывае сабой вакно. Святло прабіваецца толькі па краях, нібы ззянне. Вось так метафарычна вырашаецца тэма адасаблення Святла ад Цемры.

З-за недахопу месца адзначым яшчэ толькі дзве працы; у абодвух выпадках гэта па-гатычнаму выцягнутыя вертыкалі фарматаў. На адным — з бялёса-туманнай прасторы праяўляецца, праступае абрыс чалавечай постаці, які нагадвае адбітак мужчынскай фігуры на знакамітай Турынскай плашчаніцы. Другая праца —"чарцёж" прапорцый жаночай фігуры на матава-празрыстай кальцы — рэмінісцэнцыя «мадулору» Ле Карбюзье.

Наколькі натуральны для творчасці Васільева пераход ад адной выяўленчай мовы да іншай, пацвярджае ягоная дыпломная работа: 12 іканаграфічных кампазіцый для Васкрасенскай праваслаўнай царквы ў г.Дзісне. Як вядома, гэтаму прыходу прыналежыць знакаміты цудадзейны абраз Маці Боская Адзігітрыя — адна са святыняў беларускага праваслаўя. Можна ўявіць сабе цяжар маральнай адказнасці мастака падчас стварэння абразоў, змешчаных побач з гэтым шэдэўрам. Васільеў бліскуча адолеў гэтую задачу, што і пацвердзіла Дзяржаўная

# ГАДЗІННІК НАШАГА ЧАСУ



ksjondz

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі 27 красавіка адкрылася персанальная выстава Аляксандра Ксяндзова (1954 г.нар.). Павіншаваць сябра і былога вучня прыйшлі вядомыя мастакі і мастацтвазнаўцы, чые прамовы добра кладліся на цудоўную музыку, якую граў ансамбль скрыпачоў Мінскага музычнага ліцэя.

Аляксандр Ксяндзоў працуе ў галіне станковага жывапісу, але ў экспанаваных творах добра відаць, што мастак працяглы час займаўся вітражамі і насценным роспісам: вялікія і амаль аднатонныя колеравыя масы «свецяцца» знутры, як пафарбаванае шкло. Апрача таго, для некаторых палотнаў абраны фармат здаецца надта малым. І тут дарэчы будзе згадаць, што каталог выставы напісаны толькі на ангельскай і нямецкай мовах: магчыма, і творы рабіліся ў «экспартным варыянце»?

Вялікую частку экспазіцыі складаюць палотны рэлігійнай тэматыкі, у тым ліку серыя «Хрысціянская міталёгія». Да іх далучаюцца некалькі твораў з улюбёным, напэўна, вобразам Ксяндзова — мёртвай рыбай (як вядома, рыба — адзін з найстаражытнейшых сімвалаў хрысціянства). Амаль усе выявы даволі статычныя, і гэта ўзмацняе іхняе падабенства да абразоў.

Стыль, у якім працуе Аляксандр, увабраў у сябе таксама здабыткі постімпрэсіянізму, фавізму, постмадэрновых пошукаў мастацтва апошніх дзесяцігоддзяў. Мне чамусьці хочацца яго назваць «хрысціянскім канцэптуалізмам»: мастак запрашае гледачоў да актыўнага пераасэнсавання сваіх твораў (а значыцца, да сутворчасці). Напрыклад, тым, што некаторым палотнам дае падманлівыя назвы ("Залатая рыбка" намалявана чырвонай, а «Шэрыя прыцемкі» — фіялетавымі). Праз гульню сэнсамі з гледачом утвараецца дадатковае, трэцяе вымярэнне палатна, з чаго вынікае непрадказальнасць асэнсавання і самога бачання карціны рознымі людзьмі.

Вобразы хрысціянскай або антычнай міфалогіі, а таксама іншых мастакоў Ксяндзоў скарыстоўвае для асэнсавання гістарычных падзеяў нашага стагоддзя. Характэрны, з гэтага гледзішча, твор — «Выкраданне Еўропы», што адразу спараджае асацыяцыі з «Купаннем чырвонага каня» Пятрова-Водкіна: чырвоны бугай (сімвал бальшавізму?) плыве кудысьці ўначы з непрытомнай Еўропай на спіне...

Як адзначыў на адкрыцці выставы Г.Вашчанка, Аляксандр Ксяндзоў — мастак такі ж імпульсіўны і супярэчлівы, як і самы час, у якім мы жывём. Так, напрыканцы тысячагоддзя немагчыма з дакладнасцю прадказаць, у які бок будзе заўтра круціцца стрэлка гадзінніка альбо пэндзаль мастака.

*На здымках:*
1. «Свята», 1992 г.
2. «Зорка радасці», 1992 г.





экзаменацыйная камісія ў складзе такіх вядомых майстроў, як Л.Шчамялёў, Г.Вашчанка, В.Грамыка ды інш. Рэч у тым, што абраз — гэта не жывапісны твор для насалоды гледача. Па сваёй сутнасці абраз ёсць знакавай, паняційнай з'явай, дзе і жывапіснасць, і фігуратыўнасць — толькі вымушаны кампраміс. Такім чынам, паміж сучасным візуальным мастацтвам і мовай іканаграфіі антаганізму няма.

Напэўна, галоўная па задуме выстава Васільева адбылася ў зале Віцебскага аддзялення Саюза мастакоў. Экспазіцыя тут пачынаецца з адбітка чалавечай фігуры ў холе, што нібыта лунае ў прасторы над уваходам, — гэта «Аўтапартрэт», які адразу адсылае нашае ўяўленне да вядомага малюнка Леанарда да Вінчы. І калі чарцёж Леанарда толькі адлюстроўвае прапорцыі чалавечай фігуры і ў гэтым сэнсе з'яўляецца утылітарным, дык праца Васільева робіць акцэнт на трагедыі Чалавека, зачыненага ў гэтым Свеце. Драматызм узмацняецца чырвоным колерам адбітка.

Візуальная плошча залы падзяляецца на тры няроўныя часткі. Экспанаты адсылаюць нас да першавытокаў культуры, калі мастацтва было рытуалам, містычным спасціжэннем Быцця. Іхні знакавы характар нагадвае піктаграмы і магічныя формулы розных культур і гістарычных эпох.

Пасярод залы, нібы паўза ці памежны слуп, — «Сіні аб'ект». Парадаксальным чынам у ім спалучаюцца грубая форма першабытных кромлехаў ці мегалітаў і уніфікаванасць тэхнічнага вырабу індустрыяльнай цывілізацыі. На супрацьлеглых сценах, па абодва бакі ад «Сіняга аб'екта», — толькі дзве срэбна-шэрыя працы. Яны не маюць аўтарскіх назваў, але ўмоўна-вобразна гэта, у адным выпадку, геаграфічная карта з пакручастымі выгінамі ракі, а ў другім — выспы ў тумане, нейкая terra incognita.

Замыкаюць экспазіцыю беласнежна-чыстыя паверхні, якія там-сям маюць невялікія тонавыя мадуляцыі або мяккія, па колеравай гаме, графічныя знакі ў выглядзе ліній, колаў, авалаў, што ўспрымаецца як вобраз цішыні малітвы і медытацыі.

Неабходна адзначыць, што мастак не спрабуе ствараць новыя формы выяўленчай мовы (гэта было б даволі саманадзейным і наіўным у наш час), але, з іншага боку, аўтара немагчыма папікнуць эпігонствам: модная цяпер пераймальнасць у заходняга мастацтва тут адсутнічае. Элементы неаэкспрэсіянізму, канцэптуалізму або мінімал-арту, як мы бачым па кантэксце стварэння «Праекта Z», не з'яўляюцца эстэтычнай мэтай мастака. Хутчэй тут адбываецца актыўнае, творчае засваенне і выкарыстанне сучасных сродкаў мастацтва.

Напрыканцы адзначым, што віцебская інтэлігенцыя, не зважаючы на пэўныя эстэтычныя рознагалоссі, сардэчна прыняла ў сваё кола маладога мастака. Абладзіць побытавае жыццё і правесці шырокамаштабную выставу В.Васільеву дапамагалі многія людзі, у тым ліку — вядомы акварэліст Фелікс Гумен, члены праўлення Саюза мастакоў А.Скавародка і В.Чукін, гаспадар прыватнай галерэі сучаснага мастацтва А.Пушкін і афіцыйныя ўстановы культуры Віцебска. Вялікі ім дзякуй!

**Мікола ПРУСАКОЎ.**

г.Віцебск.

**Фота І.МАЛАШЧАНКІ, Э.ЦЕЦЯРЭЎСКАГА.**

На здымках:
1. Галерэя «У Пушкіна», люты 1994г.
2. «Зялёная аголеная», тэмпера.
3. «Сёстры», алей.



## ЭВАЛЮЦЫЯ СУЧАСНАСЦІ

24-га сакавіка ў Дзяржаўным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстава вядомага нямецкага графіка, дызайнера і фотамастака Антона Штанкоўскага (г.нар. 1906). Першых яе наведнікаў павіталі дырэктар музея Юры Карачун і кіраўніца Мінскага філіяла Інстытута нямецкай культуры імя Гётэ Вера Багальянц. Пані Багальянц адзначыла, што гэта ўжо трэцяя супольная акцыя Інстытута Гётэ і Мастацкага музея. Паводле яе словаў, выстава павінна даць гледачам уяўленне аб развіцці на працягу пяці-шасці дзесяцігоддзяў той галіны нямецкага мастацтва і дызайну, якая зведала моцны ўплыў расейскага канструктывізму, у тым ліку і некаторых мастакоў Віцебскай школы.

Простыя геаметрычныя формы, святло, перспектыва і элементы руху — А.Штанкоўскі скарыстоўвае гэтыя эстэтычныя сродкі ў спробах выявіць ідэальны парадак новага візуальнага асяроддзя, у якім жыве «чалавек індустрыяльны» (заўважым у дужках, што пошукі новага, звышнатуральнага парадку былі характэрныя і для палітычнага жыцця передваеннай Германіі, СССР ды іншых еўрапейскіх народаў).

У апошнія дзесяцігоддзі, аднак, у мадэрнісцкіх пошуках найбольш рацыянальнай арганізацыі жыцця і самой рэчаіснасці ўсё часцей з'яўляюцца элементы эстэтызаванай гульні. Штанкоўскі падкрэслівае ролю «ірацыянальнага складніка» сваёй творчасці: часам у пабудаваных у строгай адпаведнасці з геаметрыяй і лагічна прадуманых сістэмах з'яўляецца «выбуховы элемент-уцякач», які нахабна разбурае парадак і гэтым ставіць яго пад сумненне. Ад гледача патрабуецца не толькі рацыянальнае абдумванне твора, але таксама фантазія і здольнасць разумець нямецкі гумар, які праяўляецца ў беспадстаўным парушэнні дакладнай сіметрыі.

Магчыма, найбольш цікавую частку экспазіцыі складаюць фатаграфічныя творы А.Штанкоўскага, багатыя на метафары і нечаканыя ракурсы. Фотамастак выцягвае з добра вядомых нам рэчаў невядомыя вобразы — і тым пашырае не толькі «тэрыторыю» чалавечага зроку, але і ўвогуле «кантактную плошчу» чалавека і рэчаў, паміж якіх ён жыве.

*Выставы агледаў Юрась БАРЫСЕВІЧ.*

·БЫЛО·..

# КОЖНАМУ Б СУДУ ТАКОГА СЛЕДЧАГА

Бываючы амаль штогод на Украіне, у горадзе Канатопе, дзе я нарадзіўся, дзе пахаваны мае бацькі, я дзіўлюся заўсёды: чаму, як магнітам, прыцягвае да сябе мясцовы краязнаўчы музей — захавальнік цікавых рэліквій па гісторыі культуры гэтага краю? На адным з музейных стэндаў я не раз бачыў старую фотакартку класіка беларускай літаратуры, паэта-дэмакрата XIX стагоддзя Францішка Багушэвіча. Даўно збіраўся высветліць, чаму з'явіўся тут ягоны партрэт і што за ім стаіць. Але ўсё неяк не было зручнага моманту альбо не хапала на гэта часу.

Летась, завітаўшы ў родны горад, я зноў наведаў знаёмы музей. Толькі на гэты раз з пэўнай мэтай: як мага шырэй і падрабязней даведацца, што звязвала Багушэвіча з Канатопам. Калі я задаў такое пытанне супрацоўнікам музея, адна з жанчын-экскурсаводаў са здзіўленнем адказала:

— Хіба не ведаеце, што Багушэвіч вучыўся на юрыста ў Нежыне, а потым доўгі час працаваў у судовых органах нашага горада? Для нас, канатапчан, гэта вялікі гонар...

І тады я ўспомніў, што вясной 1960 года, калі мне давялося працаваць у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», наш супрацоўнік, літаратурны крытык Сцяпан Александровіч спецыяльна ездзіў у Нежын на адкрыццё мемарыяльнай дошкі Францішку Багушэвічу на будынку педагагічнага інстытута, дзе калісьці размяшчалася гімназія вышэйшых навук і юрыдычны ліцэй князя Безбародзькі. Там з 1865 па 1868 год якраз і набываў юрыдычныя веды будучы беларускі паэт. Памятаю, Сцяпан Александровіч пасля вяртання са службовай камандзіроўкі расказваў, што яму ўдалося нават знайсці кнігу пра колішні нежынскі ліцэй, у сорак другім выпуску якога пад нумарам «4» у раздзеле чыноўнікаў XII класа значыцца імя Францішка Багушэвіча.

Але якім чынам найвыдатнейшы сын беларускага народа трапіў на Украіну? Што прымусіла яго пакінуць родныя мясціны, любы бацькоўскі дом і шукаць сабе часовы прытулак на чужыне?

З гісторыі нашай літаратуры і творчай біяграфіі паэта вядома, што калі на Беларусі і ў Літве пачалося славутае нацыянальнае паўстанне 1863 года пад кіраўніцтвам рэвалюцыйнага дэмакрата Кастуся Каліноўскага, Францішак Багушэвіч, які ў той час настаўнічаў у Доцішках Лідскага павета, адразу ж далучыўся да паўстання. У адной з баявых сутычак з царскімі войскамі яго паранілі ў нагу, і ён вымушаны быў хавацца — над ім вісела пагроза арышту, астрожнага зняволення або высылкі ў Сібір.

Паслухаўшыся разумнай парады свайго сябра, польскага вучонага Яна Карловіча, Багушэвіч тайна пакідае Беларусь і едзе на Украіну. Там яму неўзабаве ўдалося паступіць у Нежынскі юрыдычны ліцэй.

Адарваны ад роднай зямлі, пазбаўлены бацькоўскай дапамогі, малады ліцэіст падчас вучобы зведаў матэрыяльныя цяжкасці і нястачы. Гэта прымусіла яго аднойчы падаць прашэнне на імя дырэктара ліцэя князя Безбародзькі з настойлівай просьбай назначыць хоць нейкую стыпендыю, каб як-кольвек жыць. Праўда, ён і сам спрабаваў зарабляць сабе на хлеб як гувернёр ці хатні настаўнік. «Усяго толькі нядаўна, — пісаў Багушэвіч у адным лісце да маці Карловіча, — атрымаў работу гувернёра на даволі цяжкіх для мяне ўмовах, але ў Нежыне вельмі выгадную, бо за 8 рублёў у месяц (студэнты ліцэя бяруць тут і па 3 рублі), што ўжо дастаткова на сталаванне і кватэру, і цешуся, што не буду дастаўляць такіх клопатаў людзям, якія ўжо і без мяне аж надта абцяжараны».



Адразу пасля атрымання дыплома юрыдычнага ліцэя Францішак Багушэвіч некаторы час служыў у Чарнігаве памочнікам пісара пятага стала губернскага праўлення, потым вёў следчыя справы ў невялікім гарадку Борзна Чарнігаўскай губерні. А ў 1874 годзе надоўга пасяліўся ў Канатопе, уладкаваўшыся на пасаду судовага следчага першага ўчастка Канатопскага павета Нежынскага акруговага суда.

Канатопскі перыяд у біяграфіі будучага класіка беларускай літаратуры надзвычай багаты шэрагам значных падзей, якія пакінулі незабыўны след у яго жыцці. Якраз тут, у Канатопе Францішак Багушэвіч пазнаёміўся з маладой мінчанкай Габрыелай Шклённік, якая неўзабаве стала ягонаю жонкаю. Дакументы сведчаць, што яны абвянчаліся ў сельскай царкве пад Нежынам 15 верасня 1874 года. Іх дзеці — сын Тамаш і дачка Канстанцыя нарадзіліся ў Канатопе адпаведна ў 1876 і 1881гг. З перапіскі Багушэвіча са сваімі сябрамі відаць, што Габрыела была выхаваная, культурная жанчына, добра іграла на фартэпіяна. Яе музычныя здольнасці, напэўна, атрымала ў спадчыну дачка і стала потым сапраўдным музыкантам. Мяккая і тонкая па натуры, Габрыела жыла клопатамі свайго мужа, дзяліла з ім усе радасці, маркоты і цяжкасці сямейнага жыцця.

У другой палове мінулага стагоддзя Канатоп быў невялікім павятовым горадам з бруднымі вулачкамі, крытымі саломай хатамі. Толькі ў цэнтры яго ўзвышаліся некалькі адно-двухпавярховых будынкаў пад жалезнымі дахамі, дзе знаходзіліся некаторыя мясцовыя ўстановы, крамы і дамы заможных гараджан. Маркуючы па перапісцы са сваякамі, сям'я Багушэвічаў наймала кватэру ў цэнтральнай частцы горада. У вольныя гадзіны, вызваліўшыся ад службовых спраў, малады следчы любіў разам з жонкаю прахаджвацца паблізу саборнай царквы, дзе было ўтульна і прыгожа і на душы станавілася неяк спакойна.

Вельмі падабалася Багушэвічу наведваць шматлюдныя мясцовыя кірмашы, якія збіраліся ў Канатопе тры разы на год і цягнуліся цэлы тыдзень. На адным з кірмашоў ён аднойчы прыдбаў каштоўны набытак. Ідучы ўздоўж доўгіх гандлёвых радоў, ледзьве прабіраючыся праз людскі бясконцы натоўп, Багушэвіч убачыў салдата, які трымаў у руках нейкую тоўстую кнігу ў чорнай вокладцы. Аказалася, што гэта — Біблія ў перакладзе на польскую мову. «Вось дык знаходка!» — падумаў Багушэвіч і тут жа спытаў:

— Адкуль, служывы, родам і як тваё прозвішча?

— Францішак Кавальчук, — адказаў салдат. — Нарадзіўся на Беларусі. А цяпер вось служу ў складзе 5-й артылерыйскай батарэі палка, які стаіць у Канатопе.

— Колькі ж ты просіш за гэтую Біблію?

— Пяць злотых...

Багушэвіч не стаў таргавацца: хутка разлічыўшыся з салдатам за Біблію, адразу ж пайшоў дадому. Пра гэтую пакупку і нечаканую сустрэчу з земляком беларускі пісьменнік памятаў усё жыццё і заўсёды ахвотна расказваў сваім блізкім і знаёмым.

Трэба сказаць, што аб працоўнай дзейнасці Ф.Багушэвіча на пасадзе судовага следчага, на жаль, захаваліся вельмі нязначныя звесткі. Аднак і тыя архіўныя дакументы, што дайшлі да нашых дзён, характарызуюць яго як цвёрда перакананага дэмакрата, чалавека сумленнага, крышталь-на чыстай душы і шчырага абаронцу правоў і інтарэсаў простых, гаротных людзей. Нездарма многія жыхары Канатопа, навакольных вёсак з вялікай павагай і ўдзячнасцю ставіліся да маладога юрыста. Добра адгукалася аб ягонай працы і начальства Нежынскага акруговага суда. Судовы старшыня Лангэ ў характарыстыцы на Ф.Багушэвіча пісаў, што ён як судовы следчы «пры выдатных маральных якасцях заўсёды вызначаўся поўным веданнем справы, акуратнасцю і працавітасцю». А пракурор Кобцаў адзначаў: «... кожны суд зробіць набытак сабе, калі прыме ў свае члены такога здольнага і выдатнага дзеяча...»

Ёсць падставы лічыць, што ў час знаходжання ў Канатопе Францішак Багушэвіч пачаў займацца паэтычнай творчасцю, хаця, на жаль, ніводнага верша гэтага перыяду ў архівах дагэтуль не знойдзена. Па сцвярджэнні літаратуразнаўцы, прафесара Сумскога педагагічнага інстытута Паўла Ахрыменкі (яго артыкул захоўваецца ў фондах Канатопскага музея), Ф.Багушэвіч як паэт «фармаваўся пад уплывам сялянска-рэвалюцыйнага руху пачатку 60-х гадоў ХІХст. і ў першую чаргу — паэзіі Шаўчэнкі, з якою грунтоўна пазнаёміўся яшчэ ў Нежынскім ліцэі».

Гэты літаратуразнаўца ў сваім артыкуле зазначае, што Багушэвіч настолькі «добра вывучыў мову і літаратуру ўкраінскага народа, настолькі пранікся да яго павагаю, зжыўся з яго думкамі і імкненнямі, што, як сведчаць сучаснікі паэта (З.Награцкі і інш.), распачаў сваю літаратурную дзейнасць на Украіне, прычым на ўкраінскай мове». На думку таго ж П.Ахрыменкі (дарэчы, ён некаторы час жыў і працаваў на Беларусі), у Багушэвіча, як і ў Шаўчэнкі, у творчасці цесна злучаны сацыяльныя і нацыянальныя праблемы. Гэтыя два вялікія песняры ў сваіх творах адлюстравалі любоў да народа і сваёй Радзімы, рэзка асуджалі паноў і рускі царызм, заклікаючы да барацьбы за свабоднае шчаслівае жыццё. І зусім невыпадковая ідэйна-тэматычная блізкасць такіх вершаў Багушэвіча, як «Праўда», «Мая хата», «Ахвяра», «Думкі», да многіх вершаў украінскага Кабзара.

Каля дзесяці гадоў жыў і працаваў у Канатопе Багушэвіч. Увесь гэты час ён не забываў пра Беларусь, не раз у думках звяртаўся да свайго прыгнечанага, абяздоленага народа. Ён знудзіўся па родных палях і лясах, па тым жыватворным паветры, якім дыхаў у маленстве. 2 лютага 1884 года канатопскі следчы піша такую заяву ў Нежынскі акруговы суд: «Страціўшы здароўе на доўгачасовай службе... і надзею дажыць да больш здавальняючых умоў, я вырашыў шукаць хлеба ў прыватнай працы. І таму маю гонар найпакорліва прасіць акруговы суд прыняць і падаць начальству маё хадайніцтва аб звальненні мяне ў адстаўку з прадастаўленнем мне правоў, дараваных законам на атрыманне адначасовай дапамогі. Пасведчанне аб хваробе маёй пададзена ў суд у снежні 1883г. мясцовым спраўнікам...»

Аднак не толькі слабое здароўе і нездавальняючае матэрыяльнае становішча прымусіла Багушэвіча назаўсёды пакінуць службу ў Канатопе. Як адзначаў беларускі літаратуразнаўца Уладзімір Казбярук у сваім артыкуле, апублікаваным у «Весцях АН БССР» за 1966 год, у Багушэвіча, напэўна, узнікла «нястрымнае імкненне да літаратурнай і грамадскай дзейнасці на карысць свайго народа, для якой на Радзіме можна было знайсці больш спрыяльную атмасферу».

Адстаўка была атрымана 14 сакавіка 1884 года. І ў канцы таго ж месяца Багушэвіч разам з сям'ёй выехаў у Вільню, дзе яму абяцалі пасаду адваката, дзе зусім побач жылі сваякі і знаёмыя.

Прайшло больш за сто гадоў. Не адно пакаленне людзей змянілася ў Канатопе. Але і дагэтуль памятаюць тут пра Багушэвіча, судовага следчага і мужыцкага адваката. Яго імя носіць адна з вуліц горада, а фотапартрэт вісіць на бачным месцы ў тутэйшым музеі. І кожны юбілей выдатнага беларускага паэта ператвараецца ў сапраўднае ўрачыстае свята.

**Георгій ЗАГАРОДНІ.**

*На здымку:* **Францішак Багушэвіч у гады вучобы ў Нежынскім ліцэі.**

КРЫК ДУШЫ

# «ПАЛОХАЮСЯ БУДУЧЫНІ...»

... Спадзяюся, што вы зразумееце мяне, бо не ведаю, да каго яшчэ звярнуцца за парадай. Магчыма, смешна чакаць маральнай падтрымкі ды дапамогі ад незнаёмых людзей, але я ўсё ж такі не губляю надзеі...

Справа ў тым, што я апынулася ў вельмі складанай жыццёвай сітуацыі, пра якую паспрабую распавесці. Нарадзілася я на Паўночным Каўказе, па нацыянальнасці асецінка, вырасла тут, выйшла замуж за маладога лейтэнанта, выпускніка вайсковай вучэльні. Неўзабаве мужа накіравалі на службу ў Заходнюю групу войскаў, што месцілася тады на тэрыторыі ГДР. Там нарадзіліся нашы дзеці — спачатку дачка, а потым, праз тры гады — хлопчык. Муж быў шчаслівы, бо вельмі чакаў нашчадка-дзіця, але хутка радасць наша змянілася горам і тугою. Хлопчык, якога мы назвалі Заурам, аказаўся хворым на цяжкае спадчыннае захворванне крыві — гемафілію, што перадаецца па жаночай лініі. Колькі шпіталяў аб'ездзілі мы ў пошуках выратавання, але нямецкія ўрачы толькі разводзілі рукамі: «Природа. Нічога не паробіш...». Шмат праплакаўшы, мне давялося прымірыцца з тым, што я — маці — з'явілася прычынай пакутаў майго сына...

Прабачце, калі ласка, што так падрабязна распавядаю пра свае няшчасці, але гэта вельмі важна і неабходна мне — падзяліцца з кім-небудзь сваёй бядою.

... Пасля службы ў Германіі мы трапілі ў Мінск. Спачатку доўга бадзяліся па прыватных кватэрах, але нарэшце атрымалі сваю, уласную ў ваенным гарадку ў раёне аўтазавода. Сын перыядычна праходзіў курсы лячэння ў Дзіцячым онка-гематалагічным цэнтры, адчуваў сябе нядрэнна, пайшоў у школу.

Але тут адбылося нечаканае (прынамсі, для мяне). Замест Беларускай ваеннай акругі ўтварылася Нацыянальнае беларускае войска, і ўсе вайскоўцы павінны былі прымаць новую прысягу — на вернасць Рэспубліцы Беларусь. Мой муж адмовіўся зрабіць гэта, сказаўшы, што хоча служыць на радзіме, на Каўказе, бо не ўпэўнены, што застаўшыся тут, не будзе вымушаны па загаду камандзіраў ваяваць супраць свайго ўласнага народа. А якое зараз палітычнае становішча ў паўднёвым рэгіёне і вакол яго — усім вядома... Як ні ўгаворвала я мужа застацца хаця б дзеля сына, жыццё якога залежыць ад лячэння, што немагчыма атрымаць у горным ауле, дзе жывуць ягоныя бацькі, — усё дарэмна. Узяўшы старэйшую дачку, ён паехаў... Я разумею мужа, але дараваць усё ж не магу.

Вось ужо некалькі месяцаў мы адны. Жывем на сацыяльную пенсію Заура як інваліда з дзяцінства ды на мізэрную дзяржаўную дапамогу, якую я атрымліваю, бо даглядаю хворае дзіця. Але ці можна сёння пражыць удваіх на гэтыя грошы? Смешнае пытанне. Канешне, муж дапамагае нам, але і тут не так усё проста, бо дасылае ён расійскія рублі, а атрымліваем мы тую ж суму, але — у «зайчыках»...

...Нядаўна я з жахам даведалася, што ў тых мясцінах, дзе служыць наш тата, неспакойна — успыхваюць узброеныя канфлікты паміж маленькімі горскімі народнасцямі. А калі з ім што-небудзь здарыцца? І па дачушцы сэрца баліць. Але паехаць да іх не магу — сынава хвароба не пускае.

Жыву я ў Мінску амаль восем гадоў і вельмі палюбіла гэты горад. У мяне з'явіліся добрыя знаёмыя, сяброўкі, якія не пакідаюць нас з сынам у такі складаны час. І няма ў нас ніякіх «нацыянальных» пытанняў. Але вельмі балюча і горка робіцца, калі чытаю ў газетах крымінальныя артыкулы пра «асобаў каўказскай нацыянальнасці». Што гэта за нацыянальнасць такая —«каўказская»? Ёсць грузіны, армяне, балкарцы, кабардзінцы, асеціны... Не магу зразумець і таму палохаюся заўтрашняга дня, будучыні. Што ж будзе далей? Ці стане Беларусь для нас новай радзімай, нягледзячы на тое, што ў нас на тварах напісана наша «каўказская» нацыянальнасць? А калі не — дык чые ж мы цяпер?

Людміла ПАШТАВА.

г.Мінск.

ВАЛЕРЫЙ ГЕРАСІМАЎ

# ЭСЭІДАЛЬНЫЯ АПОВЯДЫ

*Я часта думаў: чаму грамадскія падзеі і з'явы, што адбываюцца на белым свеце, адны — светлыя, чыстыя ды радасныя, а другія — брыдкія і мярзотныя? З часам прыйшоў да высновы — прычына ў самім чалавеку. У яго ўнутранай існасці.*

*Амерыкі не адкрываю тут. Даводзяць жа, напрыклад, што і Гітлер, і Ленін былі асобамі з неадэкватнай псіхікай, чым, маўляў, і абумоўліваліся іхнія разбуральныя для грамадства разумовыя ўчынкі. Ды лічыцца гэта дасюль выключэннем, адхіленнем ад нармальнага стану рэчаў.*

*Варта, аднак, прыгледзецца і ўбачым — мікравойны паміж сацыяльным, грамадскім, касмапалітычным, з аднаго боку, і індывідуальным, асабовым, нацыянальным — з другога, у натуры чалавека ідуць няспынна. І ахопліваюць яны не толькі правадыроў, а і ўсіх нас, усю ноасферу. Толькі, на жаль, мы рэдка іх заўважаем.*

*Спробу асэнсавання рэчаіснасці ў дадзеных стасунках і хацелася б прапанаваць шаноўным аматарам чытання.*

*Перад вамі не мастацкія апавяданні. Але і не голая публіцыстыка. (Хіба — публіцыстыка чалавечых пачуццяў?) Таму — эсэідальныя аповяды.*

*Аўтар.*



*Малюнак Л.РАЗЛАДАВА.*

## ПІК

Адразу.

Я не пра пік Камунізму. Да 1962-га — пік Сталіна.

На Паміры. 7495 метраў. Найвышэйшы ў былым СССР.

(Між іншым. Пік быў. Камунізму не было. А мо і быў. На тым адзіным піку. У высі завоблачнай. Для простых смертных недасягальнай.)

Я пра пік Адраджэння.

На Беларусі.

Чарговы пік. У градзе Адраджэння.

На памежжы 80-х і 90-х гадоў пакораны. Ён ужо ззаду застаўся. Бо што ёсць пік адраджэння? Як катэгорыя абстрагаваная? Пік адраджэння. Гэта калі ідэалы, рамантычнае на першым плане. А прагматычнае, рацыю так званае, — недзе на падыходзе толькі. Доктар навук і школяр. Службовец і дысідэнт. Бізнесмен і хатняя гаспадыня. Адных поглядаў. Выступаюць разам. Сябры, браты па зброі. І па духу.

Пік адраджэння. Гэта калі ў пэўных сферах грамадскага жыцця, па пэўных напрамках функцыянавання навукі, культуры і мастацтва. Нейкі час. Дзейнічаюць паралельныя структуры. З аднаго боку — новыя. Знізу. З ініцыятывы паспольства створаныя. Ці аднаўленыя пасля ідэалагічных пагромаў былых таталітарных рэжымаў. Вольныя. На энтузіязме сяброў працуючыя. З другога — старыя. Спарахнелыя. Кансерватыўныя. Дзяржаўныя. Або абдзяржаўленыя. Ведамствы. Фонды. Таварыствы.

Вось. Па генезісе адносінаў між імі і можна вызначыць. Наперадзе пік ці ззаду.

Ён наперадзе. Ён пад табою. Калі. Урадоўцы больш-менш дальнабачныя пачынаюць дрыжэць. За сваю шкуру. І будучыню. І. З усіх сілаў шукаюць кантактаў з нацыянальна-адраджэнскімі арганізацыямі. І. У вочы лісліва заглядваюць. Любому, мо ганімаму раней, як сабака, нацдэму.

Так было. Зусім нядаўна.

Зараз урадовец зноў акрыяў. Перастаў баяцца. І пужліва аглядвацца на кожны шорах. Бо мімікрываваў. Паспеў прыстасавацца.

Значыць. За спіной пік.

Але ён і наперадзе.

Парадокс? Не.

Ззаду — пік адраджэння рамантычнага.

Наперадзе — пік адраджэння прагматычнага.

Ён будзе. Калі. Найвялікшай колькасці дасягнуць шэрагі беларускамоўнай грамады. Калі. Найбольш паўстане беларускіх садкоў і школ. Калі. На беларускай мове загаворыць урад.

І ўсё ж гэта будзе менавіта прагматычны пік.

Чаму? Таму што Праца на Адраджэнне стане працаю адраджэнцаў. Спосабам і прыладаю зарабляць на хлеб. На пражытак.

Гэта добра і дрэнна.

Добра. Таму што гэта непазбежны, аб'ектыўны, заканамерны. Этап, працэс. Калі адраджэнне нацыі пераходзіць у сталенне нацыі.

Дрэнна. Таму што пазбаўлены крыштальнай чысціні ідэалу крок наперад можа перарасці ў два назад. А рух — пераўтварыцца ў застой. Наперадзе ж можа чакаць і бездань. І там на дне. Дзе цёпла. Сыра. Замшэла. І ўсціішна. Заўсёды існуе спакуса ўпасці ў чарговы летаргічны сон. Сон, які спародзіць новых антынацыянальных пачвар.

Так. Гэта будзе цяжкі этап. Бо сіла дзеяння роўная сіле супрацьдзеяння. Бо нябачаных дасюль памераў дасягне небяспека «пятых калонаў» на Беларусі. Суседніх, больш моцных і ганарлівых нацый. Пачуем мы такія абразы ў бок беларушчыны, якіх не чулі дагэтуль. Ды і перакроіць абшары нашае Бацькаўшчыны некаму ж ізноў захочацца.

І таму. Шкада. Што Адраджэнне ідзе і... праходзіць.

І таму. Віват. Што Адраджэнне ідзе і праходзіць.

Нас чакаюць новыя пікі.

## ДОМ УРАДА

Дом Урада. Чаму «Урада» з вялікай літары? Так на «тарашкевіцы» было некалі. Стары правапіс «наркомаўка» змяніла. Малая літара замест вялікай у назоўніках такіх пісацца стала.

А «Дом Ураду», як пачалі ў 1933-м — калі ўрачыста здалі будыніну да 7 лістапада, — так «людзішкі дзяржаўныя» і «крэмзалі» ў афіцыйных паперах, па традыцыі.

Апошнім часам пільныя дэмакратычныя журналісты, відаць, угледзелі тут узвелічэнне ўладаў залішняе. І пачалі ўпарта «ўрада» з літары маленькай пісаць. (Вось нігілісты!)

Ну, а я па старынцы ўжо буду, калі дазволіце.

Дом Урада.

Колькі інтрыгаў бачылі яго сцены!

Колькі трагедыяў адбылося пад яго скляпеннямі!

Колькі тайнаў хаваюць яго сутарэнні!

Моры чалавечых слёз выплакана ў ім.

Тысячы чалавечых лёсаў зламаны ў ім.

Мільёны праклёнаў адрасаваныя яму і яго «обитателям».

Кажуць нават, прывід Сталіна блукае ноччу па яго падзямеллях і мурах. Шукае, быццам, галаву сваю. Якую камуністычныя фанатыкі схавалі ад гневу народнага.

І пра галаву кажуць. Засталася яна нібыта ад помніка гіганцкага на пляцы Сталіна — Цэнтральным — Кастрычніцкім. У Менску. Помніка, што ноччу танкамі ламалі-ламалі, ледзь зламалі. Чаму ноччу? Таму што ў неафітаў хрушчоўскіх існасць заставалася старая. Што за існасць? Элітарна-кіраўніцкая, чынадральная. Якая і метадаў вымагае змоўшчыцкіх, патаемных. Дарэчы, і сам Хрушчоў пацярпеў ад яе, у канцавым для сваёй кар'еры 1964 годзе. «За что боролся, на то и напоролся».

Але што ж галава? А нічога сабе! Кажуць, лыпае вачыма ў адным са сховаў урадоўскіх. Лыпае і вуснамі шавеліць. Толькі слоў не разабраць амаль. Ясна чуецца нібыта адно: «Хутка...» А што хутка?

Як было адрозніць чыноўніка Дома Урада? Вельмі проста. Па кансерватызму ў вопратцы і абутку. Менск у туфлях на платформе ходзіць. Чыноўнік у вастраносых фарсіць. Менск на вастраносыя перайшоў. Чыноўнік яшчэ гадоў пяць на платформе карачыцца. (Праўда, скура на тых туфлях чыноўніцкіх такая, што і фараонам не снілася. Балазе, свая ўрадоўская шавецкая майстэрня заўсёды пад бокам.)

Старамодны ўрад стварае старамоднае жыццё. Старамоднае жыццё вымагае старамоднага ўрада. Старамодны ўрад усталёўвае старамодны Дом Урада.

Зачараванае кола.

Напачатку 80-х цюкнула чыноўніку нешта ў галаву. З'явіліся ў Дома Урада шыльды на беларускай мове. Між імі і такая —"Кіраўніцтва дамамі". (Ёсць такая служба саўмінаўская гаспадарчая).

Кажуць, пасля маскоўскія высокія госці з вялікім імпэтам цікавіцца пачалі. Як гэта дамамі на Беларусі кіруюць? І знікла шыльда. Спужаўся чыноўнік свайго ж слова роднага. (З нагоды з'явілася ў мяне думка крамольная. А што, як наведае нас некалі, прыкладам, прэзідэнт расейскі. Прывязуць яго да будынка беларускага парламента з шыльдаю — «Рада». І ашалее ж той прэзідэнт, дапяўшы, — яго ў дом даставілі, дзе жанчыны... заўсёды радыя... Зразумелі? Вось тут і глядзі!)

Папытаеце мо яшчэ. Кажуць, усё ведае толькі КДБ.

Кажуць вось, у «Доме Урада» зноў літарку мяняць будуць.

## ПАРЛАМЕНТ

Памятаеце? Калі Еўтушэнку — слыннага паэта з беларускімі каранямі — абралі народным дэпутатам СССР, ён на пасяджэнні З'езда прыходзіў у вышыванай — «а-ля-славяне» — сарочцы.

Чаму? Таму што вышываная сарочка для ўсіх нас была сімвалам. Сімвалам свабоды. Сімвалам разнявалення духу. Сімвалам вяртання да вытокаў.

Чаму менавіта Еўтушэнка з'явіўся ў ёй? Таму што паэты — індыкатары, лакмусавыя паперкі волі. «Былі. Ёсць. Будуць».

Таму што ўсе мы чакалі — чалавек заўсёды спадзяецца — гнілы «сіцылізм» адразу зменіць поўны моцы і імпэту капіталізм. Капіталізм як спраўджаная мара нашая пра светлую будучыню, здаровы сэнс і г.д.

Чакалі. Ды не дачакаліся. Быў то самападман. Ідэалізм чысцейшай вады.

Уладарылі чыноўныя «пінжакі». І ўладараць па-ранейшаму.

Жыццё было цяжкае. Жыццё ёсць цяжкае.

Памятаеце? Даволі хутка Еўтушэнка стаў хадзіць у Крэмль у звычайнай кашулі.

Дык што?

Парламент кожнага, для кожнага, у кожным. Парламент стылю і іміджу Полацкага веча ды праўлення дэмасу Старажытнай Грэцыі. Парламент у вышываных сарочках. Толькі мроя?

Не ведаю.

## АДГАЛІНАВАННІ

Землятрус. Дрыжыць зямля. Пагрозлівы падземны гул. Агонь з нетраў.

Вось на вашых вачах узнікае расколіна. Яна як бы бяжыць. Хутка-хутка. А ад яе адгалінаванні. А ад адгалінаванняў — яшчэ меншыя адгалінаванні. Сетка адгалінаванняў.

Крыгалом на рацэ. Паколатая шыбіна.

Ствол — галіна — галінка.

Корань — карэньчык.

Адгалінаванні дабра. Адгалінаванні зла.

Здаецца, усё жыццё пабудавана на адгалінаваннях. І ў жывой. І ў нежывой прыродзе. І ў людзей — у грамадстве.

Дачнікі ведаюць. Пры пікіроўцы самы доўгі, цэнтральны корань у расады прышчыпваюць. Пакарочваюць, значыць. Не зробіш гэтага — не разаўюцца іншыя карэньчыкі. А ад аднаго — хай сабе і галоўнага, моцнага — карысці мала. Слабая, кволая атрымаецца расліна.

Не прышчыпілі Леніна. Не прышчыпілі Сталіна. І атрымалася з СССР Верхняя Вольта з ракетамі. Калос на нагах гліняных. Хімера. Хімера камунізму.

## НАЦДЭМ

Нацдэм хацеў быць нацдэмам. І стаў ім. Хоць спачатку ён гэта і не ўсведамляў.

Бы звер-адзінец, ён змагаўся адзін. І перамагчы не мог.

Побач сталі другія нацдэмы. Барацьба разгарэлася.

Яна загартавала нацдэмаў. З аднаго ўзрасло адзінае. Агульнасць інтарэсаў і ідэалаў.

Нацдэмы любілі. Бацькаўшчыну. Народ. Мову.

Нацдэмы не любілі. КДБ. Сексотаў. Наменклатуршчыкаў.

Нацдэмы шанавалі. Гісторыю. Культуру. Звычаі.

Нацдэмы адмаўлялі. Фальш. Крывадушша. Шкурніцтва.

Іх не разумелі. Іх баяліся. Іх ушчувалі.

За імі пайшлі. Спачатку сотні. Потым тысячы. Сотні тысяч.

Але збоч Веры крочыць Сумненне. Разам з Богам прыходзіць д'ябал.

Д'ябал нашэптваў увішным і рахманым:

— Задраць штаны і бегчы за камсамолам? Смешна.

Д'ябал раіў спрактыкаваным і славалюбцам:

— І ў гэтай справе можна знайсці сваю залатую жылу. А знайшоў — распрацоўвай яе, абагачайся. Не ты для справы, а справа для цябе.

Многія паслухалі д'ябла.

І раптам той, першы нацдэм, адчуў. Што ён як бы ўжо і не зусім патрэбны.

Паблізу былі больш разумныя. Больш масцітыя. Больш абачлівыя.

Не было пракараў. І вось — усе пракокі.

І той, першы нацдэм, зразумеў — ён зноў першы.

## СМЕРЦЬ БРАГІНСКІХ РАКАЎ

Яны вымерлі першымі. Гэткія дыназаўры. Дыназаўры з плёсаў і старыцаў Брагінкі. Шматлікіх ручаінаў і канавак, што жывілі яе.

Яны, можна сказаць, змагаліся. Але змаганне было няроўным.

І яны вымерлі. Адразу. Як тыя людзі з рэлігійных сектаў, пра масавыя суіцыды якіх час ад часу паведамляе прэса.

Але ж людзі самі выбіраюць шлях да Бога ці да д'ябла.

Ракі не выбіралі. За іх выбралі людзі. Чалавекі. З вялікай літары. Чалавекі. Якія хочуць гучаць горда. І на гучанне ідзе ўвесь іх запал. А гордасць ... Гордасці ўрэшце не застаецца. Голы кароль...

Адным ранкам, не памятаю дакладна — таму, мусіць, гадоў дваццаць — чэрвеньскім, ліпеньскім, жнівеньскім? — яны выпаўзлі на берагі. І так заўсёды пукатыя іх вочы, здаецца, выскоквалі з арбітаў. Нейкае працяжнае кракценне — бы стогн — чулася над усёй вадзяной прасторай.

Іх ніхто не чапаў. Выпадковыя сведкі толькі неяк паблажліва ўсміхаліся, не разумеючы да канца, што гэта такое адбываецца.

Было, праўда, і раней. Спускаў калі-нікалі брагінскі масласырзавод — сыры ў былы Ленінград ды Маскву вывозілі, а ў самім мястэчку на іх толькі аблізваліся — сваю атрутную «сыроватку» ў Брагінку. Пагойдваліся тады на хвалях, ціха сплываючы, розная рыбная дробязь і невялічкія шчупакі.

Але яны трымаліся. Відаць, у норах пераседжвалі чарговую навалу.

Зараз было не тое. Зараз адбываўся сапраўдны рачыны генацыд. На беразе апынуліся і маленькія рачаняты, і жвавыя рачыхі-маладзіцы, і парослыя імхом ракі-патрыярхі. Сінявата-чорныя, бліскучыя — з глыбінь. І, па-свойску неяк выглядаючыя, пясочнага колеру, — жыхары водмеляў.

Усе былі тут. У свой апошні дзень.

Бо потым яны некуды зніклі. Назад, у ваду, не вярнуліся — пазней іх ніхто не бачыў, не тое што лавіў. Але і на берагах здохлыя не валяліся. Быццам выпарыліся, на нябёсы ўзнесліся.

Мо меліярацыя таму прычынай. Мо хімікаты, што з «кукурузнікаў» без меры распыльвалі.

Вывеліся ракі. І амінь.

Але ім пашанцавала. Яны не дажылі. Да Чарнобыля.

Бог — ён наперад бачыць. Хто без граху — да сябе забраў. Раней.

А мы — заскарузлыя ў невымольнасці. Найбольшыя з жывых істотаў на Зямлі грэшнікі. Засталіся.

Засталіся... Каб доўжыць спіс грахоў.

...Смерць брагінскіх ракаў. Сёння я разумею. Гэта быў знак. Вышні Знак.

РАКУРС

# РАМАНТЫКА ВІРТУОЗА

*«Фантазіі выдатных скрыпачоў на тэмы вядомых опер». Так называлася праграма, з якой у Канцэртнай зале філармоніі выступіў лаўрэат шасці міжнародных конкурсаў Юрый Брагінскі. Некаторыя «руплівцы» на ніве надзвычай высокага мастацтва нярэдка адносяць віртуозна-рамантычную музыку да музыкі амаль другаснай. Я ніяк не магу пагадзіцца з імі, бо ўражанне аб музычным творы найперш залежыць ад канкрэтнага выканання: таленту, мастацкага ўзроўню і інструментальнага майстэрства артыста. Згадаем хаця б Леаніда Когана або Андрэя Корсакава, накірунак творчасці якіх у значнай меры цягнуўся да рамантызму. У XIX стагоддзі фантазіі на оперныя тэмы складалі ці не асноўную частку канцэртных праграм скрыпачоў. Часам музыкант імправізаваў нават на тэму, якую яму падказвала зала. Многія фантазіі і пісаліся ў варыяцыйнай форме: яны складаліся звычайна з уступу, часта лірычнага характару, арыі і варыяцый, нярэдка з кодай. Падобны падыход, як кропля вады, адлюстроўваў сцэнічную драматургію оперы, выклікаў асацыяцыі з опернай дзеяй.*

Юрый Брагінскі ў першым аддзяленні прадставіў наступныя творы: «Атэла» Г.Эрнста — Дж.Расіні, «Карсар» А.В'етана —В.Беліні, «Ганна Балейн» А.Бацыні — І.Даніцэці, «Цудоўная млынарка» Н.Паганіні — Д.Паізіэла.

Генрых Гейнэ лічыў Г.Эрнста «магчыма, найбольш выдатным музыказнаўцам свайго часу». Эрнстава фантазія «Атэла» ў выкананні Ю.Брагінскага не толькі захапляе розум эфектнай віртуознасцю, але і кранае саму душу. Ігра скрыпача вызначаецца напоўненым гучаннем, яго ны смык, здаецца, «прыкіпае» да струнаў. У пластыцы рухаў адчуваецца цудоўная школа, якую прайшоў музыкант.

Юрый Брагінскі адкрыў для публікі і даўно забытыя творы. Сучаснікі гаварылі пра А.В'етана, што яго бліскучыя бравурныя творы, багатыя на цудоўныя музычныя думкі, з'яўляюцца разам з тым «квінтэсенцыяй віртуознай музыкі». Фантазія «Карсар» В'етана — Беліні стала сапраўдным адкрыццём. Ю.Брагінскі іграў з асалодай, менавіта іграў, а не выконваў на інструменце. І ва ўсім, нават у паставе скрыпача, адчуваўся нязмушаны артыстызм.

А.Бацыні, віртуоз і кампазітар XIX стагоддзя, сёння вядомы хіба што дзякуючы пяціхвіліннай п'есе «Карагод гномаў». Ю.Брагінскі натхніўся фантазіяй А.Бацыні на тэму оперы Г.Даніцэці «Ганна Балейн». Разнастайнае гучанне нагадвае то сакавіты густы барытон, то серабрыстае сапрана. З дзіўнай лёгкасцю артыст дэманструе чыста скрыпічныя віртуозныя прыёмы: стаката, штрых Віёці, спіката, віхурныя пасажы, трэлі... І ўсё — у феерычным хуткім тэмпе! І ва ўсім — добры густ і нязменнае пачуццё меры.

Фантазія Н.Паганіні на тэму оперы Д.Паізіэла «Цудоўная млынарка» зберагалася аўтарам у строгім сакрэце, бо Паганіні не жадаў, каб хтосьці выконваў ягоныя творы. Твор быў запісаны па памяці сябрам слыннага віртуоза і выдадзены ўпершыню праз год або два пасля ягонай смерці. Гэта фантазія заслужана мае славу самай цяжкай рэчы, калі-кольвек напісанай для скрыпкі. Яна ёсць увасабленнем ледзь не ўсіх выканальніцкіх прыёмаў віртуознага рамантызму. Юрый Брагінскі іграе гэтую рэч з «віртуознай адвагай», спалучаючы яркасць тэмпераменту з тонкім і пранікнёным лірызмам.

Другое аддзяленне канцэрта скрыпач адкрыў варыяцыямі на адной струне «Майсей» Н.Паганіні — Дж.Расіні. Міжвольна згадвалася легенда пра тое, як нехпрыяльцы падрэзвалі струны на скрыпцы Н.Паганіні. Калі заставалася апошняя струна, віртуоз іграў, здавалася, яшчэ больш страсна і вынаходліва...

Мелодыя «Майсей» у Ю.Брагінскага гучыць напоўнена і адначасна мякка. Вось пачынаюцца і варыяцыі. Якая натуральнасць, якое любаванне ўзорам меладычных фігурацый! Аж слухачам здаецца, што на скрыпцы іграць зусім лёгка.

На пачатку XX стагоддзя П.Сарасатэ напісаў фантазію на тэму «Чароўнай флейты» В.А.Моцарта. У цяперашні час яна абсалютна знікла з канцэртнага рэпертуару. І вось — зноў гучыць мелодыя незямнога хараства. Гукі скрыпкі Ю.Брагінскага нагадваюць гукі крыштальнай флейты: майстар здолеў выбраць з самага высокага рэгістра незвычайна прыгожы тон. Выкананне нагадвае каштоўны куфэрак, выразаны алмазным начыннем.

Але адным з найбольш уражлівых нумароў канцэрта выглядала, пэўна, «Кармэн» Ф.Ваксмана — Ж.Бізэ. Гэта трансцэндэнтная п'еса была напісаная спецыяльна для вядомага віртуоза нашага стагоддзя Яшы Хейфеца галівудскім кампазітарам Францам Ваксманам. Яркая тэатральнасць, маляўнічасць вобразаў, артыстычная свабода, імправізаванасць, разнастайная палітра выразных сродкаў — вось уласцівасці гэтага нумара. Некалі Яша Хейфец сказаў, што артысту, каб дасягнуць дасканаласці, неабходна «мець нервы тарэадора і здольнасць да самапаглыбленасці, як у будыйскага манаха». Здаецца, Хейфец характарызаваў менавіта Юрыя Брагінскага.

Годным партнёрам скрыпача ў гэтым канцэрце стаў маскоўскі піяніст Анатоль Шалудзякоў, чулы ансамбліст, які валодае мяккім тушэ.

На «біс» музыканты выканалі «Роздум» Ж.Маснэ. Узвышана, цнатліва гучала мелодыя ў першым і трэцім раздзелах п'есы. Цікава высветлілася сярэдзіна: крыху ўзрушаны тэмп, больш інтэнсіўная вібрата, іншае гукавыцягванне. П'еса, заіграная ў вучэбным рэпертуары, зноў уражвала.

Кажуць, каб быць вышэй за віртуоза, трэба спачатку стаць віртуозам. Брагінскаму ўдалося здзейсніць гэтае пераўтварэнне. У канцэрце, пра які вядзецца гаворка, выканаўца праявіўся, як скрыпач віртуозна-рамантычнага амплуа. І гэта не дзіўна, бо рамантызм дорыць новыя (у параўнанні з папярэднімі эпохамі), вобразы, новыя сродкі, новыя магчымасці для дасягнення інструментальнай дасканаласці. У ігры Ю.Брагінскага многае нагадвае мастацтва выдатнага скрыпача Пабла Сарасатэ. Віртуознасць не памірае. Нават у эпохі вышэйшага панавання інтэрпрэтатарскага мастацтва знаходзіліся музыканты, што здзіўлялі чыстай віртуознасцю. Сакрэт Ю.Брагінскага найперш у дзіўнай непасрэднасці ягонага мастацтва.

Юрый Брагінскі вядзе вялікую даследчую працу, што дапамагло яму скласці адмысловую праграму. Выпадковая знаходка ў нотным магазіне невядомых твораў — фантазій на тэмы опер — дала скрыпачу выдатную ідэю. І майстар, нітка за ніткай, быццам скручваў «залаты клубок». Цяпер ён мае ноты сотні фантазій і ўпэўнены, што можа знайсці яшчэ не менш за сто пяцьдзесят... Тое, што зараз у творчым «арсенале», — толькі вяршыня айсберга. Радыё Бі-Бі-Сі падрыхтавала нядаўна асобную перадачу, прысвечаную праграме Ю.Брагінскага «Падарунак зорак». У сучасны момант у Лондане вядуцца перамовы пра выданне гэтых твораў пад ягонай рэдакцыяй.

Знакаміты на Захадзе, Юрый Брагінскі да гэтага канцэрта быў малавядомы шырокай публіцы на Беларусі. У семнаццацігадовым узросце ён з'ехаў на Захад і не гастраляваў тут. Але ў свой час у музычнай адзінаццацігодцы і музычнай вучэльні пры Маскоўскай кансерваторыі ягонымі настаўнікамі былі выдатныя педагогі М.Гарліцкі, М.Глязарава, В.Бронін... У 1962 годзе сямігадовым хлопчыкам ён быў выбраны сярод лепшых скрыпачоў школы для выступлення перад Іегудзі Менухіным. Вялікі музыкант і ў наступным адыграў значную ролю ў творчым лёсе адоранага юнака. Уплыў на Ю.Брагінскага зрабілі таксама Генрык Шэрынг і Леанід Коган.

Юрый Брагінскі — лаўрэат шасці міжнародных конкурсаў, ён многа канцэртуе па ўсім свеце і з'яўляецца прафесарам Брусельскай кансерваторыі.

Пасля канцэрта скрыпач згадзіўся адказаць на некалькі пытанняў.

**Ігар ВЯДЗЕНІН:** Якія сферы Вашай дзейнасці ў Бельгіі?

**Юрый БРАГІНСКІ:** Я жыву ў Бруселі, там выкладаю ў кансерваторыі, з 1980 года з'яўляюся бельгійскім грамадзянінам, падданым караля. Вельмі люблю Брусель.

**І.В.:** І чым адрозніваецца заходняя сістэма музычнай адукацыі ад той, да якой мы звыклі?

**Ю.Б.:** Сістэма адрозніваецца, але не радыкальна. Як і тут, працуюць дзіцячыя музычныя школы, але няма спецыяльных музычных школ пры вышэйшых навучальных установах, дзе б вучыліся тыя, хто хоча стаць прафесійным музыкантам. Але ёсць і выключэнні — школа І.Менухіна ў Англіі, школа «Пёрсэл-скул». У гэтых школах вывучаюцца і агульнаадукацыйныя, і спецыяльныя, і тэарэтычныя дысцыпліны.

**І.В.:** У Вас цудоўны інструмент. Раскажыце, калі ласка, ягоную гісторыю.

**Ю.Б.:** Пасля майго дэбюту ў Англіі, у Рояль-Альберт-холе з Лонданскім сімфанічным аркестрам Генрык Шэрынг запрасіў мяне да сябе на летні курс у Жэневу. Ён быў вельмі ўражаны маёй ігрой, але вельмі засмучоны маім інструментам. «Вы не можаце іграць на такой скрыпцы», — канстатаваў маэстра і прапанаваў мне зайсці да скрыпічнага майстра. І там я выбраў цудоўную скрыпку італьянскага майстра XVIII стагоддзя Антонія Гальяна. Зараз я іграю на гэтым інструменце, падараваным Генрыкам Шэрынгам.

**І.В.:** Жыццё вядомага музыканта на Захадзе не ўнікае шматлікіх сустрэч, свецкіх размоваў.

**Ю.Б.:** Сустрэч сапраўды было шмат: і з музыкантамі, і з асобамі каралеўскай крыві. Я толькі-толькі вярнуўся з Мексікі, дзе даваў канцэрт па запрашэнні дачкі бельгійскай каралевы Лізаветы. Яна была жонкай апошняга італьянскага караля Умберта II, які адмовіўся ад трона ў 1946 годзе, пасля ўсеітальянскага рэферэндуму. Цяпер удава, каралева Мары Жозэ дэ Савуа з адной са сваіх дачок засталася ў Мексіцы. На прыватным канцэрце я іграў для аўгусцейшай асобы, яна, вытанчаная знаўца, з радасцю слухала невядомыя творы сваіх суайчыннікаў...

Мы доўга яшчэ гутарылі з Юрыем Брагінскім, і цеплыня нашай размовы ішла ад цеплыні музыкі, ад фантазійнага палёту гукаў. І я з прыемнасцю адзначыў, што мой суразмоўца — больш, чым толькі выдатны скрыпач. Ён філосаф-рамантык у жыцці і ў музыцы, ён паэт скрыпкі. І ягоная ігра дорыць нам веды, якія спасцігаюцца адзінай крыніцай — душой.

**Ігар ВЯДЗЕНІН,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

# ФЕЕРЫІ «РУНІ»

Што складае сэнс і мэту існавання самадзейнага творчага калектыву? Напэўна, магчымасць рэалізацыі творчых здольнасцяў яго ўдзельнікаў, асэнсаванне далучанасці да мастацтва, адчуванне неабходнасці гэтага мастацтва і цябе, яго творцы, людзям.

Гэтая простая, здавалася б, ісціна стала відавочнай для мяне зусім нядаўна, калі, бадай, упершыню блізка сутыкнулася з дзейнасцю такога калектыву. А адбылося гэта падчас навуковай камандзіроўкі ў Польшчу, якая супала і была звязана з паездкай у гэтую краіну Ансамбля народнай музыкі «Рунь» (Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта), запрошанага ансамблем-"пабрацімам" «Промні» (Варшаўскага сельскагаспадарчага універсітэта) на традыцыйную штогадовую сустрэчу сяброў. Трапіўшы па волі лёсу ў вельмі спецыфічную, быццам замкнёную на сабе мікраструктуру, якой з'яўляецца творчы калектыў, я атрымала унікальную магчымасць убачыць яго працу, як кажуць, знутры.

Ансамбль «Рунь», створаны 10 гадоў таму пры Тэхналагічным інстытуце, — адзін з тых калектываў, якія адразу палюбіліся аматарам самадзейнага мастацтва. Лаўрэат і дыпламант некалькіх прадстаўнічых міжнародных і ўсесаюзных фестываляў, ён з нязменным поспехам выступае на Беларусі і за яе межамі — у Францыі, Германіі, Польшчы. Рэпертуар ансамбля ахоплівае як песні, так і танцы, як арыгінальныя ўзоры народнай творчасці, так і густоўныя апрацоўкі, прадстаўляючы велізарны пласт мастацтва, што склалася на прасторы ад Буга да Дняпра, ад Прыпяці да Дзвіны. Калектыў выконвае таксама мноства іншаславянскіх — рускіх, украінскіх, польскіх песень і танцаў. І можна было б гаварыць аб ім як аб адным з многіх, у шэрагу тых, што ўпрыгожваюць святы і вечарыны і прадстаўляюць беларускае самадзейнае мастацтва за мяжой, калі б не меў ён таго непаўторнага аблічча, што ўва многім вызначае нязменны поспех у публікі. Пазнаёміўшыся зблізку з працай «Руні», я зразумела, здаецца, сакрэт яго асаблівага, ні з чым непараўнальнага шарму. Ён, на маю думку, у той незвычайнай значнасці, якую надаюць кіраўнікі ансамбля — І.Абразевіч, В.Варановіч, М.Дудчанка, Г.Чыпінская — кожнаму яго ўдзельніку.



Відавочна, што ў працэсе рэпетыцыйнай працы і канцэртных выступленняў кожны адчувае сябе салістам, прымай, а ансамбль не губляе сваёй цэласнасці. Тут няма «другасных» роляў, тут кожны рух і гук пазначаны пячаткай непаўторнасці і самакаштоўнасці, як імгненне вечнасці. Ці не гэта ўтварае спачатку незразумелы, амаль містычны эфект, які з кожнай хвілінай становіцца ўсё больш прыцягальным — эфект прысутнасці на сцэне мнагалюднага, яркага, святочнага, рознакаляровага харавога і танцавальнага калектыву, у той час як рэальная колькасць удзельнікаў «Руні» разам з ансамблем інструменталістаў не дасягае і 20 чалавек. Такі дзіўны вынік абумоўлены і поліфункцыянальнасцю, шматрольнасцю кожнага спевака-танцора, які настолькі віртуозна і імгненна змяняе маскі, што глядач не паспявае заўважыць момант гэтай змены, а бачыць толькі яе вынік: той самы артыст (а варта падкрэсліць, што сярод іх няма ніводнага прафесійнага танцора ці спевака), які толькі што выконваў вясёлую народную песню, быццам не стрымаўшыся, пусціўся ў скокі, каб праз некалькі хвілін зноў заспяваць, але ўжо нешта зусім іншае — працяжную, лірычную мелодыю. Пры гэтым увесь канцэрт выглядае як цэласная, разгорнутая на адным дыханні феерычная дзея, што жыве па сваіх вельмі натуральных унутраных законах.

Верагодна, спецыялісты маглі б паспрачацца адносна чысціні і адэкватнасці ўвасаблення першасных, уласна фальклорных формаў у той другаснай, якой непазбежна з'яўляецца мастацтва самадзейнае. Але вынік менавіта гэтага, канкрэтнага вопыту падаецца досыць пераканаўчым. Бо галоўнае, што нават пры змене «літары» твора беспамылкова ўгадваецца і захоўваецца ў мастацкім вырашэнні гэты асаблівы, ні з чым не параўнальны дух — святочны, карнавальны, такі ўласцівы народнаму мастацтву беларусаў.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

КАНФЛІКТ

**Ад рэдакцыі:**

**Пасля публікацыі матэрыялу «Хачу быць з татам» у N 14 за 6 красавіка ў рэдакцыю звярнулася жанчына, якая пазнала сябе ў гераіні артыкула і, нягледзячы на сапраўды жахлівыя факты, прыведзеныя ў ім, пажадала даць адказ, падпісаны сваім сапраўдным прозвішчам (праўда, у самую апошнюю хвіліну перадумала, і таму мы называем яе так, як назваў наш карэспандэнт — Ірынай). Нам цяжка меркаваць, ці знойдзе ліст, напісаны сыну, шлях да ягонага сэрца. Пакуль жа, як гаворыць Ірына, ён кідае трубку, пачуўшы яе голас.**

**Прызнацца, нас насцярожыла, што на хутчэйшай публікацыі жанчына настойвала, мякка кажучы, празмерна агрэсіўна. Аднак яна мае права на сваё слова. Таму мы даем ёй магчымасць выказацца, не змяніўшы ў яе лістах літаральна ніводнай фразы.**

**Але ці паставіць жыццё канчатковую кропку ў гэтай сапраўды трагічнай гісторыі?**

---

**Паважаная рэдакцыя!**

**У нумары Вашай газеты за 6.04.94г. апублікавана «непрыдуманая» гісторыя «Хачу быць з татам».**

**Звяртаюся да Вас як гераіня гэтага пасквіля з абурэннем, невыносным болем і крыўдай у душы. Мне не хацелася б псаваць кар'еру маладзенькага аўтара артыкула і прыцягваць яго да адказнасці за недакладнасць фактаў. Недахоп жыццёвага вопыту прымусіў яго падысці аднабакова да нашай складанай гісторыі. Сам таго не ведаючы, ён стаў распаўсюднікам брыдкага пляткарскага апавядання маёй былой свякроўкі. А цяпер мой былы муж носіцца з Вашай газетай па маіх родных, суседзях і знаёмых, растлумачваючы, хто Ірына, хто Віцёк, а хто Мікалай.**

**Трэба было дакладна разабрацца ў справе, прагледзець пратаколы васьмі судовых пасяджэнняў, а ўжо потым рабіць якія-небудзь высновы.**

**Я і прасіла аб гэтым карэспандэнта, але Ваш супрацоўнік нават мае словы перайначыў і зусім не звярнуў увагі на маю споведзь.**

**У мяне да Вас просьба.**

**У парадку абвяржэння надрукуйце мой ліст да сына. Спадзяюся, Вы не адмовіце ў гэтай просьбе і дасцё мне шанц дабрацца да ісціны ва ўсведамленні майго дзіцяці.**

**З павагай**
**Ірына.**

---

**Сыночак, хлопчык мой родны!**

**Я звяртаюся да цябе са старонак газеты, у якой 6 красавіка 1994 года быў апублікаваны артыкул пра нашу сям'ю пад назвай «Хачу быць з татам». Калі б карэспандэнт, што напісаў гэты артыкул, звярнуўся да матэрыялаў суда, што вынес рашэнне аб перадачы цябе мне на выхаванне, ён не стаў бы друкаваць яго ў тым выглядзе, у якім артыкул убачыў свет. У гэтым матэрыяле гісторыя нашай сям'і выстаўлена на ўсеагульную ганьбу са слоў тваіх бабулі і таты. Зараз табе цяжка разабрацца ў тым, што адбылося, але ж калі ты пасталееш, ты зразумееш, як несправядліва і жорстка абышліся яны са мной і з табою таксама. Яны пазбавілі цябе дзяцінства, цягаючы з сабою па судах і прымушаючы адмаўляцца ад маці. Яны прымусілі цябе пакутаваць, расказваючы брудныя плёткі пра маці. Але я спадзяюся на тое, што і ў свае 12 гадоў ты здолееш адрозніць праўду ад маны. У гэтым артыкуле ніводнага слова не гаворыцца аб тым, што я амаль кожны вечар пасля працы ездзіла ў анкалагічны цэнтр да паміраючага дзядулі з перадачамі, пакідаючы цябе з маёй маці, а калі вярталася, дык было ўжо запозна рабіць з табою хатнія заданні. Самастойна займацца ты не хацеў, таму і схапіў дзве «двойкі» за чвэрць. У артыкуле ж напісана, быццам бы я ў гэты час вяла разбэрсанае жыццё. Так лічаць твой тата і ягоная маці — Бог ім за гэта суддзя!**

**У артыкуле нічога не гаворыцца пра тое, што твой бацька біў і абражаў мяне, біў цябе рамянём за самую малую правіннасць, калі мы жылі разам. Гэта зараз ты верыш, што тата «перарадзіўся на 100 працэнтаў» — гэта твае словы, ці не так? Але чалавек не можа перарадзіцца! Твой тата застаўся такім, як быў. Ты папытайся ў яго, чаму ён раней не аддаваў табе такой увагі, чаму ён раней быў грубы і жорсткі з табою? Калі б ён заўсёды быў такі выдатны бацька — мы ніколі б не разышліся і на мой лёс не прыпала б столькі пакутаў. Ты папытайся ў яго, чаму ён ставіўся да мяне як да прыслугі, без цяпла і пяшчоты, караючы за самае малое непадпарадкаванне. А ці праўда, што я не начавала дома і прыходзіла дадому п'яная? Ты бачыў калі-небудзь такое?**

**Успомні, мой хлопчык, як часта твой тата выганяў мяне з хаты «са сваім ублюдкам» (гэта ты так называўся тады) за тое, што я дакарала яго за ляноту і эгаізм, за яго скоцкія, спажывецкія адносіны да мяне?**

**Зараз табе кажуць, што тата біў мяне за няварнасць. Дык папытайся ў яго, чаму ж ён сам не скасаваў шлюб з такою жонкай раней?! І чаму пры скасаванні шлюбу ён не ставіў пытанне аб перадачы цябе яму, а не такой «паўшай» жанчыне — п'яніцы і распусніцы?**

**Ты памятаеш, пасля скасавання шлюбу тата пайшоў жыць да сваіх бацькоў? Папытайся ў такіх уважлівых сёння да цябе таты, бабулі і дзядулі, чаму яны на працягу некалькіх месяцаў не перадалі табе ні ласуначка, ні капеечкі? Яны ж ведалі, што я не атрымліваю ад таты аліментаў на цябе. (Тата прасіў не ганьбіць яго — я і не ганьбіла яго аліментамі, верыла, што ён сам будзе прыносіць. Толькі ж ён выдзяляў нам капейкі, і то — пасля маёй слёзнай просьбы). Папытайся ў яго таксама, чаму ён ні разу не наведаў цябе, калі мы пераехалі жыць (дарэчы, па тваёй ініцыятыве) да маіх бацькоў і зусім не дапамагаў нам матэрыяльна?**

**Хай адкажуць табе тата і ягоная маці, чаму яны патрабавалі, каб я выпісала цябе з кватэры бацькі, калі ты быў для іх такі дарагі? Чаму яны не пагаджаюцца замацаваць за табой дакументальнае права атрымаць у спадчыну сумесна нажытую намі маёмасць і лецішча, якое абяцалі перапісаць на мяне ў адказ на тое, што я не стала дзяліць жылплошчу? Не перапісалі на мяне і не хочуць афармляць дамову на тваю карысць, тым самым ставяць мне ўмовы: адмовіцца ад мацярынства і выплочваць менавіта з месца працы на цябе аліменты. Ты не ўяўляеш, які гэта сорам для жанчыны!**

**Вось толькі калі я згаджуся на практычнае пазбаўленне мяне мацярынства, упэўнена, тады яны згодзяцца замацаваць за табой права на спадчыну.**

**Сынок, але ж ты ведаеш, я ніколі не была сквапнай і заўсёды дзялілася апошнім, я ніколі не шукала карысці для сябе. Я спадзяюся, што калі ты вырасцеш, ты строга спытаеш з таты: «Навошта ты зрабіў мяне сіратою пры жывой маці?» Ты сам адвернешся ад такога бацькі, а ён у парыве зласлівасці выставіць табе вялікую дулю.**

**Маючы такі горкі вопыт мацярынства, я больш ніколі не рызыкну заводзіць дзяцей. Ты маё адзінае дзіця, і ўсё, што дастанецца мне, будзе тваім абавязкова. Таму я думаю, пакуль яшчэ не позна, судзіцца са сваім былым мужам, тваім бацькам, за справядлівы падзел сумесна нажытай маёмасці. Паўтараю, толькі таму, што ён не хоча афармляць юрыдычна дамову на тваю карысць.**

**Вернемся да артыкула, які ты, безумоўна, прачытаў. Ты калі-небудзь бачыў, каб дзядзька Лёша спаў са мной, калі мы жылі на кватэры? Ці не на тваіх вачах зараджалася сімпатыя паміж мной і сённяшнім маім мужам? І ці не табе першаму спадабаўся наш гаспадар? Ці не ты сватаў яму ў жонкі на самым пачатку сваю любімую цётку і тым самым марыў з ім парадніцца? Хіба я не раілася з табою, выходзіць ці не выходзіць за яго замуж, калі ён прапанаваў мне руку і сэрца? І ці ты сапраўды прасіў у таты па тэлефоне забраць цябе да яго, як напісана ў гэтым артыкуле? Хіба не забралі цябе з піянерлагера бабуля і тата за два дні да заканчэння лагернай змены, а потым цябе быццам бы як падмянілі?**

**А ў выніку судовых разбірацельстваў на месцы былой тваёй любові нарадзілася нянавісць ды пагарда да той, якая дала табе жыццё? Гэта вынік подлай псіхалагічнай апрацоўкі тваёй нясталай свядомасці з боку бабулі і таты. Як мне ні цяжка жыць без цябе, я згаджалася на тое, каб ты жыў з бацькам, калі табе з ім добра. Я добраахвотна ўдзельнічала матэрыяльна ў тваім выхаванні, калі нідзе не працавала. Дзядзь- ка Лёша сам перасылаў табе грошы, але тату вельмі патрэбна была мая ганьба, таму ён і распачаў гэты судовы працэс. Але дзякуй Богу, ёсць справядлівасць на гэтым свеце, таму рашэнне суда было не на ягоную карысць. Але я не буду забіраць цябе сілай. Я не стамлюся чакаць цябе. Я вельмі цябе люблю і мне невыносна балюча бачыць тваё адчужэнне і варожасць.**

**Сёння твой тата збіраецца раздрукаваць гэты ганебны, неаб'ектыўны, падманлівы артыкул з расшыфроўкай сапраўдных імёнаў герояў і даслаць усім маім суседзям, родным і блізкім людзям.**

**Больш балюча, чым ён ужо зрабіў, ён не зробіць. Ён адабраў цябе ў мяне.**

**Гэта самае страшэннае пакаранне, якое можна было б прыдумаць.**

**Зараз жа ён дэманструе сваю подласць і нізкасць. Беднае маё дзіця! Даруй, што я, не разабраўшыся, дала табе жыццё ад такога чалавека і не перасцерагла цябе ад яго пасля скасавання шлюбу. Як самая апошняя ідыётка, я казала табе: тата ёсць тата, ніхто не заменіць табе бацьку. Ты схадзі да яго ў госці, з'ездзі на рыбалку, на лецішча.**

**Я нават і ўявіць сабе не магла, што тата будзе выкарыстоўваць цябе як зброю помсты за тое, што я не вярнулася да яго, выслухаўшы ягоныя прабачэнні і новыя абяцанні. Я павінна была, «як змяя», прыпаўзці за табою. Я б, магчыма, і «прыпаўзла», каб ты гэтага захацеў, але ты па наіўнасці зрабіў няправільную выснову: калі побач была мама — тата быў зласлівым і жорсткім, а калі мамы няма побач — тата ўважлівы, добры, справядлівы. Ты сам не пажадаў, каб я вярталася. А тата пасля гэтата абураўся: якая ты маці — зязюля!**

**Я спадзявалася, што ты хутка вернешся да мяне. Упрошвала твайго тату не цягаць цябе па судах, не мардаваць маной ды паўпраўдаю тваю дзіцячую душу.**

**Успомні, як весела і бесклапотна ты гуляў з Лёшкам ды Дзімкам, калі мы жылі на кватэры, у футбол, у «вайнушку», тэніс, ганяў на ровары і збіраўся пераходзіць у іншую школу. Ты не чуў крыку, знявагаў, абразаў. З насалодай слухаў музыку. «Дзядзька Лёша» набыў спецыяльна гульнёвую прыстаўку да тэлевізара, ведаючы, як падабаюцца табе камп'ютэрныя гульні. Набыў скейт, аб якім ты так доўга марыў. А зараз суседзі мне кажуць, што яны не бачылі даўно ўсмешкі на тваім твары. Ты адрозніваешся ад усіх дзяцей у класе — расстроены, сумны.**

**Хлопчык мой! У мяне разрываецца сэрца па табе! Я гатовая ненавідзець твайго бацьку і тваю бабулю за тое, што яны так атруцілі тваю душу. Бог іх пакарае, вось убачыш.**

**Сыночак! Бяжы ад гэтых жорсткіх, злых, нервова хворых людзей! Тата — адмысловы крывадушнік, ён трымаецца, пакуль цягнецца суд. Потым ён выявіць сваё сапраўднае аблічча. Людзі не перараджаюцца. Я — усё тая ж мама, якую ты абдымаў пры расставанні ў піянерлагеры, і тата — той жа.**

**Я больш не буду табе надакучваць. Я цябе чакаю!**

**Ірына.**

---

# «ВЫТРЫМАЦЬ І НЕ ЗЛАМАЦЦА»

**... Не магла без хвалявання чытаць у N 17 газеты «Культура» пад рубрыкай «Крык душы» ліст-споведзь хлопца, што трапіў у складаныя, амаль безвыходныя жыццёвыя абставіны. Не ведаю, чым я магу дапамагчы яму, што параіць, таму і вырашыла проста расказаць пра сябе. Магчыма, мой аповяд падтрымае юнака маральна, дапаможа зразумець, што ягоная гісторыя — не выключэнне, а, хутчэй, правіла, закон нашага сённяшняга жыцця. Трэба мець мужнасць, каб асэнсаваць гэта, вытрымаць і не зламацца.**

**... Скончыўшы Мінскі інстытут замежных моваў, я трапіла па накіраванні на адзін са сталічных заводаў у аддзел тэхнічнай інфармацыі. Не магу пахваліцца, што мая праца прыносіла задавальненне, але перспектыва працаваць у вясковай школе выкладчыцай французскай мовы, як большасць маіх аднакурсніц, мне падабалася яшчэ меней. Тры гады таму наш аддзел ліквідавалі, і я пайшла на курсы бухгалтараў, бо бухгалтар сёння амаль што застрахаваны ад пануючага паўсюль беспрацоўя. Цяжка было вучыцца працаваць з лічбамі, складаць справаздачы, тым больш што ніколі не мела схільнасці да дакладных навук. Але жыццё прымусіла...**

**Пасля атрымання адпаведнага пасведчання з дапамогай сяброўкі ўладкавалася ў нядаўна створаную так званую навукова-вытворчую фірму. Вось дык пашчасціла! Дырэктар фірмы, малады хлопец гадоў трыццаці, з натхненнем распавядаў мне пра свае вялікія планы ды праекты, якія мусяць у будучым даць добры прыбытак. Ён планаваў наладзіць вытворчасць мэблі па арыгінальных эскізах, з выкарыстаннем не пластыка, як на вялікіх мэблевых фабрыках, а з натуральнага дрэва, марыў знайсці рынак збыту нават за мяжой. Першы год працы нашага маленькага прадпрыемства пайшоў на шматлікія арганізацыйныя праблемы: пошук памяшкання, набыццё абсталявання, матэрыялаў, падбор спецыялістаў-дрэваапрацоўшчыкаў... Але на гэтым нашыя поспехі скончыліся.**

**Вельмі хутка мы зразумелі, што ва ўмовах інфляцыі, што нясецца галопам, як незацугляны конь, з'ядаючы ўвесь прыбытак ад рэалізацыі прадукцыі, мы паступова, але няўмольна "вылятаем у трубу" разам са сваімі рамантычнымі праектамі. Цэны ж падвышаюцца штомесяц, а то і часцей. Да таго ж падатковая інспекцыя (мы яе называем "падатковая паліцыя") выцягвала ўсё, што заставалася пасля інфляцыйнай "буры". Я падлічыла нават, што на кожную тысячу рублёў прыбытку мы плоцім 980 (!) рублёў розных падаткаў. Амаль кожныя паўгода ўзнікаюць новыя падаткі — на рэгуляванне рознічных цэнаў, на падтрымку жылога фонду і да т.п. На маю думку, як толькі ў бюджэце ўтвараецца чарговая "дзірка", — нейкія разумныя "дзядзькі" адразу ж ствараюць новы падатак. Чаму ж яны, гэтыя "дзядзькі", не разумеюць, што забіваючы (а іншага слова я проста не магу знайсці) малы і сярэдні бізнес, тых, хто хоча адрадзіць ВЫТВОРЧАСЦЬ у нашай краіне, а не толькі гандляваць "Марсамі" ды "Топікамі", яны забіваюць нашую будучыню і будучыню нашых дзяцей?**

**Калі мы САМІ не выратуем нашу гінучую эканоміку, дык ні аб'яднанне грашовых сістэм з Расіяй, ні Захад нам не дапамогуць. І не трэба спадзявацца на цуд.**

**... А наш дырэктар вымушаны быў пакінуць мары аб якаснай і таннай мэблі і заняцца, як і ўсе, камерцыяй. Мы набывалі і перапрадавалі тое-сёе з бытавой тэхнікі, але асаблівага поспеху не мелі. Канкурэнцыя... Цяпер нашая фірма знаходзіцца на мяжы банкруцтва. Хутка мы ўсе**



**зноў застанемся без працы. Часта даводзіцца чуць, што, маўляў, камерцыйныя структуры ва ўсім вінаватыя, што гэта яны "цягнуць коўдру на сябе". Няпраўда гэта. Існуюць, безумоўна, вялікія кампаніі з такімі ж вялікімі "сувязямі". У такіх, як той казаў, "усё схоплена, за ўсё заплочана". Іх і падаткі не палохаюць, і рэкет не турбуе...**

**А маленькім фірмам ды фірмачкам цяжка, амаль немагчыма выжыць, імкнучыся выцягнуць саміх сябе за валасы з таго балота, у якім яны апынуліся, як слынны барон Мюнхаўзен калісьці...**

**Барон, кажуць, уратаваўся неяк, а мы — ці здолеем?..**

**Наталля ЛІТВІНАВА.**

г.Мінск.




## з 4 па 8 мая

## Серада, 4 мая

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Пад купалам Сусвету.
8.20 Надвор'е.
8.30 Пяць хвілін на жарты.
8.35 «Дарогі кабзарскія». Фільм-канцэрт.
9.00 Тэлебачанне — школе. Суровая праўда вайны (аповесць Васіля Быкава «Жураўліны крык»).
9.35 Рэклама.
9.45 «Семнаццаць імгненняў вясны». 4-я серыя.
11.00 Аэробіка.
12.40 Тэлевізійны Дом кіно. Сямейная парачка.
13.30 Навіны.
15.25 «Нов і К»-топ-10.
16.25 Планета людзей. Паказвае тэлеканал «Уорлднет» (ЗША).
16.55 Асацыяцыя дзіцячай прэсы прадстаўляе: «Зрабі сабе кар'еру».
17.30 Навіны (з сурдаперакладам).
17.40 Майстэрня. Творчае аб'яднанне «Няміга-17».
18.10 Абласныя навіны (Гомель).
18.25 Навіны Бі-бі-сі.
19.00 «Пяць зорак». Тэлегульня.
20.00 Бізнес-рынг. Аўтамабільны рынак Беларусі.
20.30 Кантакт.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 Пад купалам Сусвету.
21.45 Пяць хвілін на жарты.
21.50 Рэклама.
22.00 «Семнаццаць імгненняў вясны». 5-я серыя.
23.15 «Дзесяць мінут плюс стагоддзе». Перадача 2-я.
23.25 Надвор'е.
23.35 НІКа.
23.50 «Мінск-94» І Міжнародны джазавы фестываль

**Канал «Астанкіна»**

5.15 Ранішняя размінка.
5.30 Раніца.
7.45 Агляд рынку нерухомасці.
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 22.30 Навіны.
8.20 Сарока.
8.40 «Пецярбургскія тайны». Маст. фільм.
9.40 Клуб падарожнікаў.
10.30 Джэм.
14.25 Прадпрымальнік.
15.20 «Прыгоды Тома Соера».
15.50 Джэм.
16.20 Адказы.
16.50 Загадка СБ.
17.25 Тэлерадыёкампанія «Мір».
17.55 «Пецярбургскія тайны». Маст. фільм.
18.55 Тэма.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Маналог.
20.55 Хакей. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу.
23.30 Праграма «Х».

**Канал «Расія»**

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі.
6.20 Патрабуюцца...
6.30 Формула-730.
7.00 Час дзелавых людзей.
7.30 Добрай раніцы, Еўропа.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30 Некалькі радкоў пра каханне...
8.45 Момант ісціны.
9.40 Сялянскае пытанне.
15.20 Студыя «Рост».
15.50 Там-там навіны.
16.05 Тэлегазета.
16.15 Далёкі Усход.
17.00 Здарова жывеш.
17.15 Прыватная калекцыя.
17.45 Свята кожны дзень.
17.55 Не быць дыназаўрам.
18.10 L-клуб.
19.25 Падрабязнасці.
19.35 «Санта-Барбара».
20.25 Рэпарцёр.
20.40 «Усё на продаж?»
21.15 60 мінут.
22.40 Аўтаімгненне.
22.45 Зоркі гавораць.
22.50 Спартыўная карусель.
22.55 Футбол. Фінал Кубка ўладальнікаў кубкаў. «Парма» (Італія) — «Арсенал» (Англія). У перапынку—Экран крымінальных паведамленняў.

**Санкт-Пецярбург**

7.00 «Хачу Месяц». Мультфільм.
7.10 «Скарбы каменнага пояса». Дак. фільм.
7.30 Кінаўспаміны. «Дзяцінства» (Францыя).
8.15 Казка за казкай.
9.00 Нямецкая хваля.
9.30 «На парозе ночы». Маст. фільм.
10.15, 11.40, 14.40 Музычны момант.
10.20 Тэлемагазін.
10.30 Хуткая дапамога.
11.00 Новы Пецярбург.
11.30, 14.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
11.45 «Абстракцыя ў фарбах».
12.05 «Жаваранак». Маст. фільм.
13.40 «Дзень памінання». Фільм аб манастыры вострава Валаам.
14.45 Казка пра адважнага каваля». Маст. фільм.
15.45 Куток Расіі. Вялікія Лукі.
16.05 Крыжыкі-нулікі.
16.45 Вялікі фестываль.
17.00 Спецкар.
17.30 «На парозе ночы». Маст. фільм.
18.15 «У мяне ў кішэні». Мультфільм.
18.50 Спорт.
19.05 Будні.
19.20 Тэлемагазін.
19.25 «Чыста англійскае забойства». 1-я серыя.
20.45 «Альтшоусы». Праграма Сямёна Альтава.
20.55 М. В. Гогаль. «Нос». Фільм-спектакль.
22.00 Спартыўныя навіны.
22.10 Ваш стыль.
22.20— 23.40 «Чыста англійскае забойства». 2-я серыя.

**8-ы канал**

18.00 Аб'явы. Рэклама.
18.05 Мультфільм «Падарожжа Гулівера». 2-я частка.
18.35 Маст. фільм «Ад'ютант яго правасхадзіцельства». 3-я серыя.
19.45 Журфак БДУ прадстаўляе...
19.55 Серыял «Хіл Стрыт Блюз».
20.45 «Лёс». 58-я серыя.
21.25 Опра Уінфры шоу. «Бацькі і сыны, як ім зразумець адзін аднаго».
22.10 Справы надзённыя.
22.20 «Бяда, якая здарылася з Тэмпі». Маст. фільм.
23.10 Музычная праграма.
23.25 Рэклама. Аб'явы.

## Чацвер, 5 мая

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Пад купалам Сусвету.
8.20 Надвор'е.
8.30 Пяць хвілін на жарты.
8.35 «У горад прыехаў клоун». Фільм-канцэрт.
8.55 Рэклама.
9.05 «Семнаццаць імгненняў вясны». 5-я серыя.
10.20 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Навальнічная далеч памяці».
12.15 «Дзесяць мінут плюс стагоддзе». Перадача 2-я.
12.25 Радавод. «Пранясі, божа, хмару...»
13.30 Навіны.
15.00 Відзьма-нявідзьма.
16.00 Мы такія розныя. Музычна-забаўляльная праграма з удзелам дзіцячых мастацкіх калектываў.
17.00 Тэлебачанне — школе. Заўсёды з народам (Пятрусь Броўка і яго паэзія).
17.30 Навіны (з сурдаперакладам).
17.40 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. Тэлеклуб «Пошук».
18.10 Абласныя навіны (Гродна).
18.25 Навіны Бі-бі-сі.
19.00 Зачытайце маё пісьмо...
19.05 Гаспадар. Агародніна для горада.
19.40 Дзелавая размова. Сустрэча з генеральным дырэктарам Мінскага завода шасцерняў В. Г. Багданавым.
20.10 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
20.25 Пяць хвілін на жарты.
20.30 Кантакт.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 Пад купалам Сусвету.
21.45 Рэклама.
21.55 «Семнаццаць імгненняў вясны». 6-я серыя.
23.10 Надвор'е.
23.20 НІКа.
23.30 Студыя «Сэнс» у Берастаўіцкім раёне; Рэпартаж з конкурсу «Гарадзенская прыгажуня». Пасля заканчэння — футбол. «Дынама-93» (Мінск) — «Днепр» (Магілёў).

**Канал «Астанкіна»**

5.15 Ранішняя размінка.
5.30 Раніца.
7.45 Агляд рынку нерухомасці.
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 22.30 Навіны.
8.20 Паглядзі, паслухай...
8.45 «Пецярбургскія тайны». Маст. фільм.
9.45 У свеце жывёл (з сурдаперакладам).
10.20 ...Да 16 і старэйшым.
11.20 Госці з'язджаліся на дачу... Пра дзяцей-інвалідаў, выхаванцаў дзіцячых дамоў.
14.25 Прадпрымальнік.
15.05 Як дабіцца поспеху.
15.20 «Прыгоды Тома Соера».
15.50 Спяваюць варонежскія дзяўчаты.
16.10 ...Да 16 і старэйшым.
16.50 Тэхнадром.
17.25 За кулісамі. Згода ў Расіі і Садружнасць.
17.45 Дакументы і лёсы.
17.50, 20.35 Надвор'е.
17.55 «Пецярбургскія тайны». Маст. фільм.
18.55 Чалавек з глыбіні пейзажу. Аўтарская праграма Ю. Нагібіна.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Лато «Мільён».
20.55 Хакей. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу. У перапынку (21.40) — Вагон 03.
23.30 Бумеранг.

**Канал «Расія»**

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі.
6.20 Патрабуюцца...
6.30 Формула-730.
7.00 Час дзелавых людзей.
7.30 «Настальжы».
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30 Мульці-пульці. «Жыў адважны капітан».
8.35 Паехалі.
8.45 «Санта-Барбара».
9.35 Тэлегазета.
9.40 Сялянскае пытанне.
10.10 «Санта-Барбара».
15.20 «Дзень добры, Камчатка». Дак. фільм.
15.30 Прыгоды ваўчара.
15.50 Там-там навіны.
16.05 Новая лінія. «Ствары дабро...»
16.50 Мульці-пульці.
17.00 Будні.
17.30 Панове-таварышы.
17.45 Свята кожны дзень.
17.55 У свеце аўта- і мотаспорту.
18.25 Свая гульня.
19.25 Падрабязнасці.
19.35 «Санта-Барбара».
20.25 Ніхто не забыты.
20.30 Бясшумныя лідэры.
21.00 «Пацалунак», «Нараджэнне Эрота». Мультфільмы для дарослых.
21.20 Правінцыяльныя пісьмы. «Саратаўскія інтэлігенты».
22.40 Аўтаімгненне.
22.45 Зоркі гавораць.
22.50 Спартыўная карусель.
22.55 Экран крымінальных паведамленняў.
23.05 Вячэрні салон.

**Санкт-Пецярбург**

7.00 Мультфільмы.
7.20 «Сам-насам з музыкай». Іграе В. Рэпін.
8.10 «Малінавая кошка». Музычная казка для дзяцей.
9.00 Нямецкая хваля.
9.30 «На парозе ночы». Маст. фільм.
10.15, 12.00, 14.40 Музычны момант.
10.20 Тэлемагазін.
10.30 Хуткая дапамога.
11.00 Сем сланоў.
11.30, 14.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
11.40 «Шайбу, шайбу!» Мультфільм.
12.05 «Іспанская актрыса для рускага міністра». Маст. фільм.
13.45 «О-ля-ля!»
14.15 «Самы паважаны». Мультфільм.
14.45 «Мікалай Рэрых». Навукова-папулярны фільм.
15.40 Спявае К. Плужнікаў.
16.05 Урок нямецкай мовы.
16.20 Танцуем усе.
16.35 Па сакрэту ўсяму свету.
16.45 Вялікі фестываль.
17.00 Рэформа і ўлада.
17.30 «На парозе ночы». Маст. фільм.
18.15 «Казка аб чароўным гранаце». Мультфільм.
18.50 Спорт.
19.05 Будні.
19.20 Тэлемагазін.
19.25 «Бацька салдата». Маст. фільм.
21.00 Блеф-клуб.
22.00 Спартыўныя навіны.
22.10 Ваш стыль.
22.20— 23.50 «Вячэрні звон».

**8-ы канал**

18.00 Аб'явы. Рэклама.
18.05 Мультфільм «Падарожжа Гулівера». 3-я частка.
18.30 «Ад'ютант яго правасхадзіцельства». 4-я серыя.
19.40 Мультфільм «Прамудры пячкур».
19.50 Тэлесерыял «Лабірынт правасуддзя». «Кот і мышка».
20.40 «Навіны», ММ-4.
20.55 «Лёс». 59-я серыя.
21.10 «Файт». Кікбоксінг.
21.55 Сямейнае кола.
22.05 «Сустракайце доктара Хрысціяна». Маст. фільм.
23.30 Рэклама. Аб'явы.

## Пятніца, 6 мая

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Дзелавая хроніка.
8.20 Пад купалам Сусвету.
8.30 Надвор'е.
8.40 Пяць хвілін на жарты.
8.45 «Драўляныя рамёствы». Кінанарыс.
9.00 Тэлебачанне — школе. Заўсёды з народам (Пятрусь Броўка і яго паэзія).
9.40 Семнаццаць імгненняў вясны». 6-я серыя.
10.55 «Пяць зорак». Тэлегульня.
11.55 «Спявае Муслім Магамаеў».
12.40 Студыя «Тэлесябрына». Ад першай калыханкі.
13.15 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
13.30 Навіны.
15.40 Еўрапейскі калейдаскоп.
16.10 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Вызваленне». Гомель.
16.50 Латарэя аўтографаў. Пазнавальна-забаўляльная праграма для школьнікаў.
17.30 Навіны (з сурдаперакладам).
17.40 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. Выступленне паэта-франтавіка Пятро Прыходзькі.
18.00 Дзелавая хроніка.
18.10 Абласныя навіны (Магілёў).
18.25 Навіны Бі-бі-сі.
19.00 Футбол. «Дынама» (Мінск) — «Дынама» (Брэст).
19.50 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Так гэта было...» Расказвае Мікалай Прохаравіч Чайка, былы танкіст.
20.10 Студыя «Тэлесябрына». Падарункі на добры настрой.
20.25 Пяць хвілін на жарты.
20.30 Кантакт.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 Пад купалам Сусвету.
21.45 «Шура і Прасвірняк». Маст. фільм.
23.15 Надвор'е.
23.25 Рэйтынг.
23.40 НІКа.
23.55 «Мінск-94». І Міжнародны джазавы фестываль.

**Канал «Астанкіна»**

5.15 Ранішняя размінка.
5.30 Раніца.
7.45 Агляд рынку нерухомасці.
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.00 Навіны.
8.20 «Эх, Таптыгін, Таптыгін». Мультфільм.
8.30 У гасцях у казкі. «Птушынае малако».
9.30 Футбол. На шляху да Уэмблі.
10.30 Творчасць народаў свету.
14.25 Дзелавая хроніка.
14.35 Брыдж.
14.55 Бізнес-клас.
15.10 У гасцях у казкі. «Птушынае малако».
16.10 Ты помніш, таварыш...
16.50 Азбука ўласніка.
17.25 Навіны культуры.
17.40 Чалавек і закон.
18.15 Японія з А. Калошыным.
18.45 Поле цудаў.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 «Дэн Огаст». Маст. фільм (ЗША). Фільм 2-гі.
21.45 Чалавек тыдня.
22.05 Святочны мікрафон. Канцэрт, прысвечаны Дню радыё.
23.45 Музагляд.
0.25 Аўта-шоу.

**Канал «Расія»**

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі.
6.20 Патрабуюцца...
6.30 Формула-730.
7.00 Час дзелавых людзей.
7.30 Рэтра-шлягер.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30 Мульці-пульці.
8.40 Паехалі.
8.50 «Санта-Барбара».
9.40 Сялянскае пытанне.
15.20 Студыя «Рост».
15.50 Там-там навіны.
16.05 Ваенны кур'ер.
16.20 Новая лінія. «Востраў».
16.50 Дысней па пятніцах. «Дзеці, якія вельмі многа ведалі». 1-я серыя.
17.45 Тэлегазета.
17.50 Свята кожны дзень.
18.00 «Фрак народа».
19.25 Падрабязнасці.
19.35 «Востраў скарбаў». Маст. фільм.
21.50 Я — лідэр.
22.40 Аўтаімгненне.
22.45 Зоркі гавораць.
22.50 Спартыўная карусель.
22.55 Футбол. Паўфінал Кубка Расіі. «Дынама» (Масква) — «Спартак» (Масква).
0.40 «Жоўтая падводная лодка».

**Санкт-Пецярбург**

7.00 «Мумі-Троль і іншыя». Мультфільм 1-ы.
7.20 Бенефіс А. Буйнова.
8.15 Залаты ключ.
8.25 Па сакрэту ўсяму свету.
8.35 Дзецям пра зveранят.
8.50 Мультфільм.
9.00 Нямецкая хваля.
9.30 «На парозе ночы». Маст. фільм.
10.15, 11.55, 14.40 Музычны момант.
10.30 Хуткая дапамога.
11.00 «Сярэбраная ніць».
11.30, 14.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
11.40 Урок нямецкай мовы.
12.00 «Наўздагад».
12.20 «Вандроўны аўтобус». Маст. фільм.
14.10 «У мяне ў кішэні». Мультфільм.
14.45 «Кашчэй Бессмяротны». Паводле оперы-казкі М. А. Рымскага-Корсакава.
15.55 Залаты ключ.
16.05 Кідайка.
16.45 Вялікі фестываль.
17.00 Новы Пецярбург.
17.30 «На парозе ночы». Маст. фільм.
18.15 «Хто самы дужы». Мультфільм.
18.50 Спорт.
19.05 Будні.
19.20 Тэлемагазін.
19.25 Тэатральная правінцыя.
19.55 «Акварэлі Валошына».
20.15 Дэтэктыў на тэлеэкране. «Круты паварот».
21.30 «Густаў». Частка 3-я.
22.00 Спартыўныя навіны.
22.10 Ваш стыль.
22.20 Футбол. «Змена-Сатурн» (СПБ) — «Нафтахімік» (Ніжнякамск).
23.05—0.50 «Ранча». Маст. фільм (ЗША).

**8-ы канал**

18.00 Рэклама.
18.05 Шматсерыйны фільм «Карусель», мультфільм «Самы марудны пісталет».
18.30 СОЛТЭК. «Дорэмі-фасолькі».
18.35 «Ад'ютант яго правасхадзіцельства». 5-я серыя.
19.50 Журфак БДУ прадстаўляе.
20.00 «Хіл Стрыт Блюз», «Выконваючы абавязкі капітана».
20.50 Справы надзённыя.
21.00 «Лёс». 60-я серыя.
21.40 Час мясцовы.
22.00 «Асуджаны на жыццё». Маст. фільм.
23.05 Музычная праграма.
23.25 Рэклама. Аб'явы.

## Субота, 7 мая

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Пяць хвілін на жарты.
8.15 Пад купалам Сусвету.
8.25 Надвор'е.
8.35 «Шура і Прасвірняк». Маст. фільм.
10.05 Здароўе. Тэлечасопіс.
10.35 Паказвае Магілёў.
11.05 Тыдзень планеты.
11.20 Шматгалоссе. Народы Беларусі: іх гісторыя, культура.
12.20 «Веснавая элегія». Фільм-канцэрт.
12.45 «Сталіца». Тэлечасопіс.
13.05 ТА «Рэха». 20 хвілін рэдактара.
13.25 П. Зюскінд. «Кантрабас». Спектакль тэатра-студыі пад кіраўніцтвам Р. Таліпава.
14.55 «Дзесяць запаведзяў». Перадача 4-я.
15.25 «Мой маленькі поні».
16.00 Папараць-кветка. Шоу-віктарына для старшакласнікаў.
17.00 «Нов і К»-топ-10.
18.00 «Пакуль гарыць свечка...» Ганна Ахматава.
18.30 Закон і мы. Прыватызацыя жыллёвага фонду Беларусі.
18.55 «Чарапашкі ніндзя». Мультфільм.
19.30 «Пяём і славім». Музычная праграма.
20.30 Пяць хвілін на жарты.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 Пад купалам Сусвету.
21.45 «Зоркі на экране». «Час слуг» (Чэха-Славакія).
23.50 НІКа.
24.00 Каскад.
0.15 «Дняпроўская вясна-94». Міжнародны шахматны фестываль.
0.35 Відзьма-нявідзьма.

**Канал «Астанкіна»**

6.20 Ранішняя размінка.
6.35 Суботняя раніца дзелавога чалавека.
7.10 Азартныя гульні.
7.40 Слова пастыра. Маральная пропаведзь Мітрапаліта Смаленскага і Калінінградскага Кірыла.
8.00 Поклік джунгляў.
8.30 Тэлерадыёкампанія «Мір» прадстаўляе: «Цік-так». Дзіцячая праграма. Тэлесерыял «Галерэя першых персон». Фільм 2-гі «Прэзідэнт Рэспублікі Партугалія»; «Па слядах «Сатурна». Прысвечана 50-годдзю Перамогі (Беларусь).
9.35 Ранішняя пошта.
10.05 Медыцына для цябе.
10.35 Урачыстае ўручэнне Міжнароднага балетнага прыза Бенуа.
12.00 Дак. фільм «Яго вялікасць футбол».
12.30 «На вайне як на вайне». Маст. фільм.
14.00, 22.30 Навіны.
14.25 «Рынальда Рынальдзіні — атаман разбойнікаў».
14.50 Карабахская драма: шлях да згоды.
15.20 «Жыццё заапаркаў» (ЗША).
16.00 Шчаслівы выпадак.
16.50 Да і пасля. Вядучы — У. Малчанаў.
17.40 «Гановер-стрыт». Маст. фільм (ЗША).
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Навіны плюс.
20.45 Маналог.
20.55 Хакей. Чэмпіянат свету. Паўфінал.
23.30 Тэлешоу «50 х 50».

**Канал «Расія»**

7.00, 13.00, 19.00, 22.20 Весткі.
7.25 Мульці-пульці.
8.00 Студыя «Рост».
8.30 «Белыя плямы гісторыі Сібіры».
9.00 Казкі для бацькоў.
9.30 Пілігрым.
10.15 «Як жыць будзем?»
11.00 «Музычная гісторыя». Маст. фільм.
12.25 Сігнальны экземпляр.
12.35 Тэлеэрудыт.
12.40 Сялянскае пытанне.
13.20 Вялікі хакей.
13.50 Ізабэль. Забаўляльная віктарына.
14.55 XX век у кадры і за кадрам. «Побач з Зорге».
15.25 Футбол без граніц.
16.20 Шарман-шоу.
17.20 Вуснамі дзіцяці.
17.50 «Геній». Маст. фільм. 1-я серыя.
19.25 Свята кожны дзень.
19.35 «Геній». 2-я серыя.
21.05 Зусім сакрэтна.
21.55 Тэлеэрудыт.
22.00 Каробка перадач.
22.40 Аўтаімгненне.
22.45 Зоркі гавораць.
22.50 Спартыўная карусель.
22.55 Праграма «А».
23.55 «Бітва трох каралёў». Маст. фільм. 5-я серыя.

**Санкт-Пецярбург**

7.00 «Мумі-троль і іншыя». Мультфільм 2-гі.
7.15 «Ранча». Маст. фільм (ЗША).
9.00 Нямецкая хваля.
9.30 «Вячэрні звон» у ранішнім эфіры.
10.15 «Хто самы дужы». Мультфільм.
10.30 Хуткая дапамога.
11.00 Канцэрт па заяўках.
11.30 Тэледоктар.
11.45 Танцуем усе.
12.00 «Удовы». Маст. фільм.
13.40 «Рамаяна». Фільм-спектакль.
15.30 Спартыўны агляд.
16.00 Зебра.
16.45 Вялікі фестываль.
17.00 Аўтапілот.
17.15 Крымінальнае дасье.
17.35 «І хлеб, і песня». Выступаюць фальклорныя ансамблі С.-Пецярбургскай кансерваторыі.
18.10 Экспрэс-кіно.
18.30, 21.45 Інформ ТБ.
18.55 Б. Брэхт. «Прывіды». Фільм-спектакль.
20.30 «Вазьмі мяне з сабой». Маст. фільм.
22.00 Ваш стыль.
22.10 Адам і Ева +.
22.40—23.55 «Ганна Главары». Фільм-аперэта.

**8-ы канал**

15.00 Аб'явы. Рэклама.
15.30 ММ-4. «Прапаведнік Кенет Коўпленд».
16.00 Сямейны экран. Маст. фільм «Дзе ваш сын?»
17.20 «Роздум аб джазе».
18.10 Кароткаметражны фільм «На краю» з серыі «Зігзагі жыцця».
18.35 «Скрытая камера». Камедыйнае шоу.
19.00 Шалом з Іерусаліма.
20.00 Тэлечасопіс «Відзамода».
20.25 Стрэс-пауза.
20.30 «Скарбы Святой Зямлі».
21.00 СОЛТЭК, «Спартыўная мазаіка».
21.30 Сем мінут з «Хрыстафорам».
21.40 «Як справы, старына?». Андрэй Місін.
22.10 Сямейны круг.
22.20 «Правал у памяці». Маст. фільм. З серыі « Я — шпіён».
23.10 Музычная праграма.
23.30 Рэклама. Аб'явы.

## Нядзеля, 8 мая

**Беларускае тэлебачанне**

7.50 Раніца рэспублікі.
8.00 Пад купалам Сусвету.
8.10 Пяць хвілін на жарты.
8.15 Слова да чалавека.
8.45 Урокі здароўя.
9.05 Тэлеклуб «Гаў-гаў».
9.45 «Чарапашкі ніндзя». Мультфільм.
10.20 Нядзельная пропаведзь свяшчэнніка Алексія Шынкевіча, настаяцеля праваслаўнага прыхода Святога Архангела Міхаіла (г. Жодзіна).
10.35 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. Справы вайсковыя.
11.20 Любімыя песні майго дзеда. Музычная перадача да Дня Перамогі.
12.00 Аэробіка.
12.35 MTV. Лепшыя хіты.
13.05 Вяскоўцы. У саўгасе за Дняпром. Рэчыцкі раён.
13.35 АВС-клуб. Англійскую мову вучым самі.
13.50 «КВЗ-94». Чвэрцьфінал.
15.20 Беларусы ў Амерыцы. Перадача 7-я.
16.05 Кінаэкран-94. Май.
17.05 «Гінес-шоу».
17.35 «Чарапашкі ніндзя».
18.10 З панядзелка... Кветкі ветэранам.
18.40 Запрашаем на вячоркі. Веснавы кірмаш. Вёскі Сянькі Смаргонскага раёна.
20.00 Панарама.
20.35 Пад купалам Сусвету.
20.40 Калыханка.
21.00 Пяць хвілін на жарты.
21.10 «Бакстэр». Маст. фільм (Францыя).
22.45 «Не забудзьцеся ўключыць тэлевізар».
22.55 Міжнародны шоу-турнір па кікбоксінгу.

**Канал «Астанкіна»**

6.45 Ранішняя размінка.
7.00 Гадзіна сілы духу.
8.00 Без паузы.
8.30 Раным-рана.
9.00 Палігон.
9.30 «Спортлато».
9.45 Пакуль усе дома.
10.15 Ранішняя зорка.
11.05 Смак.
11.20 Музычная кінапраграма.
11.50 Марафон-15.
12.30 Малыя гарады Расіі.
13.00 «Піф і Геркулес».
13.10 «Падводная адысея каманды Кусто».
14.00, 17.00, 22.30 Навіны.
14.20 Тэлерадыёкампанія «Мір».
15.00 Клуб падарожнікаў.
15.50 Шпаргалка.
15.55 «Кот Фелікс», «Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды».
16.55 Жывое дрэва рамёстваў.
17.15 «Я — лёгкадумны грузін». Б. Акуджава.
18.15 Тэлелоцыя.
18.35 «Меладрама з замахам на забойства». Маст. фільм.
20.00 Нядзеля.
20.45 Спартыўны уік-энд.
20.55 Хакей. Чэмпіянат свету. Фінал.
23.30 Сусветны конкурс відэакліпаў.

**Канал «Расія»**

7.00, 13.00, 19.00, 22.20 Весткі.
7.25, 12.40, 13.50, 17.50, 23.55 Апаленая Перамога. Загінуўшым і жывым прысвячаецца.
11.15 «Вернасць». Маст. фільм.
13.20 Залатая шпора.
16.55 «Гуфі і яго каманда», «Чорны плашч».
18.25 У Ксюшы.
18.45 Свята кожны дзень.
19.25 «Жаваранак». Маст. фільм.
21.10 Без рэтушы.
22.40 Аўтаімгненне.
22.45 Зоркі гавораць.
22.50 Спартыўная карусель.

**Санкт-Пецярбург**

7.00 «Гаючае слова». Праграма-набажэнства.
7.30 «Шлях дамоў». Мультфільм. Фільм 3-і.
7.50 «Цыганскі барон». Маст. фільм.
9.10 Экспрэс-кіно.
9.30 «На парозе ночы». Маст. фільм.
10.15 Сам-насам з музыкай.
11.00 Нядзельны лабірынт.
12.30 «Пудзіла». Мультфільм.
13.30 Этнасы Зямлі.
14.00 Гістарычны альманах.
14.45 «Паліклініка ката Леапольда». Мультфільм.
14.55 «Бераг прынцэсы Люські». Маст. фільм.
15.45 «Слова Андронікава». Фільм 1-ы.
16.45 Дж. Вэрдзі. «Рэквіем. Меса». Пры ўдзеле Лучана Паварoці.
18.30 Інформ ТБ.
18.55 «Арлекінада». Балет на музыку Дрыга.
20.00 «У кампаніі з... камп'ютэрам».
20.45 «Альтшоусы».
20.55 Ваш стыль.
21.05—22.35 Наша кіно. «Падранкі».

**8-ы канал**

15.00 Аб'явы. Рэклама.
15.05 Праграма аб здароўі «Жыццёвы выбар». «Заплыў да здароўя».
15.30 ММ-4. «Нямецкая хваля».
16.00 ММ-4. «Прапаведнік Кенет Коўпленд».
16.30 Тэлесерыял «Заліў Небяспечны».
17.00 Спартыўная панарама.
18.00 СОЛТЭК «Тэлефэн». «Вуліца».
18.30 ММ-4. «Бізнес-план».
18.50 «Дэрсу Узала». Маст. фільм.
21.05 Казанне айца Міхала.
21.10 Дзікая Амерыка. «Выдумкі жывёльнага свету».
21.40 Тэлечасопіс «Відэамода».
22.05 «Зямля смелых». Маст. фільм.
23.30 Рэклама. Аб'явы.

# ЮР'Е НА ДВАРЫ, КАРОЎКУ Ў ПОЛЕ ГАНІ




Юраўскае свята ў народным календары адносіцца да вясенняга цыкла абрадаў і звычаяў. Яно выпадае на 6 мая, якраз той час, калі вясна на Беларусі апранала зямлю і ўвесь раслінны свет у зеляніну, а сонейка надзейна сагравала зямельку сваім цяплом і ласкай.

Карані гэтага свята паходзяць яшчэ з язычніцкай рэлігіі, у якой хрысціянскаму вобразу святога Юрыя па сваіх дзеяннях і прызначэнню адпавядаў Бог Вялес — ахоўнік свойскай жывёлы і дабрадзей у хатняй гаспадарцы, а таксама Лель і Лада — боствы вечнай маладосці, раслінnасці і моцы.

У беларускай міфалогіі Юрый уяўляецца стаўленікам Бога сярод людзей, які быццам бы адмыкае абуджаную пасля зімовага сну зямлю і пускае на яе расу, ад якой усё жывое на зямлі набірае рост і моц. Вось як падаецца гэта ўяўленне ў адной з песен Юраўскага цыкла:

*Ты, Юр'я, святы ключнік,*
*Сядлай каня варанога,*
*Едзь у поле ў чыстае,*
*Адамкні зямлю, пусці расу,*
*Пусці расу на ўсю вясну,*
*І густую, і частую,*
*І цёплую, і мокрую,*
*І на кожны цвет,*
*І на ўвесь белы свет.*

Па народных уяўленнях святы Юрый «замыкаў раты» ўсім звярам, ахоўваў статак, штодзень аглядаў каласістыя палі і засцерагаў іх ад розных прыродных стыхій.

Утылітарная сутнасць гэтага свята абумоўлена чыста гаспадарчымі патрэбамі: зелянела на лузе траўка і пара было выпускаць на пашу свойскую жывёлу, на сялянскай ніве дружна падаліся ў расткі жыта і пшаніца — трэба было «праведаць ніўку», памаліцца ёй і Багам на багаты ўраджай, а зыходзячы з вераванняў продкаў, карысна было і чалавеку акрапіцца юраўскай расою, каб набрацца моцы і здароўя на ўвесь працоўны сялянскі год.

Для кожнага члена сям'і Дзень святога Юр'я пачынаўся з усходам сонейка. Да выгану жывёлы ў поле стараліся закончыць усе хатнія работы. І як толькі пастушкі зайграюць у ражок, маладзіцы і старэйшыя жанчыны выходзілі ў двор, каб «правесці кароўку ў поле».

Першы выган кароў на пашу суправаджаўся рознымі абрадавымі дзеяннямі, накіраванымі на захаванне жывёлаў ад звяроў і злых чараў мясцовых ведзьмакоў. З гэтай мэтай, выпускаючы карову на двор, на парозе ў хляве клалі крапіву і сыпалі пасвянцоны мак. У двары тройчы абходзілі кароўку са свечкай, хлебам, соллю і яйкам, асвечаным на Вялікдзень. У многіх мясцовасцях у час такіх абходаў абкурвалі жывёлу дымам. Пры гэтым гаварылі:

*З Богам, кароўка, на пашу!*
*Будзь здарова цэлы год,*
*Як зямля і лёд!*

На Старадарожчыне, выпраўляючы карову ў поле, замаўлялі яе:

*Ідзі, мая кароўка,*
*У зялёную дуброўку.*
*Каб пад сонейкам хадзіла,*
*Пад месячкам не блудзіла,*
*Шаўкову травіцу з'ядала,*
*Крынічную вадзіцу співала!*
*Прынясі, Божа, з поўнымі цыцамі,*
*З густым малачком,*
*Тваражок-тваражышча*
*На масліца біцца!*

Выганялі кароўку са двара абавязкова галінкаю вярбы, якую пасвянцілі ў царкве або касцёле ў вербную нядзелю. У варотах на выхадзе са двара таксама клалі замок ці сякеру, хлеб, соль і велікоднае яйка, праз якія жывёла павінна была пераступіць.

У гэты ж дзень адорвалі пастушкоў салам, блінамі, яйкамі, зернем, гарэлкаю, зычылі ім добрага здароўя і наказвалі спраўна глядзець статак на працягу года. Нярэдка, сабраўшы добрую «займанку», пастушкі наладжвалі вечарам гулянне, чаму ў многіх вёсках гэты дзень адзначаўся яшчэ і як свята пастухоў.

Выгнаўшы жывёлу на пашу, кожны гаспадар ішоў з усёю сям'ёю на агледзіны ўласнай нівы. З сабою неслі выпечаны круглы хлеб, соль, гарэлку і іншыя пачастункі. Напрыклад, на Навагрудчыне, прыйшоўшы на мяжу сваёй нівы, гаспадар прыпадаў перад ёю на калена і, трымаючы ў руках хлеб-соль, вітаўся:

*Добры дзень, ніва святая!*
*Віншуем з хлебам і соллю*
*І святым Юр'ем!*
*Каб Бог і Юрый*
*Пацешылі надвор'ем,*
*Ураджаем і здароўем!*

Затым усёй сям'ёй абыходзілі поле, пасля чаго тут жа каля жыта садзіліся снедаць.

На Палессі гэты абрад праводзіўся больш складана. Напрыклад, у Жыткавіцкім раёне на агледзіны нівы хадзілі ўсёй вёскай, першапачаткова зрабіўшы абход кожнага двара ў сваёй вёсцы.

Падобныя абходы мелі рытуальнае значэнне. Абыходзячы падвор'е ці поле з маленнямі і прашэннямі да Багоў, беларусы верылі ў ахоўную сілу магічнага круга, які яны рабілі ў час такіх абходаў і які, на іх думку, павінен быў засцерагчы падвор'е і поле ад навальніц, граду, пажару і г.д.

У гэты ж ранак кожны імкнуўся абмачыцца юраўскай расою, якая быццам бы давала чалавеку, як і ўсяму жывому на зямлі, здароўе і сілу. На поўдні Міншчыны пра гэты звычай гавораць і сёння: «Ідзём калаціць росу». Дзеля гэтага босыя бегаюць па траве каля жыта, ходзяць па жыту, нават качаюцца ў ім.

Заканчваліся ж агледзіны нівы і хаджэнне на юраўскую расу гуляннем на лугу, побач з хлебным полем, на расістай юраўскай траве. Засцілалі абрус, ставілі на яго гарэлку, клалі хлеб, бліны, яйкі, мяса, сала, каўбасы. Пасля добрага пачастунку дружна спявалі юраўскія песні, расказвалі легенды і паданні пра святога Юрыя, якіх нямала ведаюць у нашай старонцы. Меншыя дзеткі гулялі ў даганялкі, куляліся, качаліся па чыстай і расістай юраўскай траве. Дзяўчаткі збіралі вясеннія кветкі, вілі і надзявалі на галаву прыгожыя вяночкі.

З Юраўскім днём звязаны многія прыкметы ў народзе: глядзелі, ці схаваецца ў жыце варона: як схаваецца, добры будзе ўраджай, а не — чакалі «галодны год»; калі на Юр'я няма расы, то не будзе і ўраджаю. Многія падобныя прыкметы зафіксаваны ў беларускіх прыказках і прымаўках: «Да Юр'я павінна быць сена і ў дурня», «Юр'ева раса — не трэба каню аўса», «Як на Юр'я пагода, то на грэчку няўрода», «Калі на Юр'я роса, то сей грэчку і проса», «Як Юрый з цяплом, то Мікола з кармом» і многія іншыя.

**Уладзімір СЫСОЎ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

ВЕРСІЯ

# ПУШКІНЫ. АДКУЛЬ ЯНЫ?

У горадзе Магілёве, у цэнтральнай частцы Машэкаўскіх могілак (раён Юбілейны), ёсць невялічкае пахаванне. Надпіс сведчыць, што тут у мінулым стагоддзі пахаваны «младенец Александр Пушкин». Давялося чуць такое меркаванне: «А ці не меў ён нейкіх адносін да паэта А.С.Пушкіна? Магчыма, апошні, праязджаючы праз Магілёў, паспеў пакінуць тут нашчадкаў. А мо ягоныя сваякі перасяліліся сюды?»

Адкуль жа ўзяліся Пушкіны на Беларусі? Давайце паразважаем. Аляксандр Сяргеевіч выводзіў свой радавод ад «Григория Пушки, который в XIII веке пришёл из Новугородка». Звяртаю вашу ўвагу на прозвішча. Часта яго паходжанне звязваюць са словам «пушка» ў абазначэнні артылерыйскай зброі. Але ў XIII ст. такой зброі на тэрыторыі Беларусі і Масковіі не ведалі. Ды і пазней у Маскоўскім княстве яе называлі па-рознаму. Значыць, напачатку слова «пушка» мела нейкае іншае тлумачэнне. І яно ёсць у беларускай мове.

У беларуска-расійскім слоўніку чытаем: «Пушка, пушачка — коробка, коробочка». Яшчэ зусім нядаўна слова гэтае ўжывалася ў асобных мясцінах Слаўгарадчыны. Вось мы і наважыліся выказаць меркаванне: «Пушкіны ў Маскоўскае княства прыйшлі з Беларусі».

На карысць такое высновы, як нам падаецца, — яшчэ два факты. Яны датычаць геральдыкі.

Вядомы расійскі знаўца геральдыкі А.Б.Лакіер у сваёй кнізе «Русская геральдика» (СПб, 1855г.) пісаў наконт гербаў радоў прышлых: «то из немец, то из Семиградской земли, то, наконец, из земель славянских». Да «прышлых» ён адносіць і герб Пушкіных (мал.N1). Яго Лакіер апісвае наступным чынам: тарча (шчыт) падзелена



на дзве паловы, у верхняй у гарнастаевым полі — сімвале чысціні — ляжыць, на пурпурнай падушцы з залатымі кутасамі, княская шапка. Ніжняя палавіна таксама падзелена на дзве часткі: у правай, на блакітным полі — рука з мячом, у левай — на залатым полі блакітны арол са скіпетрам і дзяржаваю ў лапах. Арол сведчыў аб сувязях з Прусіяй, а руку з мячом можна параўнаць, знайшоўшы поўнае падабенства, з гербам Мсціслава (спрадвечныя беларускія землі): на блакітным полі рука з мячом. А.Лакіер разглядае такі варыянт герба як адну з разнастайнасцяў герба «Пагоні».

У 1900 годзе выйшла кніга «Heraldyka» (СПб), на расійскай мове, у якой быў надрукаваны «Гербовник Витебского дворянства» паводле матэрыялаў рукапісу XVIII ст. На старонцы 164 паведамляецца: «Пушкины, герба «Шелига» издавна владели оседлостями в Новогородском, Минском, Мстиславском воеводствах». Герб «Шелига» напоўнены такімі складнікамі: у чырвоным полі залаты паўмесяц рагамі цягнецца ўгору, з сярэдзіны яго выходзіць залаты крыж. У нашлёмніку паўлінавыя пер'і (мал.N2). Узнікненне герба прылічаюць да XV ст., калі ў выніку ўпартай барацьбы праваслаўная шляхта дамаглася права мець свае гербы. У XV стагоддзе сягаюць карані Пушкіных з віцебскага гербоўніка.

Патрэбна заўважыць, што назву Новогород ці Новугород можна спрычыніць як да Ноўгарада, так і да Наваградка. Але той жа Лакіер ужывае назву Новугорад, калі піша: «князь Галицкий потерпел поражение и отступил к Новугородку». Хіба гэта не доказ, што размова ідзе пра сучасны беларускі горад Наваградак? Зважаючы на прыведзеныя вышэй звесткі, нам здаецца, можна зрабіць выснову — Пушкіны былі выхадцамі з беларускай зямлі і менавіта адсюль, а не наадварот, частка іх трапіла ў Маскоўскае княства.

Некалькі заўваг і меркаванняў наконт прозвішчаў Пушкіны, Пушкаровы і чаму гармата стала ў расейскай мове называцца «пушкай». З гістарычных крыніц вядома, што патрапіла гэтая зброя з Заходняй Еўропы ў Масковію праз Беларусь. Галоўным у ёй было не металічная труба, з якой нешта вылятала, а «адское зелле», вядомае пад назвай «порах». Яно было галоўным і каштоўным, бо без яго гармата не зброя. Хавалася «зелле» ў спецыяльнай скрыні — «пушке, пушечке», якую вазілі ўслед за металічнай часткай зброі. На скрыні звычайна сядзеў і ахоўваў яе вартавы. Вось ад назвы скрыні (пушкі), хутчэй за ўсё, і сталі пазней называць усю гармату пушкай у Расеі. А вартавога гэтай скрыні — Пушкаровым, Пушкаром і г.д.

**Ігар ПУШКІН,**
**дырэктар Музея гісторыі Магілёва.**

**Малюнкі аўтара.**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД.
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК).
вул..ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 7000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

